ЛіМ
Літаратура і мастацтва
ISSN 0024-4686
№8 (4603) 25 лютага 2011 г.

## У нумары:



# 97 — не ўзрост для існых барацьбітоў

**Анатоль КРЭЙДЗІЧ,**
**старшыня Брэсцкага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі,**
**фота Валерыя Караля**

**18 лютага Ганаровы грамадзянін Брэста, кавалер баявых і працоўных узнагарод СССР, член Саюза пісьменнікаў Беларусі, аўтар шматлікіх мастацка-публіцыстычных кніг Васіль Ласковіч адзначыў свой 97-ы дзень нараджэння.**

Дата хоць і не юбілейная, але... Але ж 97! Сам па сабе ўзрост для цяперашняга часу рэдкі — узрост доўгажыхара. А калі яшчэ прыняць да ўвагі тое, што кожны пражыты гэтым чалавекам год цалкам можна запісваць за два — вось вам і ўнікальны выпадак.

Васіль Ласковіч — легенда. Паплечнік Веры Харужай і Сяргея Прытыцкага, іншых змагароў за ўз'яднанне Заходняй Беларусі з БССР — СССР. Прайшоў праз выпрабаванні, праз турмы. Пасля працаваў старшынёй Камяніца-Жыравецкага сельсавета, загадчыкам камунальнага аддзела Брэсцкага райвыканкама. У гады вайны ваяваў у партызанскай брыгадзе "Народны мсціўвец" і іншых падраздзяленнях. Пасля вайны — следчы гарадской пракуратуры, намеснік старшыні гарвыканкама, начальнік упраўлення юстыцыі па Брэсцкай вобласці, загадчык аддзела Брэсцкага гаркама КПБ, памочнік пракурора Брэсцкай вобласці, навуковы супрацоўнік музея "Брэсцкая крэпасць-герой". У 2004 годзе ўзнагароджаны ордэнам Францыска Скарыны.

Успамінаючы мінулае, ветэран кажа, што, верагодна, сам лёс адмераў яму такі доўгі жыццёвы шлях, каб ён паспеў расказаць пра пражытае, пра камсамольцаў і камуністаў-падпольшчыкаў, разам з якімі змагаўся.

...Сям'я Ласковіча яшчэ да рэвалюцыі выехала ў Расію. Тады на ўсход былі эвакуіраваны многія жыхары Прыбужжа. Калі яны вярталіся на радзіму, то



апынаіліся ў куды горшых умовах. Паўсюдна беднасць, галеча, бясчынствы ўлад.

Васіль Ласковіч некалькі гадоў вымушаны быў жыць пад чужым імем, хавацца ад аблаў, што ўсчыналіся паліцыяй. Ён быў бясстрашным хлопцам, і не выпадкова яго рэкамендавалі ў шэрагі партыі.

Напрыканцы 1920-х гадоў у ваколіцах Брэста ўспыхнула ўзброенае паўстанне сялян супраць акупацыйнага польскага рэжыму. Адным з яго арганізатараў быў Васіль Ласковіч. Народны бунт жорстка задушылі, шматлікіх удзельнікаў кінулі за краты. Такі ж лёс напаткаў і Ласковіча. Умовы ў зняволенні жудасныя. Акрамя таго, вязняў падвяргалі жорсткім катаванням. Каля двух тыдняў паліцыянты спрабавалі выведаць у яго імёны і прозвішчы падпольшчыкаў, марылі голадам, ужывалі асабліва вытанчаныя метады дазнання. Да прыкладу, чалавека падвешвалі ўніз галавой, затыкалі рот анучай, а ў нос лілі ваду.

Васіль вытрымаў катаванні. Яго прыгаварылі да 10 гадоў зняволення. Але ўсяго тэрміну бунтар не адбыў. У 1939 годзе з турмы ў польскім горадзе Каронава, куды трапіў пасля шматлікіх перасылак, яму ўдалося збегчы.

Мірныя будні перапыніла Вялікая Айчынная вайна. Навучэнец Мінскай юрыдычнай школы Васіль Ласковіч, не разважаючы, сышоў добраахвотнікам на фронт. Праўда, пасля першых жа баёў яго здымаюць з перадавой і разам з групай так званых "заходнікаў" адпраўляюць у тыл, у сібірскі горад Томск.

Ён пісаў лісты ў самыя высокія інстанцыі, прасіў вярнуць яго ў дзеючую армію. Толькі пасля таго, як удалося выйсці на даўнюю знаёмую па камсамоле Веру Харужую, у яго лёсе адбыліся перамены.

З Сібіры Васіль едзе ў Маскву, па накіраванні ў спецшколу Наркамата абароны СССР, дзе на занятках па абясшкоджванні мін і вывучэнні нямецкай мовы сустракае чароўную дзяўчыну Валю. Па заканчэнні яны разам ваююць, кожны дзень рызыкуючы жыццём.

У 1943 годзе Васіля Ласковіча прызначылі камандзірам спецыяльнай разведдыверсійнай групы. З баямі ён прайшоў да самага фашысцкага логава. Праўда, побач не было баявой сяброўкі. Пасля цяжкай хваробы яе накіравалі ў тыл. Сустрэліся яны ўжо пасля вайны і на доўгія гады звязалі свае лёсы. Васіль Пятровіч прызнаецца, што менавіта жонка падштурхнула яго ўпершыню ўзяцца за пяро і апісаць усё, што пераажыў, успомніць баявых сяброў, расказаць нашчадкам праўду пра тое, як наш народ адстойваў сваю незалежнасць.

Васіль Ласковіч — аўтар кніг "Тайнымі сцежкамі", "З племені нескораных", "Подзвіг Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі", "Водгук далёкай навальніцы"...

*У дзень народзінаў Васіля Пятровіча наведалі і павіншавалі прадстаўнікі абласнога і гарадскога выканаўчых камітэтаў, ветэранскіх і грамадскіх арганізацый, Брэсцкага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі. Яны ўручылі пісьменніку кветкі, падарункі, пажадалі моцнага здароўя, даўгалецця, творчых поспехаў.*

# Сімвал нашай духоўнасці

**Ва ўрачыстай абстаноўцы прайшла перадача Беларускаму дзяржаўнаму ўніверсітэту факсімільнага выдання "Слуцкага Евангелля", здзейсненага стараннямі супрацоўнікаў Выдавецтва Беларускага Экзархата. Выбар адрасата невыпадковы — у гэтым годзе самай аўтарытэтнай і прэстыжнай ВНУ Беларусі спаўняецца 90 гадоў.**



**Ірына МАСЛЯНІЦЫНА,**
**фота Кастуся Дробава**

У фае будынка рэктарата БДУ ўдзельнікаў і гасцей мерапрыемства сустракалі кніжная выстаўка духоўна-асветніцкай літаратуры Выдавецтва Беларускага Экзархата і мужчынскі хор "Благовест", створаны на базе гэтай асветніцкай установы.

Гісторыю "Слуцкага Евангелля" дынамічна і ярка расказалі прысутным акцёры Камернага духоўнага тэатра. Яны дапамаглі пагрузіцца ў рэаліі далёкага XVI стагоддзя і адчуць трывожнасць і драматычнасць той эпохі, эпохі ганенняў на праваслаўных хрысціян з боку ўніятаў. Стварэнне праваслаўным слуцкім князем Юрыем Алелькавічам "Слуцкага Евангелля", на перапіску якога князь аддаў 1000 дзён уласнага жыцця і скончыў яе ўжо цяжкахворым, было для тых часоў сапраўдным падзвіжніцтвам. Кніга знікла падчас эвакуацыі ў 1941 годзе і лічылася загінуўшай. Аднак здарыўся цуд. Артэфакт уратаваў выпадковы чалавек, каб усё сваё жыццё, не ведаючы яго сапраўднай каштоўнасці, чамусьці трымаць побач з сабою…

Галоўным акордам мерапрыемства стала ўручэнне дырэктарам Выдавецтва Беларускага Экзархата Уладзімірам Грозавым двух факсіміле "Слуцкага Евангелля" для фундаментальнай бібліятэкі БДУ і бібліятэкі Інстытута тэалогіі БДУ.

Каштоўны падарунак мусіць стаць для тых, хто навучае, і тых, хто навучаецца, сімвалам духоўнасці і імкнення да ведаў.

***На здымку:** рэктар БДУ Сяргей Абламейка і першы прарэктар Інстытута тэалогіі БДУ, епіскап Бабруйскі і Быхаўскі Серафім.*

## Пункціры

Згодна адпаведнаму ўказу Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі дзяржаўнымі ўзнагародамі адзначаны 41 чалавек. У тым ліку ордэна Францыска Скарыны ўдастоены кіраўнік студыі ваенных мастакоў Цэнтральнага Дома афіцэраў Узброеных Сіл Беларусі Мікалай Апіёк і артыстка Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага музычнага тэатра Наталля Гайда. Медалём Францыска Скарыны ўзнагароджаны генеральны дырэктар Беларускай дзяржаўнай філармоніі Аляксандр Гарбар і дэкан архітэктурнага факультэта Беларускага нацыянальнага тэхнічнага ўніверсітэта Армен Сардараў. Ганаровае званне "Народны артыст Беларусі" нададзена кінарэжысёру Аляксандру Яфрэмаву.

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў народнага артыста Расіі Аскара Фельцмана з 90-годдзем. "У Беларусі ведаюць і цэняць вас як выдатнага кампазітара, аўтара любімых мелодый, чалавека, чыя творчасць збліжае краіны і народы", — гаворыцца ў віншаванні.

Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь узнагародзіла нагрудным знакам "Выдатнік друку Беларусі" супрацоўнікаў рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларусь" Сяргея Пешына, Ганну Валасач, Таццяну Касцяневіч, Тамару Паснянкову, Тамару Дзесюкевіч.

Беларусь пачала рыхтавацца да святкавання 120-годдзя з дня нараджэння Максіма Багдановіча. Вырашана да надыходу юбілейнай даты ў снежні 2011 года адрэстаўраваць дом у Траецкім прадмесці, дзе нарадзіўся вялікі паэт, падрыхтаваць энцыклапедыю "Максім Багдановіч", факсімільнае выданне паэтычнага зборніка "Вянок". У Гродне плануецца ўзвесці помнік паэту.

Прэзентацыя новага арыгінальнага выдання аповесці Уладзіміра Караткевіча "Дзікае паляванне караля Стаха" на чатырох мовах адбылася ў Кіеве, у зале Навуковага савета Нацыянальнай бібліятэкі Украіны імя Вярнадскага. Мерапрыемства было арганізавана Пасольствам Беларусі ва Украіне.

Выстаўка жывапісу і плакатаў, прысвечаных Кітайскай народнай рэспубліцы, была прадстаўлена ў Белдзяржуніверсітэце, а ў ліцэі БДУ прайшоў канцэрт, падрыхтаваны выкладчыкамі і студэнтамі Інстытута музыкі Чжэнцзянскага педагагічнага ўніверсітэта. Культурныя мерапрыемствы былі прапанаваны Пасольствам КНР у сувязі са святкаваннем Новага года па ўсходнім календары. У прэзентацыі праектаў прымалі ўдзел вядомыя дзеячы навукі і культуры Кітая.

Беларускія тэлегледачы падзеляць радасць трыумфатараў цырымоніі "Оскар". У ноч з 27 на 28 лютага ў прамым эфіры Першы канал пакажа 83-ю цырымонію ўручэння штогадовай прэміі Амерыканскай кінаакадэміі. А напярэдадні трансляцыі, 26 і 27 лютага, тэлегледачам будзе прапанавана падборка фільмаў-лаўрэатаў "Оскара" розных гадоў.

Расійскія калекцыянеры Ісаак і Людміла Кушніры перадалі ў дар музею Марка Шагала ў Віцебску 62 работы вядомага мастака Анатолія Каплана — ураджэнца Беларусі. Гэта — малюнкі, афорты з серыі ілюстрацый да твораў Шалом-Алейхэма, акварэльныя работы. У планах музея — прадставіць гэтую калекцыю асобнай выстаўкай, а таксама прадэманстраваць яе ў іншых гарадах Беларусі.

**Падрыхтавала Ірына МАСЛЯНІЦЫНА**

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# Будучыня айчыннай фантастыкі

**Завершаны конкурс "Новая беларуская фантастыка", які абвяшчаўся ў студзені мінулага года Саюзам пісьменнікаў Беларусі і Беларускім рэспубліканскім фондам. На конкурс прымаліся раней не публікаваныя празаічныя творы, напісаныя ў фантастычных жанрах. Усяго было даслана 114 літаратурных твораў 68 маладых аўтараў. Журы пад старшынствам Уладзіміра Кулічэнкі ацэньвала мастацкую выразнасць літаратурных вобразаў, дынамізм сюжэта, арыгінальнасць аўтарскіх ідэй.**

**Аляксандр ЭЙПУР**

Вынікі аказаліся нядрэннымі. Ужо нават азнаёміўшыся і з паловай прапанаваных твораў, журы канстатавала, што зямля беларуская талентаў нараджаць менш не стала, што хапае ў нас рамантыкаў, што не "завісла" наша моладзь у электронных "цацках" празаходняга ўзору з героямі, сэнс існавання якіх зводзіцца да знішчэння ворагаў, не лічачы патронаў і крыві. Для персанажаў фантастычных светаў, створаных нашай літаратурнай моладдзю, больш важна перамагчы сябе, свае комплексы і звычкі, стаць па-сапраўднаму вольным чалавекам, адчуць палёт творчасці і прыйсці ў захапленне ад прыгажосці Сусвету.

Умоўна ўдзельнікаў конкурсу можна было падзяліць на чатыры групы. У першай апынуліся людзі, талент якіх безумоўна пры патрэбнай ўпартасці выведзе аўтараў на прафесійны ўзровень. У другую журы залічыла няўрымслівых рамантыкаў, адчайных фантазёраў, якія з героямі сваімі без хістанняў кідаюцца ў бездань прыгод, аднак зусім не клапоцяцца пра манеру апавядання. Капіраванне класічных фраз, "нязграбныя" дыялогі, нагрувашчванне дзейнікаў. Герой у іх бясконца звявае, адчыняе і зачыняе дзверы, сядае на крэсла, кладзецца ў ложак, есць і п'е — хіба ж гэта цікава сучаснаму чытачу? Добраму рэдактару ў рукі такі тэкст — застанецца чацвёртая, а то і пятая частка ад яго, затое — самае важнае. І твор заблішчыць усімі фарбамі.

Трэцяя група аўтараў цікавая па-свойму. Яны валодаюць стылем і адчуваюць музыку слова. Крочыш з аўтарам па творы, чакаеш: вось-вось "завяжацца" галоўная інтрыга. Але ж не, сачыненне скончылася. Спрабуеш пераасэнсаваць — няўжо нешта праглядзеў? Дзеля чагосьці ж аўтар пісаў? І — нічога не знаходзіш.

Безумоўна, на падобных конкурсах прысутнічае і чацвёртая група аўтараў. Не надта хочацца казаць пра такіх, але куды ад іх падзецца! Гэта графаманы — ні сюжэта, ні добрага літаратурнага слова, ні спачування да чытача, якому давядзецца блукаць у "кісялі" слэнгаў і вулічнага жаргону.

Прад'яўляючы самыя высокія патрабаванні да мастацкага ўзроўню твораў, журы, хаця і вырашыла першае месца не прысуджаць нікому, адзначыла раман Кацярыны Войнікавай "Дары дракона" (II месца) і раман Андрэя Болатава "Панацэя" (III месца). Лаўрэатамі конкурсу таксама сталі: у намінацыі "Раман" Карына Васільева ("Кроў багоў"); у намінацыі "Аповесць" — пяць аўтараў; у намінацыі "Апавяданне" — сем аўтараў.

# Наперадзе — знакавыя падзеі

**Антаніна КІТ**

**Прайшло першае пасяджэнне абноўленага савета Брэсцкага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі.**

Старшыня савета Анатоль Крэйдзіч прапанаваў на разгляд шэраг надзённых пытанняў. Адно з найважнейшых — падрыхтоўка да святкавання Дня беларускага пісьменства, якое сёлета будзе ладзіцца на Берасцейшчыне, у г. Ганцавічы. Удзельнікі пасяджэння вылучылі ажно дзясятак прапаноў па насычэнні свята знакавымі ў літаратуры вобласці момантамі. Перш-наперш — усталяваць помнік герою трылогіі Якуба Коласа "На ростанях" — настаўніку Лабановічу. Перавыдаць "Літаратурную карту Берасцейшчыны", натуральна, дапоўненую і перапрацаваную. Прымеркаваць да свята ўручэнне абласной літаратурнай прэміі імя Уладзіміра Калесніка за 2011 год і ўзнагароджанне пераможцаў чарговага абласнога літаратурнага конкурсу "Суніцамі пахне Айчына…" для дзяцей і моладзі, прысвечанага 75-годдзю з дня нараджэння выдатнага беларускага паэта Міхася Рудкоўскага. Выдаць традыцыйны зборнічак лепшых твораў удзельнікаў папярэдняга аналагічнага літконкурсу "Доблесць продкаў — нашчадкам у спадчыну" для дзяцей і моладзі "Адкрыццё-2010"… Гучалі таксама прапановы падрыхтаваць да свята зборнік выбраных твораў Міхася Рудкоўскага з успамінамі пра яго. Арганізаваць дэсант літаратараў на Ганцаўшчыну, паднавіць мемарыяльныя дошкі, помнікі, іншыя знакі, якія ўвекавечваюць памяць выдатных пісьменнікаў краю.

Члены савета дамовіліся звярнуцца ў аблвыканкам з прапановаю закупіць у выдавецтве "Літаратура і Мастацтва" неабходную колькасць экзэмпляраў кнігі перакладаў з беларускай мовы на рускую брэсцкіх пісьменнікаў "Белой вежи свет" Валерыя Грышкаўца, у якой змешчаны творы больш як 100 аўтараў, для падарункаў гасцям пісьменніцкага свята, а таксама аказаць усемагчымую падтрымку ў выданні літаратурнага альманаха Брэсцкага абласнога аддзялення СПБ, брэсцкага нумара часопіса "Маладосць" (сёлета ён будзе не лістападаўскі, 11-ы, як пяць папярэдніх, а жнівеньскі, 8-ы, прымеркаваны якраз да свята).

30-годдзе абласной пісьменніцкай арганізацыі — яшчэ адна надзённая тэма, якой на пасяджэнні была нададзена належная ўвага. Заснавальнікам яе ў 1981 годзе і першым кіраўніком быў Уладзімір Калеснік. Члены савета сышліся на тым, што гэты юбілей варты не разавага мерапрыемства. Лепш за ўсё ў яго гонар ладзіць розныя акцыі на працягу года: юбілейныя літаратурныя вечарыны, сустрэчы з чытачамі, выступленні ў друку.

Абласная пісьменніцкая арганізацыя заклікае членаў нашага творчага саюза, літаратурную моладзь прыняць актыўны ўдзел у плануемых акцыях і мерапрыемствах. Дасылайце свае новыя і лепшыя літаратурныя творы на электронны адрас **krejdzich@tut.by** да канца сакавіка. А яшчэ мы спадзяёмся знайсці спонсараў, людзей, якія добра разумеюць: бізнес — гэта часовае, а мецэнацтва — вечнае.

## З нагоды

# У гонар試 опернай Легенды

**Ірына МАСЛЯНІЦЫНА, фота Наталіі Купрэвіч**

**Няпраўда, што легендамі лёсы людзей абрастаюць толькі праз стагоддзі. Ларыса Пампееўна Александроўская стала легендай яшчэ пры жыцці.**



Прыгажуня... Уладальніца рэдкага па дыяпазоне голасу, які даваў ёй магчымасць спяваць практычна любыя жаночыя партыі опернага рэпертуару… "Твар Беларусі" на вялікіх усесаюзных мерапрыемствах і ва ўяўленні іншаземцаў, што бачылі і чулі яе падчас гастроляў… Фактычная стваральніца, галоўная "зорка", а пазней — галоўны рэжысёр Беларускага тэатра оперы і балета. Людзі хадзілі на яе спектаклі як на свята. І верылі кожнаму яе руху, кожнаму праспяванаму слову. І плакалі ўголас, калі гераіня Александроўскай мусіла загінуць…

Гэта было правільнае рашэнне і прыгожы ўчынак — надаць імя Ларысы Александроўскай нядаўна адчыненай у яе тэатры камернай зале. А 107-годдзе вялікай спявачкі было адзначана яшчэ адной падзеяй — усталяваннем у гэтай зале бюста Александроўскай. Адкрыццё яго адбылося 18 лютага і сталася часткай урачыстага вечара, дадзенага беларускімі опернымі артыстамі ў гонар Ларысы Пампееўны. Аўтар скульптурнай работы Уладзімір Слабодчыкаў з вялікай любоўю перадаў той стан эмацыйнага ўздыму, раданасця зліцця з музыкай, у якім заўжды выходзіла на сцэну Александроўская. Калі ў самым пачатку вечара загучаў запіс голасу Ларысы Пампееўны, эфект прысутнасці быў надта вялікім.

Пра тое, якой была ў жыцці вялікая спявачка, расказала яе пляменніца, прафесар Арыядна Ладыгіна. Яна прадставіла публіцы сваю кнігу пра Ларысу Александроўскую, што ўбачыла свет у выдавецтве "Чатыры чвэрці".

А пасля распачаўся канцэрт, на якім з опернымі арыямі і дуэтамі, рамансамі і песнямі выступалі лепшыя галасы сучаснага опернага тэатра. Гучалі партыі, у якіх у свой час блішчэла сама Александроўская — і тыя, пра якія яна, магчыма, толькі марыла. Выступалі людзі, на творчы лёс якіх яна аказала непасрэдны ўплыў — народныя артысты Беларусі Віктар Чарнабаеў і Яраслаў Пятроў, заслужаны артыст Беларусі Віктар Стральчэня, — і таленавітая тэатральная моладзь. Які бліскучы дывертысмент пашанцавала пачуць аматарам музыкі, што ў гэты дзень прысутнічалі ў зале! І гучалі апладысменты, і ўскрыквалі ў зале: "Брава!" А вернутая скульптарам з небыцця Ларыса Пампееўна светла ўсміхалася пакаленню наступнікаў, тых, што няўрымслівa і апантана працягваюць справу, распачатую ёю і яе паплечнікамі.

***На здымку: тэнар Юрый Гарадзецкі праніклёна выканаў арыю Немарына з оперы Г. Даніцэці "Любоўны напой".***

Літабсягі

Ірына ТУЛУПАВА,
фота Кастуся Дробава

# Летапісец дзвюх эпох

**На філалагічным факультэце Белдзяржуніверсітэта адбыліся навуковыя чытанні, прысвечаныя 90-годдзю з дня нараджэння Івана Шамякіна. На сустрэчу прыйшлі родныя і блізкія, сябры і добрыя знаёмыя народнага пісьменніка Беларусі.**

Навуковыя дыскусіі распачаў дэкан філалагічнага факультэта, доктар філалагічных навук прафесар Іван Роўда. Чытанні Белдзяржуніверсітэт ладкуе сумесна з Інстытутам мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Акадэмік Уладзімір Гніламёдаў у сваім слове адзначыў пачатак ХХ стагоддзя, а менавіта 1920-я гады, як перыяд узнікнення ў літаратуры жанру рамана. "Івану Шамякіну ўласціва раманнае мысленне, — зазначыў Уладзімір Васільевіч. — А гэта не кожнаму дадзена". Першая ўдалая спроба ў гэтым жанры Івана Шамякіна, на думку даследчыка, — гэта раман "Глыбокая плынь". "Плынь…" зачаравала ўвесь былы Савецкі Саюз, ёю зачытваліся, яе перакладалі. Другая бясспрэчная ўдача — раман "Крыніцы". Прысутныя маглі пачуць пра гісторыю яго перапрацоўкі аўтарам і тое, як ашчадна, удумліва падыходзіў творца да ўжывання кожнага слова.

Выступоўцы падкрэслівалі: творчасць Шамякіна развівалася ў пошуку, і сёння яе трэба асэнсоўваць як павучальны ўрок. Міхась Мушынскі згадаў працу над падрыхтоўкай 23-томнага выдання твораў Івана Пятровіча, першыя тамы якога пабачылі ўжо свет у выдавецтве "Мастацкая літаратура". Міхась Тычына распавёў пра чалавечыя рысы характару творцы. Ды хто пра яго раскажа больш і праўдзівей, чым самыя блізкія, родныя людзі. Дачка Івана Пятровіча Таццяна Шамякіна падзялілася сваімі ўражаннямі: гэта быў чалавек з рамантычным светаадчуваннем. Летапісец дзвюх эпох — таксама пра яго. Магутныя творы пра вайну, складанасці пасляваеннага будаўніцтва. Памяняліся часы, у 1990-я гады — карэнным чынам. Але нават і ў блізкі нам час пісьменнік захаваў свой патэнцыял. Шамякін піша адзін твор за другім. Узмацніўся аналітычны падыход. Да ўсяго Іван Пятровіч пакінуў у літаратуры вялікую галерэю герояў — быццам энцыклапедыю людскіх характараў. Мала хто ведае, што ў маладосці творца пісаў вершы. Пачаў пісаць іх да вайны, пісаў падчас вайны. Студэнты філалагічнага факультэта прачыталі некалькі з іх. Прагучалі таксама вершы-прысвячэнні Шамякіну.

Праз усе чытанні, лірычным пралогам якіх стала песня ў выкананні любімай спявачкі Шамякіна Ганны Герман, тэма любові да роднай зямлі і яе насельнікаў-людзей праходзіла стрыжнявой лініяй…



***На здымку: Таццяна Шамякіна і студэнты філалагічнага факультэта Белдзяржуніверсітэта каля выстаўкі твораў Івана Пятровіча Шамякіна.***

Артлінія

# Юныя мастакі Гунэфы Мацюшэнкавай

Кацярына БЕЗМАЦЕРНЫХ,
фота аўтара

**Выстаўка вучняў выкладчыцы Слуцкай дзіцячай мастацкай школы Гунэфы Мацюшэнкавай ладзілася ў сталічным Рэспубліканскім экалагічным цэнтры дзяцей і юнацтва. Мерапрыемства ўвайшло ў праграму Міжнароднай канферэнцыі мастакоў-педагогаў "Сучасная мастацкая адукацыя дзяцей і моладзі".**

У экспазіцыі больш як 150 вучэбных і выпускных работ па прадмеце "Кампазіцыя", што збіраліся апошнія дзесяць гадоў. Гэтым слуцкім школьнікам ад адзінаццаці да сямнаццаці гадоў. Але ж іх смела акрэсліш — мастакі! Тут няма нудотных вучэбных заданняў, а ёсць нестэрэатыпнае мысленне і эксперыменты юных індывідуальнасцей. Таму многія з вучняў Гунэфы пазней паступаюць у вышэйшыя творчыя навучальныя ўстановы.

Спадарыня Мацюшэнкава скончыла мастацка-графічны факультэт Віцебскага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя С. М. Кірава. Як кіраўнік конкурсных работ узнагароджаная дыпломамі не толькі ў Беларусі, але і ў Бразіліі, Галандыі, Германіі, Македоніі… У, здавалася б, шараговай прафесіі педагога Гунэфа Мацюшэнкава знайшла сваё прызначэнне. Выкладанне — гэта творчасць! З асалодай сапраўднага інтэлектуала яна распрацоўвае сваю методыку практыкаванняў.

Вучыць дзяцей маляваць не так і проста. Напрыклад, дрэвы ў іх шаблонныя. "Дзеці, ну як гэта вам усё роўна: што яблыня, што бяроза!" — звяртаецца да вучняў настаўніца. Калі ў першым класе з Гунэфай малююць букет, то не з натуры, а на аснове натуры. "Паперастаўляйце кветкі, стварыце свой вобраз!" І пятнаццаці аднолькавых букетаў ужо не атрымаецца. Мастацкі вобраз — гэта няпроста для школьніка. "Якога чалавека вам нагадвае гэты збан? — запытваецца выкладчыца і дадае: "Мы колерам ствараем настрой!" А за адзін малюнак Гунэфа Мацюшэнкава можа паставіць не адну, а некалькі адзнак — за колер, лінію, вобраз. І дзіця ведае, над чым яму працаваць. Думае яна ўвесці і яшчэ адну адзнаку — за зменлівасць і развіццё творцы. А то як выбера дзіцё прыгожыя ўлюбёныя колеры — і малюе сабе цэлы год імі.

"Для працэнтаў васьмідзесяці малявалаць — гэта не прафесія, а дэсерт заморскі. Далёка не ўсе сем'і арыентаваны на станаўленне мастака. Таму запаліць агеньчык цяжка, але трэба", — падсумоўвае педагог-творца.



***На здымку: "Сельскі сюжэт" — малюнак адзінаццацігадовага Ільі Падалкі.***

Повязі

Дзяніс МАРЦІНОВІЧ,
фота Марыны Жакаўкі

# Зорка паэтычных палёў

**Сёлета споўнілася 75 гадоў з дня нараджэння вялікага рускага паэта Мікалая Рубцова. У сталічным Доме дружбы прайшла вечарына памяці творцы, арганізаваная Мінскай гарадской пісьменніцкай арганізацыяй.**



У літаратуры, на жаль, ёсць звыклая завядзёнка прызнаваць сапраўдны маштаб таленту шэрагу творцаў пасля іх смерці. Лёс Мікалая Рубцова не стаў выключэннем. Больш таго, ён толькі пацвярджае правіла. Фактычна сіроцкі лёс (ранняя смерць маці і рашэнне бацькі кінуць сям'ю). Цяжкае дзяцінства ў дзіцячым доме. Вандраванні па Расіі. Бытавая неўладкаванасць (першую аднапакаёвую кватэру Рубцоў атрымаў за два гады да смерці). Некалькі выдадзеных зборнікаў паэзіі, вядомасць у вузкіх літаратурных колах. А пасля трагічнага адыходу ў іншы свет у 1971 годзе — пасмяротная слава.

Для вядучай вечарыны, намесніка старшыні Мінскай гарадской пісьменніцкай арганізацыі Наталіі Касцючэнкі і гасцей мерапрыемства сустрэча стала магчымасцю зноў завітаць у свет паэзіі Рубцова і прызнацца ў любові свайму куміру. Найбольш цікавым падалося выступленне галоўнага рэдактара часопіса "Маладосць" паэтэсы Раісы Баравіковай, якая асабіста ведала Рубцова, мае яго кнігу "Зорка палёў" з аўтографам. У 1966 годзе яна паступіла ў маскоўскі Літаратурны інстытут, дзе паэт на той час вучыўся на завочным аддзяленні. Раіса Андрэеўна запомніла будучага класіка вечным студэнтам, дзёрзкім, калючым, непрыручаным, які мог хадзіць па красавіцкай сталіцы ў валёнках. Прызнавалася, што была адной з нямногіх людзей, да каго Рубцоў ставіўся з сяброўскай пяшчотай. Нават узгадала той факт, што ў архіве паэта пасля яго смерці знайшлі толькі адзін фотаздымак. На аматарскім кадры была адлюстравана… маладая Раіса Баравікова.

Для старшыні Мінскай пісьменніцкай арганізацыі Міхася Пазнякова Рубцоў стаіць у літаратуры побач з Цютчавым і Ясеніным. Паводле яго слоў, паэт перадаў дух жыцця Русі, непадзельнасць мінулага і сучаснага. Рубцоў — сапраўдны народны паэт, паэт рускага духу, які выявіў душу Расіі. Паэт Міхась Башлакоў узгадаў, што 12 гадоў працаваў настаўнікам. Такі лад жыцця падабаўся яму, бо на працягу двух месяцаў, падчас летніх вакацый, можна было вандраваць. Башлакоў заўсёды браў з сабой томік Рубцова. На думку прамоўцы, можна быць паэтам-трыбунам (як Еўтушэнка). А можна — паэтам шчырасці (як Рубцоў). Перакладчык Уладзімір Скарынкін, які ўвасобіў па-беларуску паэзію Мікалая Рубцова, прапанаваў удзельнікам мерапрыемства паслухаць асобныя творы паэта. Таксама ён узгадаў пра ўласную вандроўку ў Волагду, дзе ў 1986 годзе быў адкрыты помнік Рубцову.

***На здымку: галоўны рэдактар часопіса "Маладосць" Раіса Баравікова.***

З-пад пяра

У Віцебску пабывала дэлегацыя беларускага таварыства "Уздым" з Даўгаўпілса. Тут у Віцебскай дзяржаўнай філармоніі адбыўся творчы вечар сябра Саюза пісьменнікаў Беларусі паэта Станіслава Валодзькі. Падчас імпрэзы прагучаў канцэрт песень на яго вершы. Іх выконвалі спевакі з Даўгаўпілса, Браслава, Віцебска. На вечары прысутнічаў кампазітар Альберт Белусь, адзін з аўтараў, што паклалі на музыку паэзію Станіслава Валодзькі. Віноўніка ўрачыстасці павіншавалі прадстаўнікі Упраўленняў культуры Віцебскага гарвыканкама і Віцебскага аблвыканкама, а таксама дырэктар філармоніі Алена Падаляк і старшыня Віцебскага аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Тамара Краснова-Гусачэнка.

**Яніна ВАСІЛЕЎСКАЯ**

Памяць сусветна вядомага рок-музыканта з беларускімі каранямі Чэслава Немэна вырашылі ўшанаваць арганізатары арт-праекта "Дах ХІІ". Правядзенне імпрэзы сталася прыўрочана да 72-га дня яго нараджэння. Два вечары, 14 і 15 лютага, у Мінскім Палацы мастацтва па вуліцы Казлова гучала рок-музыка ў выкананні вядомых беларускіх гуртоў, ладзілі свае паказы тэатр "Пер-Лашэз", "Тэатр псіхічнае неўраўнавагі" і перфоманс "Механеры культуры". Дэманстраваліся таксама дакументальныя стужкі, прысвечаныя Чэславу Немэну.

**Лізавета ВІХУРА**

Ёсць людзі, чые лёсы — нібыта масточкі да ўзаемаразумення розных народаў. Палачанка Іна Снарская — з іх кола. Вось ужо 12 гадоў яна працуе на Палтаўскім абласным тэлебачанні, а паралельна выдае ўласныя кнігі вершаў — на роднай беларускай мове. Апошнія паэтычныя зборнікі — "Дзве долі" і "Верасовая песня зары" — прынеслі аўтарцы літаратурную прэмію імя Леаніда Бразава. Гэта здараецца ўпершыню, каб украінская літаратурная прэмія прысуджалася беларускай кнізе. Нядаўна Іна Снарская наведала Мінск, дзе сустрэлася з чытачамі і падзялілася планамі выдання яшчэ двух паэтычных кніг — лірыкі і духоўных вершаў.

**Аляксей ГАРБУНОЎ**

У Музеі кіно адбылася прэзентацыя кароткаметражнага дакументальнага фільма кінастудыі "Летапіс" — "Цярновыя вянкі Алімпу". Стужку пра беларускага трэнера алімпійскіх пераможцаў, гімнаста Рэнальда Кныша, зняў вядомы рэжысёр Сяргей Лук'янчыкаў паводле сцэнарыя Сяргея Трахімёнка. Гэта фільм-споведзь пра любоў да спорту, барацьбу за медалі, інтрыгі канкурэнтаў і здраду вучняў. Герой фільма проста і шчыра разважае пра тое, што спорт не павінен забіраць здароўе і ламаць лёсы. Аўтары збіраюцца працягнуць размову з гледачом, зрабіўшы на гэтую тэму таксама паўнаметражны фільм.

**Ірына МАСЛЯНІЦЫНА**

Фестываль мастацкай самадзейнасці "Студэнцкі дэбют" прайшоў у Беларускім дзяржаўным універсітэце інфарматыкі і радыёэлектронікі. Моладзь першых курсаў прадэманстравала свае здольнасці ў танцах і спевах. У перапоўненай зале другога вучэбнага корпуса панавала атмасфера сяброўства і ўзаемападтрымкі. Лепшай была прызнана праграма "Каханне ў пекле", прадстаўленая факультэтам камп'ютарных сістэм і сетак. Другое месца — у прадстаўнікоў факультэта інфармацыйных тэхналогій і кіравання.

**Уладзімір СТАРАСЦЕНКА**

Ірына ТУЛУПАВА

# Апекавацца спадчынай —

**Больш як год у Беларусі прадметна гавораць пра важнасць супольнай працы дзяржавы і грамадства ў захаванні нашых гістарычных помнікаў. Менавіта з гэтай мэтай у адпаведнасці з пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь пры Міністэрстве культуры Беларусі была створана Грамадская назіральная камісія па ахове гісторыка-культурнай спадчыны.**

**Сёлета напрыканцы студзеня адбылося пасяджэнне Рэспубліканскага грамадскага савета па справах культуры і мастацтва пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь, дзе пытанне аховы гісторыка-культурнай спадчыны і яе выкарыстанне ў выхаваўчай рабоце і турыстычнай сферы вызначана адным з першачарговых для разгляду.**

**Між іншым, у 2011 годзе фінансавыя выдаткі з рэспубліканскага бюджэту на аднаўленне і рэстаўрацыю помнікаў гісторыі і культуры Беларусі павялічаны на 170 працэнтаў.**

**Дык у якім жа стане знаходзяцца аб'екты гісторыка-культурнай спадчыны? Колькі мы іх у Беларусі маем? Ці ёсць рэальная магчымасць захаваць іх? Пра гэта карэспандэнту "ЛіМа" распавёў старшыня Грамадскай назіральнай камісіі па ахове гісторыка-культурнай спадчыны, намеснік старшыні Рэспубліканскага грамадскага савета па справах культуры і мастацтва, старшыня яго пастаяннай рабочай групы, пісьменнік Анатоль БУТЭВІЧ.**

## Праблема дасведчанасці

— Трэба прызнаць, што сёння дзяржаўныя інстытуты, як ніколі, заклапочаны тым, каб аб'яднаць намаганні ўсіх і захаваць для нашчадкаў тое, што засталося нам у спадчыну ад мінулых пакаленняў. І арганізацыйна, і фінансава дзяржава прымае адпаведныя захады. Але, як на мой погляд, гэта толькі частка справы. Апекавацца спадчынай павінны мы ўсе, усёй грамадой, усім грамадствам. На жаль, на месцах так адбываецца не заўсёды. І на жаль, не толькі далёка ад Мінска, а і ў самой сталіцы. У адных не даходзяць рукі, у некага не хапае ведаў, а некаму гэтая "старызна" проста замінае. Міністэрства культуры Беларусі, яго кіраўніцтва робяць пэўныя крокі па павышэнні кваліфікацыі людзей, якія займаюцца аховай помнікаў, стараюцца дапамагаць мясцовым органам у разуменні гэтай важнай і тонкай справы, што дае спадзеў на станоўчыя зрухі.

Тым не менш праблема дасведчанасці існуе, роўна як і праблема адказнасці, кваліфікаванасці. Бо каб нейкі шматсотгадовы аб'ект застаўся жыць, трэба, каб яго разумна ахоўвалі, аднаўлялі. Але неабходна прызнаць, што для гэтага ў нас не хапае кваліфікаваных рэстаўратараў. Часта складаныя працы выконваюць звычайныя будаўнікі, якія ні адпаведнага вопыту, ні патрэбных навыкаў не маюць. А тут прыспешвае імклівае жаданне ледзь не кожнага рэгіёна (развіццё турызму патрабуе) як мага хутчэй аднавіць свае мясцовыя аб'екты. Паўстае надзвычай вострая праблема. Але мо лепей было б, калі мы не здольны забяспечыць помнікам нармальнае жыццё, не ўмешвацца ў іхні лёс і не нявечыць іх? Павінен дзейнічаць медыцынскі прынцып: не нашкодзь.

## Пра каго мы найперш гаворым?

— Ды пра ўсіх нас. Дзяржаўныя інстытуты — гэта добра. Але трэба абуджаць грамадскую думку, людскую зацікаўленасць. Я не сумняваюся, што неабыякавых людзей у нас шмат. Варта толькі падтрымаць іх, разварушыць, аб'яднаць. А ў нас нават рэспубліканскага краязнаўчага таварыства няма. Сёння наша гістарычная спадчына, так бы мовіць, выйшла на заслужаны адпачынак, многія з былых дзейных аб'ектаў сталі ветэранамі. То і адносіны да іх павінны быць адпаведныя — паважлівыя і пашаноўныя. Яны ж усё сваё жыццё служылі грамадству, нам з вамі! І палацы, і замкі, і храмы, і грамадскія будынкі, і гаспадарчыя пабудовы. Многія з іх і сёння, насуперак сваім гадам і нягодам, працягваюць служыць. Як, напрыклад, амаль 800-гадовая Каложская царква альбо гэткага ж узросту Спаса-Еўфрасінеўская царква ў Полацку. Яны і дагэтуль узносяць шчырую малітву за мір і спакой на нашай зямлі, за дабрабыт людзей.

А ці не ўсё сваё жыццё служылі роднаму краю Мірскі, Нясвіжскі, Крэўскі, Лідскі, Гальшанскі замкі, іншыя нашы помнікі? Яны заслужылі тую "пенсію", якую сёння і дзяржава, і мы з вамі павінны аддаваць ім, апякуючыся іхнім далейшым лёсам.

А хто павінен быць "сацыяльнымі работнікамі" для іх? Вядома, найперш дзяржава. Але калі з'явіцца сацыяльны работнік з нашага з вамі асяроддзя — ён будзе не толькі спрыяць аднаўленню (валанцёрскія атрады працавалі, напрыклад, на Крэўскім замку, на іншых аб'ектах), — пазначыцца ўжо іншая сфера ўплыву, у тым ліку і выхавання душы. І тады паяднанне дзяржаўнага інтарэсу і грамадскай заклапочанасці дапаможа выправіць сітуацыю. Не баюся гэтага слова — выправіць, бо ў многіх выпадках яна проста катастрафічная.



Фота Кастуся Дробава

## Неабходна інвентарызацыя

— Сёння ў Дзяржаўным спісе гісторыка-культурных каштоўнасцей Рэспублікі Беларусь — 5 382 аб'екты. Толькі за мінулы год у спіс унесены 472 помнікі матэрыяльнай і нематэрыяльнай творчасці чалавека. Гэта, зразумела, не ўсе аб'екты, якія падлягаюць ахове. У Зборы помнікаў гісторыі і культуры Беларусі, выдадзеным за савецкім часам, іх было каля 15 тысяч. (На калегіі Міністэрства культуры Беларусі, якая падводзіла вынікі працы за 2010 год і вызначала кірункі на перспектыву, міністр культуры Павел Латушка даў даручэнне прааналізаваць гэты спіс і высветліць дакладную лічбу — **І. Т.**) Можа, мы сёе-тое страцілі. У савецкі час, магчыма, сярод тых аб'ектаў значыліся і многія помнікі мінулым падзеям з бетону, якія не вытрымалі выпрабавання часам. Шмат было храмаў, якіх пазней не стала. Аднак усё роўна атрымліваецца, што сёння гэтая лічба зменшылася ў разы.

## Пра скансэн у Мінску і васьміметровы вал на Замчышчы

— Калі гаворым "ахоўваць", то слова гэтае трэба напоўніць адпаведным сэнсам. Дзяржава ўзяла на сябе клопат аховы, значыць, павінна як мінімум забяспечыць усю сферу арганізацыйна і юрыдычна, што і намагаецца рабіць.

На жаль, многія ігнаруюць гэта. Нават у Мінску нейкі гістарычны будынак часам даводзіцца літаральна абараняць ад разбурэння: некаму ён — стары, нямоглы, адна- ці двухпавярховы — вельмі замінае. Ведама, каб захаваць "ветэрана", яго ж трэба лячыць, аберагаць, дыягназ правільны паставіць. Гэта колькі выдаткаў, клопату і часу! Прасцей знесці і на гэтым месцы набудаваць нешта новае, сучаснае, шкляное, шматпавярховае. Але замест чаго? На чым? На памяці стагоддзяў!

Такім чынам, напрыклад, можа стацца, што неўзабаве ў Мінску не застанецца ніводнага драўлянага дома! А горад жа не пачынаўся з сілікату, шкла і бетону. Дарэчы, больш як 900-гадовы Мінск ці не адзіны сярод гарадоў-старажылаў не мае ніякага свайго пашпарта — ні помніка, ні каменя, ні іншай выявы, якая любому наведніку засведчыла б узрост горада, дату і легенду ягога з'яўлення.

Таму я прапаную: пакуль не позна, давайце створым у Мінску скансэн (этнаграфічны музей пад адкрытым небам). Вуліца Арлоўская, дзякуй Богу, захавалася, Паўночны завулак, іншыя мясціны, дзе пакуль што можна знайсці цудоўныя драўляныя дамкі. Зрэшты, і драўляныя баракі (яны яшчэ вельмі моцныя) з вуліцы Дзекабрыстаў вартыя ўвагі будучых пакаленняў — як жывыя сведкі таго, у якіх умовах пасля вайны жылі нашы бацькі і дзяды. Варта знайсці ў Мінску тэрыторыю, куды перанесці лепшыя драўляныя дамы і захаваць іх! Адкрыць там майстэрні народных майстроў, паставіць кузні, можна арганізаваць кафэ фальклорнага тыпу, праводзіць Купалле, народныя святы. Я думаю, можна было б аб'яднаць розныя крыніцы фінансавання.

Бо створаны ж сёння дабрачынны фонд "Любчанскі замак", якім апякуецца член Беларускага фонда культуры Іван Пячынскі. Узяўся ён аднаўляць Любчанскі замак, што ў Навагрудскім раёне, і справа рухаецца. Вось бы больш нам такіх неабыякавых і настойлівых людзей! Глядзіш, і думка грамадская, і справы нашы ахоўныя змяніліся б да лепшага.

**— Анатоль Іванавіч, сёлета ў сталіцы пачнецца ўзвядзенне архітэктурна-гістарычнага комплексу «Мінскае замчышча». З музейнай экспазіцыяй пад зямлёй, з надземнай кампазіцыяй. Чаго можна чакаць ад з'яўлення такога комплексу?**

— Справа карысная, цікавая. Адзінае трэба памятаць: месца тут не толькі гістарычнае, але і навідавоку. Не нашкодзіць бы з аб'ёмамі, каб не зрабілі нечага, пра што пасля будзем шкадаваць. Вось каб была магчымасць хоць бы кавалачак таго васьміметровай вышыні вала, які мяркуецца ўзвесці, убачыць на макеце ў натуральную велічыню. Як будзе адчуваць сябе побач з гэткай вышынёй — на ім жа і абарончыя збудаванні мяркуецца аднавіць — звычайны пешаход? Там жа ад Свіслачы да праспекта Пераможцаў метраў 200, не больш, малая аглядная адлегласць, перспектыва Траецкага прадмесця знікае. Гэта акурат той выпадак, калі лепш сем разоў адмераць і толькі пасля адзін раз адрэзаць.

## Каб вярнуць тыя структуры…

— На сённяшні дзень у сістэме Міністэрства культуры дзейнічае ўпраўленне па ахове гісторыка-культурнай спадчыны і рэстаўрацыі, дзе працуюць 16 чалавек. Калі адняць трох, якія выдаюць дазволы на вываз за мяжу гісторыка-культурных каштоўнасцей, аднаго юрыста, які займаецца і іншымі пытаннямі, спецыяліста, занятага справаводствам, то рэальна застаецца 11. А ў нас больш як пяць тысяч гісторыка-культурных помнікаў. І кожны з іх патрабуе ўвагі, часам проста неадкладнай дапамогі. Гэтае ўпраўленне павінна быць галоўным іхнім абаронцам. Я набраўся цярпення і падлічыў колькасць толькі афіцыйных дакументаў, якія за мінулы год падрыхтавалі супрацоўнікі ўпраўлення. Набралася звыш дзвюх тысяч. Гэта больш як 170 дакументаў на кожнага чалавека за год. Калі лічыць, што яны працавалі без выхадных і свят — атрымліваецца, што кожны дзень выдавалі "нагара" па шэсць-сем дакументаў. А былі ж яшчэ сотні (а мо і некалькі тысяч?) так званых "бягучых" папер. І таму, напэўна, кантроль з боку ўпраўлення не заўсёды быў эфектыўны.

Да таго ж у справе аховы гісторыка-культурных помнікаў сёння адсутнічае належная вертыкаль. Лічыцца, што ў абласцях у гэтай сферы працуюць 134 чалавекі. Але з іх толькі 49 з'яўляюцца вызваленымі, гэта значыць займаюцца аховай помнікаў прафесійна і адказна. Усе астатнія — сумяшчальнікі: альбо бібліятэкар, альбо музейны работнік, ёсць нават тэхнічны работнік. А ўлічыце іхнюю кваліфікацыю, дасведчанасць і залежнасць ад рэгіянальнага кіраўніцтва, і атрымаецца тая рэальная сітуацыя, якую маем сёння. Калі верыць статыстыцы, то ў Магілёўскай вобласці, напрыклад, больш за ўсё помнікаў, якія ўключаны ў дзяржаўны спіс: 1050. Адказных асоб за іх захаванне — 23. Вызваленых — ніводнага! Якая ж якасць працы можа быць — пры ўсёй павазе да тых, хто яе робіць?

Таму проста жыццёва неабходна мець адпаведную вертыкаль. Напрыклад, стварыць Дэпартамент пры Міністэрстве культуры. На месцах можна аб'яднаць стаўкі, якія ёсць у раёне, і вызначыць аднаго спецыяліста, напрыклад, на 4 раёны. Можна пайсці па іншым шляху: адзін вызвалены спецыяліст на 50 помнікаў. (На згаданай калегіі Міністэрства культуры называліся як найбольш верагодныя менавіта гэтыя варыянты. — **І. Т.**)

## Адэкватнасць пакарання

— На сённяшні дзень, на жаль, у нас прыніжана адказнасць не толькі за няправільнае выкарыстанне помнікаў, але і за парушэнне ўмоў іх захавання, прычыненне шкоды. Магчыма, таму шмат дзе адбываецца ігнараванне патрабаванняў нарматыўных дакументаў, часам з-за няведання, але даволі часта і свядома. А адказнасць? Каб некага прыцягнуць да адказнасці — трэба столькі абіць парогаў, так патрапаць нервы і сабе, і іншым, што ажно рукі апускаюцца! У выніку парушальнік выходзіць з вады сухім. Тут, я перакананы, трэба неадкладна павысіць ролю мясцовых органаў кіравання. Яны многае могуць.

Неабходна ўзмацніць супрацоўніцтва пракуратуры, дзе маюцца спецыялісты, адказныя за выкананне заканадаўства ў сфе-

# усім грамадствам

ры аховы помнікаў, і іншых органаў, якія абавязаны займацца гэтымі праблемамі. Трэба, каб пакаранне было адэкватнае парушэнню.

На жаль, толькі за апошні год былі выяўлены парушэнні ў правядзенні ахоўных мерапрыемстваў і рэстаўрацыйных работ на гістарычных аб'ектах у Мінску, Нясвіжы, в. Гошчава Івацэвіцкага, в. Олтуш Маларыцкага, в. Ціміразева Сенненскага, у г.п. Жалудок Шчучынскага, в. Жэмыслаўль Іўеўскага, в. Стралкова Клецкага раёнаў і шмат дзе яшчэ. Толькі Міністэрства культуры выдала за мінулы год 23 прадпісанні, ініцыявала 17 адміністрацыйных спраў, накіравала шэраг зваротаў у абласныя і Мінскі гарадскі выканкам.

Ды і як не быць парушэнням, калі дагэтуль на ўсіх узроўнях упарта ігнаруецца патрабаванне артыкула 29 Закона "Аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны Рэспублікі Беларусь" аб зонах аховы нерухомых матэрыяльных гісторыка-культурных каштоўнасцей. Згодна з законам, праекты зон аховы павінны быць для кожнай такой каштоўнасці. А што маем мы? Іх няма ў абсалютнай большасці помнікаў, нават у Мінску. Толькі каля двух (?!) працэнтаў помнікаў краіны маюць праекты зон аховы. Уяўляеце? А працы ж на іх і каля іх праводзяцца няспынна. Як і чаму?

### Нашто псаваць тое, што пакінулі людзі і прырода?

— Я перакананы, што кожны неабыякавы чалавек здольны не дапусціць самае малое пашкоджання помніка. Неабходна адразу звяртацца ў мясцовыя выканаўчыя і распарадчыя органы — яны згодна з заканадаўствам ажыццяўляюць непасрэдны кантроль за ўтрыманнем і выкарыстаннем помнікаў. Не адмовяцца ад умяшання і наша камісія, Міністэрства культуры.

Грамадскасць, мне здаецца, пачынае пакрысе разумець ролю асабістага ўдзелу ў рэстаўрацыі помнікаў. Прыклад таму — збор сродкаў на аднаўленне Навагрудскага замка, які вядзецца цяпер. Гродзенскі аблвыканкам і Навагрудскі райвыканкам падтрымалі ініцыятыву Міністэрства культуры. На гэтыя мэты накіроўваюцца сродкі ад рэалізацыі латарэі "Скарбніца" — за мінулы год 39,1 млн. рублёў, ёсць прыватныя ахвяраванні — 20,2 мільёна. З рэспубліканскага бюджэту было выдзелена 41,5 млн. рублёў. Аднак "раскручванню" акцыі могуць паспрыяць сродкі масавай інфармацыі, пісьменнікі і журналісты могуць зрабіць свой уклад.


Крэўскі замак

Фота Кастуся Дробава

Летам да гэтага варта далучыць студэнцкія будаўнічыя атрады.

А чаму, прыкладам, нельга правесці канцэрт альбо спектакль у фонд рэстаўрацыі Навагрудскага замка? Ці аўкцыён, распродаж карцін пасля мастацкай выстаўкі? Праўда, апошнім часам намеціліся станоўчыя зрухі. Падтрымаць гэтую ідэю гатовы Анатоль Ярмоленка і яго "Сябры", Міхась Дрынеўскі і яго народны хор, Міхаіл Фінберг і ягоны аркестр. Так што, дасць Бог, гэтыя, як і іншага кшталту акцыі па зборы сродкаў на Навагрудскі замак з боку грамадскасці, творчай інтэлігенцыі дадуць свой плён, і першая каралеўская рэзідэнцыя першай сталіцы Вялікага Княства Літоўскага набудзе новае аблічча. Набудзе дзякуючы нам з вамі.

### Помнікі літаратурнага кшталту

— Наша камісія звяртае на гэта ўвагу — ёсць шмат помнікаў, звязаных з імёнамі знаных літаратараў. У дзяржаўны спіс унесены таксама магілы асобных дзеячаў літаратуры і мастацтва, на жаль, на большасці з іх няма ніякіх пазнак пра гэта. У мінулым годзе, калі святкаваўся юбілей Ф. Багушэвіча, давялося пабываць на яго магіле. Мне стала прыкра ад таго, у якім стане яна знаходзілася. Дзякуй Богу, пасля ўмяшання сітуацыя змянілася.

Магу ўпершыню падзяліцца з чытачамі "ЛіМа" прыемнай навіной: кіраўніцтвам таварыства з абмежаванай адказнасцю

> **Дапаможам!**
> *Разліковы рахунак № 3642521000622 у ЦБП № 416 г. Навагрудка філіяла 413 ААТ "ААБ "Беларусбанк", г. Ліда, код банка 696, УНП 500031377, аддзел культуры Навагрудскага райвыканкама, з пазнакай "На рэстаўрацыю Навагрудскага замка".*

Добрым прыкладам можа паслужыць рупнасць палякаў, якія такім чынам здолелі аднавіць Каралеўскі замак у Варшаве.

Гэты вопыт можа прыдацца пры ажыццяўленні разлічанай на сем гадоў праграмы "Замкі Беларусі". Лічыцца, што ў нас было 116 замкаў, на сённяшні дзень у дзяржаўны спіс унесены 21 такі помнік. Долевы ўдзел у фінансаванні, розныя яго крыніцы, плюс дабрачынныя ахвяраванні нашых грамадзян, беларускай замежнай дыяспары, нацыянальных згуртаванняў у Беларусі — гэта рэальны шлях да рэстаўрацыі, прыстасавання, кансервацыі нашых замкаў, добраўпарадкавання іхняй тэрыторыі.

"Трайпл" прынята рашэнне аб аднаўленні ў Мінску дома, у якім нарадзіўся Максім Багдановіч. Станецца гэта, верагодна, да 120-годдзя паэта, якое краіна будзе адзначаць на дзяржаўным узроўні ў снежні 2011 года. Адпаведную пастанову на гэты конт прыняў Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь. Аднаўленне дома буду лічыць вялікай заслугай і нашай камісіі, і Міністэрства культуры — нас вельмі добра падтрымлівае міністр культуры Павел Латушка, — і "Трайпла", сродкі якога будуць выдаткаваны на рэалізацыю праекта. Калі праект урэшце стане рэальнасцю, гэта будзе і мая вялікая радасць.


Гальшанскі замак

Фота Анатоля Дрыбаса

## Анкета пісьменніка

### Безаблічнае рыфмаплётства легкадумнай эстрады



*1. Як вы лічыце: ці павінна ў агульнай літаратурнай плыні прысутнічаць масавая літаратура? Ці згодны з думкай, быццам культура ўсяго грамадства абавязкова мае маскультуру сваім ценем?*

*2. Якія кнігі, на вашую думку, цікавяць чытача? Ці праўда тое, што поспех літаратара ўсё больш залежыць ад майстэрства фатографа і мастака, які афармляе кнігу, ад яе знешняга выгляду?*

*3. Якім ён ёсць, наш сучаснік? Што ў яго характары надае аптымізму?*

**Пісьменнік Барыс БЕЛЕЖЭНКА:**

**1.** Культура ўсяго грамадства ахоплівае і масавую культуру, яна ў складзе агульнай культуры — як благое дзіця ў прыстойнай сям'і. А цень ёсць зменлівы адбітак, адлюстраванне існага, сапраўднага, ён скажае сапраўднае. Цень заўсёды недакладны па форме і змесце з тым, што яго спараджае: раніцай і вечарам цень доўгі і глядзіць: першы — на захад, другі — на усход. А ўдзень цень наогул малы. Браць на сябе ролю адбітка ўсёй культуры масавая не мае права. Ці маем права гаварыць, што шматлікае і безаблічнае рыфмаплётства і сцэнічная самадзейнасць ёсць адбіткам твораў Купалы і Коласа, Макаёнка і Караткевіча? А вось цень на ўсю культуру масавая адкідвае, цьмяніць яе.

**2.** Кніга ёсць люстэрка душы і пагляду аўтара. Пэўна, і чытач хоча бачыць сябе ў гэтым люстэрку. Зацікаўленасць чытача фарміруецца ўсім выхаваннем і складам яго жыцця. Зацікаўленасць — гэта штосьці неабдымнае, разнастайнае і непрадказальнае, як і кожны індывідуум.

Больш таго, як і ўсё ў сусвеце, зацікаўленасць чалавека змяняецца на нейкім этапе жыцця — асоба задавальняе свой інтарэс спачатку аднымі творамі, а пазней — іншымі. Цікавасць змяняецца з цягам часу і з адпаведнымі зрухамі ў грамадстве. Напрыклад, актыўная частка насельніцтва цікавіцца філасофіяй, праблемамі будучыні, аналізам падзей і дзейнасці гістарычных асоб мінулага, а абывацеляў — пісаніна пра так званых "зорак" сучаснай легкадумнай эстрады.

Я не думаю, што знешні выгляд кнігі прыносіць аўтару поспех. Успомнім усяго толькі газетныя публікацыі верша Купалы "А хто там ідзе?" або Коласа "Мужык", успомнім тонкія, у мяккіх вокладках кнігі "Стары і мора" Хемінгуэя ці "Лёс чалавека" Шолахава. За прыгожымі вокладкамі часам хаваюцца прымітывізм думак і безгустоўшчына, што не кранае ні душу, ні розум.

**3.** Мне імпануюць людзі штодзённай працы, майстры і хлебадары. І не мае значэння, гараджане гэта ці сяляне. Людзі працы — сіла і сумленне грамадства. Аднак расслаенне ў грамадстве шматзначнае. Большасць людзей — сапраўднага высакародства і культуры. Але ёсць і марнатраўцы жыцця. Ёсць злодзеі яўныя і схаваныя, і тыя, хто жыве за кошт іншых людзей. Асноўнае ў характары гараджан і сялян — працавітасць і знаходлівасць, здольнасць перамагаць складаныя перашкоды, нянавісць да злодзеяў, хапуноў і хлюпікаў.

---

### Пра белетрыстыку і не толькі...



*1. Існуе меркаванне: калі раней пісьменнік быў настаўнікам, вяшчальнікам ісціны, то цяпер стаў прыватнай асобай, якая рэдка паяўляецца нават на ТБ. І яшчэ радзей у газетах. Чаму?*

*2. Падзенне нораваў — міф ці рэальнасць. Ці павінны кнігі вучыць жыць?*

*3. Як грамадская актыўнасць пісьменніка ўплывае на яго літаратурную працу?*

*4. Якія характэрныя рысы сучаснага нарыса вы б вызначылі?*

**Пісьменнік Ягор КОНЕЎ:**

**1.** На маю думку, уяўленне пра пісьменніка як "настаўніка" або "вяшчальніка ісціны" мае гіпербалічнае адценне. Я цікаўлюся гісторыяй апошнія гадоў дваццаць пяць, назапасіў пэўныя веды (асабліва наконт тых перыядаў, якія апісваю) і адважуся заявіць, што з часоў Старажытнага Кітая і да пачатку XX стагоддзя літаратурная творчасць з'яўлялася заняткам, небяспечным для рэпутацыі ды жыцця творцы. Славутага паэта антычнасці Вяргілія рымскія арыстакраты ледзь на жмуты не парвалі за тое, што ў сваёй "Энеідзе" заснавальнікам Рыма назваў міфічнага Энея, а не іх продкаў. Яна Длугаша пераследавалі польскія вяльможы за тое, што ў "Грунвальдскай бітве" недастаткова ўславіў іх далёкіх сваякоў. Аналагічных прыкладаў можна прывесці яшчэ шмат. І ўсе яны пацвердзяць думку, што пісьменнікі (я маю на ўвазе таленавітых, бо графаманаў ва ўсе часы хапала) у такой сітуацыі з'яўляліся зусім не "настаўнікамі", а хутчэй прадстаўнікамі "альтэрнатыўнай" культуры.

Я не бачу анічога заганнага ў тым, што нашых пісьменнікаў успрымаюць як прыватных асоб. А з якой прычыны да іх павінна быць іншае стаўленне?

**2.** Калі кажуць пра "падзенне нораваў", то яшчэ з гневам дадаюць: "Толькі паглядзіце, што ўвечары паказваюць па тэлевізары!" Я на гэты конт звычайна пытаюся: "А хто вас змушае глядзець тэлевізар па вечарах? Няма больш прыемнага занятку?" Мне здаецца, што колькі гадзін у суткі не будзеш уключаць "блакітны экран" — на столькі гадзін больш пражывеш.

**3.** Не такі я ўжо грамадскі дзеяч, каб усур'ёз разважаць на гэты конт. Па ўласных назіраннях, чым болей часу пісьменнік прысвячае грамадскай дзейнасці, тым меней у яго сіл застаецца для творчасці. Сам я трэці год узначальваю секцыю прозы СПБ. Спярша быў здзіўлены тым, колькі графаманаў, больш ці менш нахабных, імкнуцца любой цаной стаць членамі нашага Саюза. Навошта ім гэта патрэбна, яны й самі не заўсёды могуць абгрунтаваць. Здаралася, прынясуць апублікаваныя ў раённай газеце мініяцюры і пагражаюць: "Калі не прымеце — зведу рахункі з жыццём!" Члены нашай секцыі маральнаму шантажу не саступаюць і адмаўляюць у прыёме, а я пішу ліст, у якім зычу: "Жывіце доўга і шчасліва!"

**4.** Праблема ў тым, што я ніколі не пісаў нарысаў і штосьці вызначаць на гэты конт не адважваюся. Мабыць, прычына ў маім характары. Жанр нарыса — тая вышыня, на якую наўрад ці калі-небудзь падымуся. З айчыннай нарысістыкай я знаёмы як чытач. Мне спадабалася, як удала знайшоў іранічна-спагадлівую інтанацыю для сваёй "Зямлі пад белымі крыламі" Уладзімір Караткевіч, спавядальна-інтымную — Святлана Алексіевіч для "У вайны не жаночы твар". Але вяршыняй жанру лічу нарысы Янкі Сіпакова.

# Вялікае Княства: чужое ці сваё?

Дзяніс МАРЦІНОВІЧ

**Серыя "Гісторыка-літаратурныя помнікі" шматтомнага праекта "Беларускі кнігазбор" папоўнілася новым, 56-м томам — "Выбраным" вядомага беларускага гісторыка Міколы Ермаловіча.**



Легендарная постаць Міколы Ермаловіча, якому сёлета ў красавіку споўнілася б 90 гадоў, знаёмая, бадай, усім без выключэння аматарам і даследчыкам беларускай даўніны. Яго цяжкі лёс, праблемы са здароўем, якія гераічна пераадольваліся на працягу жыцця, напісанне прац, многія з якіх былі апублікаваныя толькі ў сталым узросце, фантастычны поспех сярод чытачоў і досыць крытычная рэакцыя калег — усё гэта ўжо стала гісторыяй і паступова пачало ператварацца ў легенду.

Укладальнік і аўтар каментарыяў Кастусь Цвірка прапанаваў звыклую для серыі структуру выдання. "Выбранае" адкрывае прадмовай беларускага гісторыка Анатоля Грыцкевіча. Ці не палову кнігі займае праца М. Ермаловіча "Беларуская дзяржава Вялікае княства Літоўскае". Акрамя таго, змешчаны крытыка і публіцыстыка, гутаркі і вершы, раскіданыя па беларускай перыёдыцы, а таксама лісты Міколы Іванавіча да розных адрасатаў, якія не друкаваліся раней.

Будзем шчырымі: з'яўленне такога выдання не можа не выклікаць пэўныя дыскусіі. Пры ўважлівым разглядзе "зялёнай серыі" "Кнігазбора", у якой выйшла кніга, бачна пэўная супярэчлівасць тома з агульнай канцэпцыяй. Сапраўды, калі не ўлічваць твораў нашых сучаснікаў, Гаўрылы Гарэцкага і Адама Мальдзіса, чые заслугі ў беларускай навуцы бясспрэчныя, у "Гісторыка-літаратурных помніках" дагэтуль выходзілі кнігі, якія вытрымалі выпрабаванне часам або сталі бібліяграфічнай рэдкасцю ("Выбранае" Фадзея Булгарына, Зарыяна Даленгі-Хадакоўскага, "Рэчыцкае Палессе" Часлава Пяткевіча і г. д.). Пасля смерці Міколы Ермаловіча прайшло дзесяцігоддзе. Ці можна ў такім выпадку казаць пра належную часавую дыстанцыю, якая дазволіць незаангажавана прааналізаваць творчыя здабыткі аўтара?

Прыхільнікі Ермаловіча адкажуць нам, што Мікола Іванавіч выступіў пачынальнікам новай беларускай рамантычнай гістарыяграфіі, якая цалкам супярэчыла афіцыйным савецкім поглядам на мінулае. Сапраўды, у сваіх працах гісторык аспрэчыў тэзісы пра літоўскую заваёву Беларусі, пра ВКЛ як літоўскую дзяржаву. Назва яго даследавання "Беларуская дзяржава Вялікае княства Літоўскае" з'яўляецца фактычна квінтэсэнцыяй яго поглядаў. Нездарма Анатоль Грыцкевіч казаў Ермаловічу ў савецкія часы, што той па сваіх ведах "мог бы быць акадэмікам, калі б гэтае званне давалася не з палітычных, а навуковых меркаванняў".

Але стаўленне да Ермаловіча з боку большасці прафесійных гісторыкаў іншае. Вельмі дарэчы будзе працытаваць урывак з другога тома акадэмічнай "Гісторыі Беларусі", створанай былымі і цяперашнімі супрацоўнікамі Інстытута гісторыі НАН Беларусі. Аўтар раздзела "Гістарыяграфія" Георгій Галенчанка піша пра вучонага наступнае: "…Яго заслугі ў абуджэнні нацыянальнай гістарычнай свядомасці беларусаў бясспрэчныя. Складаней з навуковымі аргументамі. Некаторыя з яго пастулатаў былі выказаны раней у беларускай замежнай гістарыяграфіі <...> або не пацвярджаюцца фактамі <...>. Зразумела, што <...> некаторыя <...> аргументы Ермаловіча не маглі быць адаптаваны сучаснымі даследчыкамі, і ацэнка яго поглядаў з боку аўтарытэтных гісторыкаў, як, напрыклад, Улашчык, уяўляецца абгрунтаванай".

Як жа нам патлумачыць знакавую постаць Міколы Ермаловіча? Як належным чынам ацаніць значэнне выдадзенага "кнігазбораўскага" фаліянта?

Мяркую, уся справа ў ракурсе, пад якім мы разглядаем дзейнасць М. Ермаловіча. Пераважная большасць чытачоў і апанентаў успрымае яго толькі як гісторыка. Менавіта гэтым тлумачыцца ўзаемная хваравітая рэакцыя прыхільнікаў і апанентаў яго творчасці. Першыя абвострана рэагуюць на непрызнанне Міколы Іванавіча з боку афіцыйнай навукі. Другія здзіўляюцца яго папулярнасці і наракаюць на тое, што для Ермаловіча "быў характэрны шлях ад уласнай канцэпцыі да фактаў, а не наадварот".

Але чаму толькі гісторык? На маю думку, штучнае звужэнне сферы дзейнасці Ермаловіча стварае бар'еры для яго паўнавартаснага ўспрыняцця. Мікола Іванавіч праявіў сябе як пісьменнік і публіцыст. Але дакладней будзе назваць яго адным з ідэолагаў беларускай нацыянальнай дзяржаўнасці.

Для прыкладу нагадаю пазіцыю Міколы Іванавіча па пытанні ўтварэння Вялікага Княства Літоўскага. У навуковых спрэчках і дыскусіях важнае месца займае пытанне аб месцы знаходжання летапіснай Літвы. Як вядома, існуюць канцэпцыі, якія змяшчалі яе на тэрыторыі сучаснай Літвы і на памежжы двух дзяржаў (на паўднёвым усходзе Літвы і паўночным захадзе Беларусі). Менавіта Ермаловіч заявіў, што летапісная Літва знаходзілася на тэрыторыі сучаснай Беларусі. Дзякуючы гэтаму паміж двума дзяржаўнымі ўтварэннямі быў пастаўлены знак пераемнасці. Больш таго, пазней дадзеная канцэпцыя была пакладзена ў аснову гістарычных раманаў Леаніда Дайнекі ("Жалезныя жалуды"), Вольгі Іпатавай ("Залатая жрыца Ашвінаў"), Генрыха Далідовіча ("Кліч роднага звона"), а значыцца, увайшла ў грамадскую свядомасць. Фактычна Ермаловіч стаў папярэднікам згаданага пакалення пісьменнікаў, своеасаблівым "прадцечай", калі выкарыстаць гэтае ёмістае стараславянскае слова.

Калі разважаць пра Міколу Іванавіча як гісторыка і ацэньваць яго з пункта гледжання гэтай прафесіі, бачна паспешлівасць "кнігазбораўскай" публікацыі. Пры адсутнасці новых крыніц відавочна, што ў бліжэйшы час на пытанне пра ўтварэнне ВКЛ не будзе дадзена аднaзначнага адказу. Што да нацыянальнай прыналежнасці Княства, гісторыкі схіляюцца да таго, каб называць яго беларуска-літоўскай дзяржавай.

Але будзем шчырыя: ва ўмовах стварэння незалежнай дзяржавы і абуджэння нацыянальнай самасвядомасці такія пытанні адыходзілі на другі план. Жыхару краіны патрэбная была лагічная канцэпцыя, якая звязвала б мінулае і сучаснае, тлумачыла прычыны адставання Беларусі як ад Заходняй Еўропы, так і ад калег па былым сацыялістычным лагеры, стымулявала і натхняла краіну на паскоранае развіццё. Такое тлумачэнне было прапанавана менавіта Ермаловічам, і ў гэтым яго заслуга. Акрамя таго, аўтар фактычна справакаваў шырокую навуковую дыскусію па пытаннях развіцця ВКЛ. Нават некаторыя грунтоўныя працы яго апанентаў былі напісаны дзеля абвяржэння тэзісаў Ермаловіча, што прасунула навуку наперад. Нездарма гісторык Андрэй Кіштымаў калісьці заўважыў: "Калі б не было на Беларусі Міколы Ермаловіча, яго трэба было б выдумаць".

А паколькі шэраг гістарычных пытанняў застаецца на ўзроўні гіпотэз, далёка не ўсе жыхары краіны атаясамляюць сябе са старажытнымі ліцвінамі, а ў вывучэнні спадчыны і біяграфіі Ермаловіча яшчэ застаюцца "белыя плямы" аўтарскае "Выбранае", што выйшла ў "Кнігазборы", актуальнае і патрэбнае нам сёння.

Глеб ІВАНЧАНКА

# Дом, які пабудаваў... Васіль Ткачоў

**Хто думае, што гаворка пойдзе пра тое, як вядомы беларускі пісьменнік Васіль Ткачоў уладкаваў сваё жыццё на вёсцы, дзе любіць жыць, калі пакідае гарадскую кватэру ў Гомелі, памыляецца. Хоць, па праўдзе кажучы, і пра ягоную вясковую хату таксама можна сказаць нямала ўхвальнага, бо сапраўдны гаспадар, а ім і з'яўляецца Васіль Юр'евіч, за што ні бярэцца, абавязкова даводзіць гэта да ладу. Ды так, што і самому прыемна, і перад людзьмі не сорамна.**

Праўда, у дадзеным выпадку я маю на ўвазе ўсё ж іншы дом — літаратурны, над узвядзеннем якога В. Ткачоў руплівіца ўжо не адно дзесяцігоддзе. З таго самага часу, калі ў 1966 годзе ў часопісе "Вясёлка" надрукаваў першае апавяданне. Дарэчы, у галіне дзіцячай літаратуры ён выступае плённа па сённяшні дзень. Дый першай ягонай кнігай апавяданняў стаў "дзіцячы" зборнік "Хітры Данік".

Аднак што такое сапраўдны дом? Гэта, безумоўна, будынак, у якім усё, як кажуць, на месцы і да месца. Дый у доме літаратурным, калі ён узведзены творцам шматграннага таленту, а менавіта такім пісьменнікам і з'яўляецца В. Ткачоў, усё гэта таксама прысутнічае. Вокны, вобразна кажучы, — тыя ж вочы, якімі аўтар даверліва, захоплена глядзіць на навакольны свет, пішучы што-небудзь для хлопчыкаў і дзяўчынак. Падлога — тая трывалая аснова, без якой не можа быць па-сапраўднаму жыццёвай прозы. Кожны пакой — таксама "прывязаны" да пэўнага жанру. У В. Ткачова ў адным з іх утульна адчуваюць сябе і драматургічныя персанажы, бо ім напісана нямала і п'ес.

У новай жа кнізе "Снукер" акурат і прадстаўлены розныя жанры. За выключэннем, праўда, твораў для дзяцей. Затое можна пазнаёміцца з аповесцямі "Тульня" і "Участковы і фокуснік", п'есамі "Снукер" і "Курорт для зяця". А яшчэ з апавяданнямі... Нават не верыцца, што пад адной вокладкай умясцілася ні многа, ні мала, а ажно трыццаць адно. Не абышлося і без рамана, які называецца... "Дом камуны". Назва, трэба сказаць, сімпатычная, бо згаданы Дом па сутнасці і з'яўляецца галоўным героем твора.

Падобнае ў мастацкім творы немагчыма? Гледзячы для якога пісьменніка. Для В. Ткачова, у чым пераканалі ягоныя папярэднія кнігі, і што пацвярджае гэтая, новая, нічога немагчымага няма. На тое і сапраўдны талент, каб распараджацца ім так, што лёгка мадэліраваць такія сітуацыі, якія з'яўляюцца не проста жыццёвымі, а тыповымі. Адпаведна паўстаюць і тыповыя персанажы ў тыповых абставінах. Абставіны ж гэтыя яшчэ на памяці старэйшага і сярэдняга пакаленняў.

У рамане "Дом камуны" адлюстраваны падзеі, што адносяцца да таго часу, калі распаўся Савецкі Саюз. Твор тым самым успрымаецца свайго роду кардыяграмай грамадскага жыцця на схіле канца 80-х — пачатку 90-х гадоў мінулага, XX стагоддзя. Аднак пісьменнік не абмяжоўвае сябе толькі згаданымі часавымі рамкамі. Раманная ж прастора немагчымая без шырокага ахопу падзей. І не толькі тых, што адбываюцца па ходу асноўнага дзеяння. Не абысціся без экскурсаў, калі плынь таго, што было раней, уліваецца ў хвалю штодзённасці. Людскія лёсы, праходзячы выпрабаванне часам і абставінамі, перакрыжоўваюцца. Адны з іх ламаюцца. Іншыя, апынуўшыся перад няпростым пытаннем — як быць далей, — загартоўваюцца. Але аўтар не аддае перавагу толькі пэўнай катэгорыі людзей.

Васіль Ткачоў — глыбокі псіхолаг, аднак ён і не менш глыбокі аналітык. Ён ніколі не належаў да тых пісьменнікаў, для каго былі героі станоўчыя і персанажы адмоўныя. Разумеў (а сёння перакананы ў гэтым яшчэ ў большай ступені), што часцей за ўсё вельмі цяжка ўчынкі, паводзіны канкрэтнага чалавека падзяліць на добрыя і кепскія. Дый у гэтым няма неабходнасці. Інакш лёгка перайсці да схематызму.

Эвалюцыя чалавечых узаемаадносін — гэта эвалюцыя самога часу, што цудоўна разумее і галоўны герой рамана Сцяпан Хамянок. Таму і разумее, што ён не з тых людзей, якія ўсяму вераць на слова. Яны, канечне, могуць памыляцца, але хто можа абысціся без памылак? Сцяпан Данілавіч, якім яго паказвае В. Ткачоў, — гэта сын свайго часу, аднак у пэўнай ступені і ахвяра яго. Але, калі добра разабрацца, ёсць яшчэ і іншае, прытым куды важнейшае: менавіта на падобных Хамянках многае трымалася на працягу доўгіх перыядаў. І ад гэтага нікуды не дзенешся. Суддзёй быць нескладана, ды не будзем забываць, што суддзі нярэдка памыляюцца. В. Ткачоў, расказваючы пра сваіх літаратурных герояў, не асуджае іх. Проста ён паказвае іх (прынамсі, тых, якія больш навідавоку) буйным планам, запрашаючы чытача да роздуму, асэнсавання таго, што было і як было.

У Дома камуны, канечне, незайздросны лёс, бо ён развальваецца. Няхай і не ў прамым сэнсе, таму што сам будынак усё ж стаіць, а ў пераносным. Гэта адбываецца таму, што ягоная аснова шмат у чым была хісткай. Чаго не скажаш пра само жыццё, якое, нягледзячы на варункі, якімі б складанымі яны ні былі, працягвалася і працягваецца.

Гэтае жыццё В. Ткачоў праўдзіва адлюстроўвае і ў іншых сваіх творах, што ўвайшлі ў кнігу "Снукер". Не адмаўляючы высокіх мастацкіх вартасцей аповесцей і п'ес, усё ж хацелася б адзначыць той вялікі ўклад, які ўносіць ён у развіццё малога празаічнага жанру. Ягоныя апавяданні патрапляюць пад вызначэнне *вялікі свет малой прозы*. А яшчэ гэта вялікі свет тых людзей, пра якіх расказвае пісьменнік, лішні раз пацвярджаючы, што літаратурны дом, які ён паспяхова ўдасканальвае, — з тых, заўважыць якія немагчыма. Таму і не дзіўна, што кніга "Снукер" вылучана на атрыманне прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі.

# Праявы неўсвядомленага

Ціхан ЧАРНЯКЕВІЧ




Загадка пачатку — ці не самая цяжкая. Той маладзён, які жадае напісаць верш, па першым часе не думае, як ён будзе яго ствараць, пра што той верш і наогул — ці варта гэта рабіць у прынцыпе. І — добра. Першыя дзясяткі (у кагосьці і сотні) вершаў даюць паэту ўяўленне пра сам працэс пісьма, прыроду і характар натхнення. Калі чалавек "падсядае" на гэты наркотык, ён яшчэ не ведае, што *дарога да рэчаіснасці* толькі-толькі распачынаецца: літаральна праз пару гадоў яна можа павярнуць у бок прозы, драматургіі, філасофіі, — ды нават камп'ютарнага праграміравання. Пазнанне дыхае дзе хоча…

Палымянская падборка вершаў 22-гадовага гамяльчаніна Алеся Бараноўскага (нядаўна прынятага ў Саюз пісьменнікаў Беларусі аўтара кніг "Чуйнае акно" (2008) і "Вясляр" (2010)) мае ўсе адзнакі няўпэўненасці і неўсвядомленага будучага шляху. Разам з тым варта адзначыць, што крокі да трываласці аўтарам зроблены: няма недакладнай рыфмы, вытрымліваецца метрыка-рытмічны малюнак верша. У той жа час напаўняецца гэты малюнак дэталямі і фарбамі выпадковымі. Гэта заўсёдная праблема, калі ўжо бярэшся за сілаба-тоніку (і метр захаваць, і ў радок нічога лішняга не ўціснуць).

*Як дзень, святлею*
*ці, як ноч, цямнею.*
*У раз які пытаюся: ну хто ты?!*
*Дзялю сябе надвое — разумею:*
*З'яўляюцца ў люстэрку*
*дзве істоты.*

*Адной — гару,*
*другою — замярзаю.*
*Пад крыламі ахоўніка анёла*
*Стаю і паступова заўважаю:*
*Адна сумуе, а другой вясёла.*

*Засне адна —*
*ёй мроіцца прадвесне.*
*Ўзвядзе курок другая —*
*дасць асечку?*
*Адна памрэ, другая ўваскрэсне,*
*За першую ў царкве*
*паставіць свечку.*

Простая, але незацяганая, зрэшты, тэма раздвоенасці і амбівалентнасці чалавечай асобы разгортваецца аўтарам праз паслядоўнае чаргаванне процілегласцей. І ўсё было б добра, каб не "тэхнічны туман". У першым катрэне яго ствараюць пабуджальнае "ну хто ты?!" і лагічна неапраўданае "разумею" ў трэцім радку. Другое чатырохрадкоўе абцяжарана здвоеным вобразам у 6-м — 7-м радках — і знаходжанне пад крыламі анёла-ахоўніка, і адначасовая самарэфлексія, да таго ж "паступовая" (хоць паступовым можа быць толькі нешта працяглае ў часе, а не празарэнне пра ўласную экзістэнцыю). У трэцім катрэне можна дараваць вольнае абыходжанне з правапісам "ў", а вось канчаткова заблукалых вобразаў-"істот" — нельга. Навізна не адчуваецца яшчэ і таму, што сам "разлом", самі процілегласці не паўстаюць у сваім сапраўдным выглядзе. Тут няма ні ірацыянальнай містыкі, ні ясенінскага экспрэсіўнага "чорнага чалавека", ні разанаўскіх парадоксаў. Усяго, чаго можна было б чакаць. Толькі схема таго, што магло б з'явіцца пасля.

Згаданую перанасычанасць і груваскасць вобраза бачым і ў наступным вершы, верлібры "***І толькі сонца нагадвае…". Разважаючы пра цень, досыць роўна, верш раптам замаруджвае ход:

*І толькі Вечнасць,*
*Ставячы штрых-коды на цэнах,*
*Абвяшчае права*
*сваё на ўласнасць —*
*Забірае ў свае цянёты…*

Падобную (і яшчэ не такую) абцяжаранасць знаходзім у многіх вершах падборкі.

Што да вобразнасці наогул, то ў нізцы Алеся Бараноўскага пераважаюць абстрактныя вобразы, часта са шматступеннай метафорыкай. З паэтычных твораў, бадай, нічога не дазнаешся пра час і месца, дзе жыве паэт, пра тое, што яго акаляе і што хвалюе. Тыя ж вершы, дзе прабіваецца *праз троп* канкрэтыка ("***Пыталіся ў мяне, а я маўчаў…", "***Купаецца поўня ў лужыне…") альбо аўтарскае выяўленне падмяняецца на ролевае ("***Справа даўняя, сцежка доўгая…" (з інтанацыяй "Пана Леса"), "***Ты мяне хвалюеш, як тады…"), гучаць больш свежа. Не дадаюць шарму і словы з памяншальна-ласкальнымі суфіксамі ("хмурынка", "ветрык", "сонейка", "сцяжынка" і інш.). Яно-то, вядома, рамантычна, але паэзія тым часам — рэч сур'ёзная.

Відавочна, што аўтар цяпер на раздарожжы: можна пайсці па шляху класічнага паэта (але гэта дакладна прымусіць яго "выбирать выражения") альбо на скрут галавы кінуцца ў вір мадэрнасці (дзе метафары і абстрактныя вобразы могуць быць не менш глыбокімі, чым у класічным вершы). На кожным шляху чакае пякельная праца — самарэдагаванне, пошук, адштурхоўванне старога...

# Гэта салодкае слова — рэмейк

Дзяніс МАРЦІНОВІЧ




Ягор Конеў найбольш праявіў сябе як празаік, аўтар шэрагу аповесцей, у тым ліку "Амерыканскай адысеі Тадэвуша Касцюшкі" і "Глеба Менскага". Прызнацца, пры іх прачытанні ўзнікалі супярэчлівыя пачуцці. З аднаго боку, быў відавочны патрыятызм аўтара, яго жаданне пазнаёміць чытачоў з малавядомымі старонкамі беларускай гісторыі. З другога боку — пісьменніку часам бракавала фантазіі. Таму ў творы пра першага менскага князя адчуваўся ўплыў твораў Л. Дайнекі, а "Амерыканская адысея" пры несумненнай закручанасці сюжэта больш нагадвала рэпартаж з месцін, дзе вандраваў галоўны герой твора. Гэтыя ж якасці паўплывалі на станоўчыя і адмоўныя бакі новага твора Я. Конева.

Зразумела, што пры знаёмстве з "Новымі палескімі рабінзонамі" ў чытача (нават пры іншай назве аповесці) маглі ўзнікнуць пэўныя сумненні наконт яе падабенства з "Палескімі рабінзонамі", напісанымі яшчэ ў 1929 годзе Янкам Маўрам. Сапраўды, у абодвух выпадках два хлопцы, Мірон і Віктар, накіроўваліся ў падарожжа па Палессі, траплялі ў экстрэмальныя сітуацыі, з-за чаго былі вымушаны пэўны час самастойна жыць на прыродзе, далёка ад людзей. Пры іх дапамозе былі абяззброены злачынцы, таму хлопцы вярталіся дадому пераможцамі.

Паколькі лепшы сродак абароны — гэта напад, Я. Конеў наўмысна некалькі разоў сканцэнтраваў увагу чытачоў на гэтай сітуацыі. Пра твор Янкі Маўра ўзгадвалі самі героі, удакладняў конеўскі герой Бенядзіктавіч. Калі кіравацца такой логікай, дык атрымліваецца, што падабенства дзвюх аповесцей — удалы аўтарскі ход. Нездарма ў творы Я. Конева падкрэсліваецца, што *"самае галоўнае ніколі не зменіцца"*.

Каб разабрацца ў сітуацыі дакладней, параўнаем паміж сабой "Палескіх рабінзонаў" Я. Маўра і Я. Конева. Якія моманты супадаюць у абодвух версіях акрамя агульных імёнаў галоўных герояў і месца дзеяння? У абодвух выпадках хлопцы выпраўляюцца ў падарожжа на чоўне. Яны трапляюць на корч, іх зацягвае ў вір, у выніку чаго човен перакульваецца, падарожнікі страчваюць сродак руху і трапляюць на востраў. Героі і даўняга, і сучаснага твора аднолькавым чынам здабываюць агонь, выкарыстоўваюць ідэю дынамамашыны, а для дапамогі дастаюць уласныя шнуркі. Падымаюцца раніцай на "раз, два, тры…", ратуюць ад дажджу вогнішча і знаходзяць архэі ў вавёрчыным дупле. Вось толькі некаторыя моманты, якія трапіліся на вочы.

Што ж наватарскага прапануе Ягор Конеў? Уводзіць у сістэму персанажаў дзяўчынку Юлю, сястру Віктара (такім чынам, падарожнікаў становіцца трое). Пераўтварае двух злодзеяў, лаўцоў баброў (паводле Я. Маўра), у "чорных археолагаў". Выкарыстоўвае ў якасці звязкі паміж дзвюма сюжэтнымі лініямі "чорнагаловую, шэрахвостую варону", якая толькі і ведае, што носіцца па небе, пакуль не знаходзіць асабістае шчасце з крумкачом. З дыдактычнага пункта гледжання прыемна даведацца, што конеўскія Віктар і Мірон (у адрозненне ад герояў Я. Маўра) не паляць і чытаюць "Тры талеры" Андрэя Федарэнкі.

Вядома, можна папракнуць аўтара за некаторыя дробязі. Напрыклад, цяжка ўявіць сітуацыю, калі дзяўчына пачынае тануць і паспявае выкрыкнуць доўгую фразу: "Ратуй мяне, брацік! Я не ўмею плаваць!" Не вельмі ўдалымі падаюцца сітуацыі, калі "археолаг" Сяргей Свідэрскі ўвесь час забываецца імя па бацьку дзядулі-праваднікa ("Бенядзіктавіч") і называе яго то "Багданычам", то "Браніслававічам". Магчыма, такія моманты былі задуманы як гумарыстычныя. Але ў трэці-чацвёрты раз гэткія танныя прыёмы пачынаюць проста раздражняць. Тым больш аўтар прызнаваўся на старонках аповесці, што "з часоў аспірантуры Белдзяржуніверсітэта Сяргей навучыўся хутка чытаць і запамінаць самае істотнае". Хіба асоба правадніка такой не з'явілася?

Зрэшты, гэтыя моманты сапраўды не могуць уплываць на агульную ацэнку твора. Істотна іншае. Калі б Ягор Конеў напісаў самастойную аповесць, сам распрацаваў сюжэт і раскрыў характары герояў, атрымаўся б хоць і не класічны, але і не самы горшы твор беларускай літаратуры. Але "Новыя рабінзоны" ў тым выглядзе, у якім яны прадстаўлены чытачу, цалкам упісваюцца ў сусветную тэндэнцыю па стварэнні рэмейкаў — новых версій або інтэрпрэтацый створанага раней (фільма, песні, музычнай кампазіцыі або драматургічнай працы). Пэўны час такая з'ява была пашырана пераважна ў кіно і музыцы, але цяпер перайшла і ў літаратуру. Відавочна, што новыя інтэрпрэтацыі класічнай спадчыны маюць права на існаванне. Але на маю думку, такія творы — у тым ліку і "Новыя палескія рабінзоны" — з'яўляюцца, на жаль, шмат у чым другаснай з'явай, якая толькі паўтарае ранейшыя знаходкі класікаў.

# Крыху эпічнага ў лірычным ці наадварот

Алеся ЛАПІЦКАЯ




Творы Ірыны Гурскай, змешчаныя ў першым нумары "Нёмана", паводле жанравага вызначэння з'яўляюцца хутчэй не апавяданнямі, а мініяцюрамі. Невялікі памер, памкненне да дэталізацыі, канцэнтраваная вобразнасць — характэрныя рысы "Бердянского дворика" (прыклад лірычнай мініяцюры) і "Было горько и одиноко" (эпічная мініяцюра, для якой уласціва наяўнасць падзеі, фабульнага сюжэта). Паводле літаратуразнаўцы І. Смірына, "хранатоп мініяцюры выяўляе тэндэнцыю да звужэння, сціскання да аднамомантавасці, да маштабу кропкі, гэта значыць, час і прастора ўнутранага свету мініяцюры робіцца ў ідэале няпэўнымі, нефіксаванымі, універсальнымі". Так, у "Бердянском дворике" гераіня нібы затрымліваецца ля балкона, глядзіць на родны горад, на старэнькі дворык, згадвае дзяцінства і маці — і звычайныя рэчы кшталту абшарпаных дзвярэй ці рашоткі брамы набываюць асаблівы сэнс… Тры старонкі роздумаў і пейзажных замалёвак, але ніякіх падзей, — зрэшты, нашто пісьменніку ганяцца за героем, ледзь паспяваючы занатоўваць яго прыгоды, калі адна старая арка можа распавесці так шмат?

Гэты твор трэба чытаць вельмі павольна, бо кожная дэталь тут красамоўна невыпадковая, вобразы перагукваюцца, думкі лаканічныя і трапныя. Можна доўга выпісваць цытаты — ад роздумаў пра позіркі людзей са старых фотаздымкаў ("То, что стало для нас навязчивым протоколированием, для них было общением с будущим. Характер, душа и судьба слились в их взгляде и словно изготовились для прыжка в вечность") да апісання мора, дзе "плеск полуденного штиля приносит на берег темную грязь с верфи — цвета горького шоколада". Праўда, залішняе цытаванне наўрад ці патрэбнае, бо амаль кожная метафара ў мініяцюры (як яно і павінна быць) — маленькае адкрыццё мастака.

Герой твора "Было горько и одиноко" — уражлівы і чулы хлопчык, які сябруе з партрэтамі пісьменнікаў, але ўскрыквае, калі цёця падносіць да яго крыж з Хрыстом. Гэтая мініяцюра ўражвае крыху менш, бо з самага пачатку замест таго, каб учытацца ў тэкст, прыходзіцца здзіўляцца: чаму дашкольнік падчас навальніцы блукае ўночы па могілках? што за скрыні выюць пасярод сталовай і праменяцца рознымі колерамі? чаму хлопчык глядзіць пастаноўку пра Івана Жахлівага менавіта праз парцьеру? Галоўнае ж, пэўна, тое, што пісьменніца менш уважліва прадумала структуру твора, таму асобныя эпізоды значна даўжэйшыя за канцоўку і не рыхтуюць чытача да фіналу, які мог бы быць больш развітым. Між тым чым меншы твор па памеры, тым большае майстэрства патрэбна пісьменніку, каб забяспечыць сапраўдны эстэтычны эфект. Можа, таму аўтары "Фрэсак", "Сечак" і разнастайных урыўкаў з дзённікаў не рызыкуюць ператвараць свае назіранні, разважанні і замалёўкі менавіта ў мініяцюры? А можа, справа ў такой сабе эпічна-публіцыстычнай скіраванасці, часам нават у памкненні да дакументалізму?

Калі разглядаць згаданыя мініяцюры ў кантэксце ўсёй творчасці Ірыны Гурскай (пазнаёміцца з тэкстамі можна дзякуючы сеткаваму выданню "Зарубежные задворки"), то "Бердянский дворик" падасца сапраўдным поспехам гэтай аўтаркі — у першую чаргу, дарэчы, паэткі. Лірычны настрой спалучаецца з канкрэтнымі жыццёвымі ўражаннямі, пачуццё настальгіі дае магчымасць звярнуцца да ўспамінаў і абуджае новыя думкі — таму няма патрэбы апісваць штосьці няўлоўнае і няпэўнае, тое "робкое чаяние тайны / В отчаянье бескрайнем имён" на матывы паэзіі Г. Ахматавай. Замест узнёслай паэтычнасці — самастойнасць, упэўненасць, адметная вобразнасць. Спробы скрыжаваць лірычнае з эпічным могуць быць вельмі і вельмі плённымі і, бясспрэчна, карыснымі для творчага развіцця кожнага аўтара.



Юрый Фатнеў

**"Вечарамі пахне мацыёла
У баку ад снежных завірух…"**

## Гомель

*Я адказваю, бы рэха,
На твой ліст, што значыў многа:
У мяне ў жыцці няспешным
Не змянілася нічога.*

*На Парнас не мкнуўся лезці,
Не асвойваў я арбіты.
Ў тупіку на Пінскай дзесьці
Ўсё жыву незнакаміты.*

*Гэта ў Гомелі цудоўным,
Дзе ў тралейбусе цыганкі
Запяваюць так шыкоўна,
Як вяртаюцца з гулянкі.*

*Гэта ў Гомелі былінным,
Дзе радзімічы, так гожа
Напаіўшы коней сінню,
Свята кланяліся Сожу.*

*Гэта ў Гомелі вясновым,
Што хмяліць, нібы малодка,
Ападаючы пухова,
Ліпне белы квет на лодку.*

*Калі ж вецер вандраванняў
Кіне зноў мяне сурова,
Міма стрэч і расставанняў
Паплыву, як ліст кляновы.*

*І ў апошні міг адзіны,
Перад тым, як сціхне сэрца,
Гомель песняй лебядзінай
З вуснаў выпырхне-ўзаўецца.*

* * *

*Хмурнее неба вёсачкі маленькай,
На мокрай пожні стынуць лета сны.
Туман лясны сплывае ў сенцы Сенькі,
Прыносіць пахі елкі і сасны.*

*І быццам сінню ахінае лісце —
Яна з аконных выцякае сот.
Карункавыя цені штор слюдзістых
Да лавачкі прыліплі ля варот.*

*У хлеве Лыска прамычыць няўцемна,
Патрэцца кот аб ногі ў цемнаце.
Жадае певень ночы мне прыемнай,
Усеўшыся так хвацка на шасце.*

*І добра так, што браць не трэба візы
Ў сасновы край дзіцячых зім і лет.
Глядзіць, напэўна, Сенька тэлевізар
Ці рамантуе некаму мапед.*

*Радкі Якуба Коласа цытуе
(Да сённяшніх паэтаў не дайшоў),
Ля печкі Маша, як заўжды, шчыруе,
Ў куце хавае вілкі ўсіх часоў.*

*А ў цемначы Сафроніха у міску
Лье малако для шэрага ката.
Адно ўвайду — яна з паклонам нізкім:
"Пра Дзятлавічы штосьці прачытай".*

*І я чытаю без ніякай фальшы
Пра родны край і неба сіняву,
А Сенька, маю кнігу пагартаўшы,
Спытае ціха, як цяпер жыву.*

*"А, як жыву?.." — Мне адказаць няпроста,
Дый гаспадар не дасць дагаварыць,
Бо схамянецца: спаць патрэбна госцю.
Святло патушыць, пойдзе пакурыць.*

*Ды хутка цьма прасветліцца нямая:
Маленствам буду мроіць да зары,
Дзе мама сонца ў неба падымае
У залатым калодзежным вядры.*

## Снег

*Сыпле ў Дзятлавічах снег.
Мне ізноў дзяцінства сніцца.
Выбягаю — смех ды грэх —
На сняжынкі падзівіцца.*

*Снег кранаецца плячэй,
Ахінае пухам вёску —
І калодзеж, бы знячэй,
Аплывае свечкай з воску.*

*Беллю поўны да краёў
След ласіны, і як быццам
Прапісацца ўжо гатоў
Снег на новых аканіцах.*

*Лёг на дахі адпачыць,
Ну а ў Сенькі Стрыжакова
Сала ў печцы сквірчыць,
На акенцы — мёд ліповы.*

*Снег… Ды толькі б не прастыць
Мне на ганку, на вясковым.
Як салодка ўсё ж застыць
І не вымавіць ні слова!*

*Бачу ў сумна-сумным сне
Снег, што сыпаўся на вёску.
За яго так крыўдна мне:
Шчасце мо не для дарослых?*

*…Шмыг у хату неўпрыкмет —
І на печы цёплай плачу…
А на снезе стыне след
Ад ступней маіх дзіцячых…*

## Зімовы змрок

*Задыміўся ў Гомелі дрымотным
Непраглядны тумановы змрок.
І сняжынкі падалі пяшчотна,
Рук маіх краналіся і шчок.*

*Цыганы з лясочку выязджалі,
Быў сівы ад снегу конь гняды.
На дарозе сані пакідалі
Палазоў срабрыстыя сляды.*

*Накасілі сена колькі хочаш,
Бо не кожны тут праехаць мог.
І прыемна бачыць было ноччу
Мне з акна тралейбуснага стог.*

*На санях, магчыма, ўспамінаў ён
І паляну, на каторай рос,
І як многа ў ландышавым маі
Там было зіхотка-чыстых рос!*

*Заціхалі гулкія падковы,
Раствараўся ландышавы дым.
Ліхтары мільгалі бесталкова,
Як малеча ў пыле снегавым.*

*У дзяцінства сані паімчалі,
Толькі казка сніцца й праз гады:
Цыганы з лясочку выязджалі,
Быў сівы ад снегу конь гняды…*

## Жураўліная доля

*Ліхтары над вячэрнім праспектам
Клін свой востры наўсцяж павялі.
Мне ж здалося на хвілю, што гэта
Зноў дадому ляцяць жураўлі.*

*Сон адзін мне душу ўсё казыча
Ў Бранску, Нальчыку, Алма-Аце:
Быццам клін за сабой мяне кліча,
Ды знікае ў нябёс цемнаце.*

*Ад вясновага хмельнага соку
Абуджаецца радасць зямлі.
Дзесьці там, на радзіме далёкай,
Замаўкаюць мае жураўлі.*

*Шмат чаго на чужыне адкрылі,
Зразумелі, што вырай — не рай.
І цяпер кожны ўзмах іхнекрылы
Абдымае мой сцішаны край.*

*Не пражыць на зямлі нам без болю.
Дзе ты, радасць мая? Ў сіняве?
Мо таму жураўліная доля
Кожны дзень за сабою заве.*

*Як замоўкну ў зеніце сінюткім,
Значыць, быў недарэмны мой шлях,
Жураўлінае сэрца нячутна
Разарвалася ў цесных грудзях...*

## Дзікая яблыня

*Дзікая яблыня з хвояй сплялася,
За пышнацветам не бачна ствала.
Што ж ты на волю абставін здалася?
Што ж ты ў бязлюддзі такім расцвіла?*

*Дзікая яблыня, доля гаротная...
Можа, й не яблыня нават ані?
Можа, лябёдка свінцоваю кропляю —
Куляю збіта з нямой вышыні?*

*Дзікая яблыня, юнь белалікая,
Вось бы пакінула ты сасняк!
Мо між людзей ачуняла б, нядзікая,
Лёс твой не быў бы настолькі цяжкі…*

*Хвояй калючай абдзёрта, заценена,
Ты адцвіцеш. Што ж тут болей чакаць?!
Кінеш мне яблык парою асенняю
Там, дзе даўно ўжо стаміўся чакаць.*

## Вечны круг

*Зноў Убарць, стрэўшыся з дарогаю,
Далей спакойна пабрыдзе.
Нібыта дзеўкі даўганогія,
Стаяць гарлачыкі ў вадзе.*

*І гэтак радасна й шчымліва мне
Маліцца сонечнаму дню
Там, дзе ў густыя травы жніўныя
Дуб запускае даланю.*



Фота Алеся Высоцкага

*Хадзіць па беразе расчулена,
Глядзець, як росіцца слядок
І як шчаку тваю атульвае
Лазы таемны халадок,*

*Як статак пасвіцца за рэчкаю
І пугай ляскае пастух,
Буслы лятаюць — птушкі вечныя, —
Жыцця вітаюць вечны круг.*

* * *

*Я паслухаю дождж, увайду ў яго сховы.
Я прывык ад людзей ратавацца дажджом,
Бо чамусьці пайшлі пра мяне ўжо размовы,
Што нібыта хачу развітацца з жыццём.*

*Цішыня мне патрэбна цяпер шчэ якая,
Толькі шолах дажджу па самотным лісці,
Каб аж лезла трава з-пад зямлі векавая,
Не давала тым чуткам на міг прарасці.*

*Людзі пруцца дамоў — са сваімі, з чужымі —
Ды клянуць гэту золь, аж пакуль не зіма.
Толькі ведаю: дождж мае крылы прыўздыме,
Бо найлепшы прытулак — прырода сама.*

*Што ж цяпер
прынясе мне вада дажджавая? —
Травы кінуцца ў рост, за жнівом быць сяўбе.
Пень ватоўку кары расхіне-расхрыстае,
Смех гуллівы рамонкаў прытуліць к сабе.*

* * *

*Вечарамі пахне мацыёла
У баку ад снежных завірух.
Лодкі хвалям хваляцца ля мола,
Што яшчэ азарт іх не патух.*

*І ўсю ноч да самай зараніцы
Сніцца мне язычніцкая рань,
І зязгзіцай думка мая мчыцца
Горад пашукаць Тмутаракань.*

*Меч ды гуслі — вось і ўвесь пакунак.
Бачу я, дзе сонца паласа,
Як бяжыць па светлаграйных струнах
Траў былінных важкая раса.*

*Як зіхцяцца серабром на чэрні
Вояў шлемы ў месячным святле.
Гэта я згадаю ў час вячэрні
І сяброў паклічу ўсіх. Але*

*Зноў ніхто свае не кіне сховы,
Ды і сам каня не павярну.
Толькі так закрыліць можа слова,
Калі кроў фантаніць на струну…*

*Я згублю імя на Дзікім полі,
Ды нязломным застанецца дух…
Вечарамі пахне мацыёла
У баку ад снежных завірух.*

## Ладдзя

*Я ўсё сказаў. Не ўсё пачулі вы.
Я аўтар толькі гэтай кнігі.
А ну, Харон, давай вырульвай,
Вяслуй, адпрэчыўшы вярыгі.*

*Жыццё адкладваў на калісьці я.
Глядзіш — а блізка ўжо да краю,
Ды толькі вёслы засталіся,
Ладдзя, як бусы воўк, сівая*

*Ад рос, што выпалі звыш нормы,
Пакуль не стукнулі куранты.
А перавозчык стрэў па форме:
"Аднойчы плыў са мною Дантэ…"*

*Ён стаў суровы і насуплены,
Дастаў з кішэні цыгарэту.
А змрок вароніўся разгублена.
О воды Леты! Воды Леты!*

*Я думаў — гэта проста выдумка,
Гульня свядомасці вясёлая.
У лёс паверыў гэтым прыцемкам,
Хоць чуў пра Лету шчэ са школы я,*

*Хаця маланкі, нібы прорaзі,
З цямнечы твары азаралі.
І пазнаваў я іхні розгалас,
Што мне прысніцца ў сцюжнай далі.*

*Я думаў: час яшчэ не страчаны,
Хто геній — мае ўсё ж значэнне,
Ды ўсе адным пярстом пазначаны,
Усіх нясе адно цячэнне.*

*І вы, гадоў былых начальнікі,
Што жыць хацелі пераемна…
Мы ўсе аднолькава адчалілі,
Хоць вам суседства непрыемна.*

*Была Айчына як прагнутая,
Бо вам не пісаны законы,
Ды мной гісторыя раскутая,
Дасць Бог, не толькі для Харона…*

*Я ўсё сказаў. Мне больш не летаваць,
Адно наўслед маліцца мігу.
Ды калі нават кану ў Лету я,
Час перагорне маю кнігу.*

*І хтосьці ўскрыкне ў безбярэжнасці:
"А можа, смерці не бывае?!"
Ў наступны дзень з размаху ўрэжацца
Ладдзя, як бусы воўк, сівая.*

* * *

*Ты спаткала мяне на вячэрняй зары,
Як згасае святло за асінамі,
Калі водбліск адзін на сцямнелай кары
Дагарае ружова-малінавы.*

*Ты спаткала мяне, калі цені растуць
І зліваюцца ў цемру лядачую.
Ты спаткала мяне,
пакуль я яшчэ тут,
Ды юнацтва даўно ад'юначыла.*

*Ты спаткала мяне і цяпер як радня,
Хоць ужо недалёка да скону мне.
А навошта спаткала?
Няма ж нават дня —
Толькі ноч, толькі ноч над загонамі…*

**З рускай пераклаў
Мікола ШАБОВІЧ**

Сумесны праект штотыднёвіка «ЛіМ»
і Нацыянальнай кніжнай палаты Беларусі

Кніжны свет

25 лютага 2011г.

# Молімся адной багіні — Кнізе...

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА,
Марына ВЕСЯЛУХА,
фота Кастуся Дробава

**Асноўным пытаннем, якое разглядалася ўсебакова падчас XVIII Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу, было захаванне кнігі як складніка культурнага жыцця не толькі нашых сучаснікаў, але і наступных пакаленняў. Клопат гэты — агульны для прадстаўнікоў усіх краін-удзельніц форуму. Выдаўцы, бібліятэкары, кнігагандляры, выкладчыкі, пісьменнікі акрэслівалі праблемы, з якімі яны сутыкаюцца, і намячалі шляхі іх вырашэння.**

## Супрацоўніцтва працягнецца

У рамках XVIII Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі прайшоў "круглы стол" "Роля ўстаноў адукацыі, выдавецтваў і бібліятэк у развіцці чытання", арганізатарамі якога выступілі Міністэрства культуры, Міністэрства інфармацыі і Нацыянальная бібліятэка Беларусі.

У мерапрыемстве прынялі ўдзел Лілія Ананіч, першы намеснік міністра інфармацыі Рэспублікі Беларусь, Тадэвуш Стружэцкі, намеснік міністра культуры Рэспублікі Беларусь, Раман Матульскі, дырэктар Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, прадстаўнікі міністэрстваў адукацыі, сувязі і інфарматызацыі, РУП "Белпошта", выдавецтваў, Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, пісьменнікі, супрацоўнікі бібліятэк, прадстаўнікі кнігагандлёвых арганізацый, госці форуму — людзі, пра працу якіх пісьменнік Леанід Левановіч выказаўся ўзнёсла: "Мы молімся адной багіні — Кнізе".

Як адзначыла Лілія Ананіч, "круглы стол" з-за колькасці ўдзельнікаўператварыўся ў канферэнцыю. У 2010 годзе было плённым супрацоўніцтва бібліятэкараў і кнігавыдаўцоў у распаўсюджванні сацыяльна значнай літаратуры. Былі ўзнагароджаны дыпломамі Міністэрства інфармацыі "За актыўную працу па камплектаванні фондаў бібліятэк устаноў адукацыі сацыяльна значнай літаратурай у 2010 годзе" Гомельская абласная ўніверсальная бібліятэка імя У. І. Леніна, Мінская абласная бібліятэка імя А. С. Пушкіна, сетка абласных бібліятэк Клецкага раёна, Магілёўская абласная бібліятэка імя У. І. Леніна і інш. Упершыню сярод устаноў культуры было адзначана і ўпраўленне адукацыі Брэсцкага аблвыканкама, якое на "круглым стале" прадстаўляла галоўны спецыяліст аддзела вышэйшай і сярэдняй адукацыі Таццяна Заркова. Выдавецтвы "Мастацкая літаратура", "Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі", "Вышэйшая школа" таксама ўручылі бібліятэкам граматы і прызы.

Разглядаліся пытанні выдання і папулярызацыі беларускай літаратуры, механізмы фарміравання спісаў сацыяльна значных выданняў, распаўсюджвання перыёдыкі, выдання, распаўсюджвання і ўліку электронных кніг, камплектавання бібліятэчных фондаў электроннымі, аўдыё- і выданнямі шрыфтам Брайля. Удзельнікі мерапрыемства разважалі, як абудзіць і захаваць чытацкі інтарэс да кнігі, пра лёс папяровых носьбітаў інфармацыі ў сучасным свеце і ролю бібліятэк. Прыгадвалі вопыт Польшчы, дзе існуе Дзень чытання. Выступоўцы былі адзінадушныя ў тым, што трэба як мага больш актыўна прапагандаваць кнігу — літаратурнае слова павінна гучаць паўсюдна. На заметку выдаўцам кнігагандлярамі быў агучаны попыт на кнігі пэўнай тэматыкі: у першым шэрагу называлі дзіцячую літаратуру на беларускай мове.

Лілія Ананіч паведаміла: "Такое мерапрыемства праводзіцца раз на год, на працягу некалькіх гадоў, яно прымеркавана да Міжнароднай кніжнай выстаўкі. Разам з тым лічу, што сустрэчы ў фармаце "выдаўцы—бібліятэкары—прадстаўнікі міністэрстваў культуры і інфармацыі" павінны адбывацца штоквартальна і, магчыма, у розных рэгіёнах краіны".



## Прафесійны падыход

Сапраўды міжнародным стаўся семінар для прафесіяналаў "Кніжная справа сёння і заўтра". Яго арганізатарамі з беларускага боку выступілі Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, РВУ "Літаратура і Мастацтва", Саюз выдаўцоў і распаўсюджвальнікаў друкаванай прадукцыі, з расійскага — Асацыяцыя кнігараспаўсюджвальнікаў Незалежных Дзяржаў, Федэральнае агенцтва па друку і масавых камунікацыях Расійскай Фэдэрацыі, Генеральная дырэкцыя міжнародных выставак і кірмашоў.

Падчас семінара агульную сітуацыю на кніжным рынку Беларусі і Расіі акрэслілі ў дакладах Алена Паўлава, начальнік упраўлення выдавецкай дзейнасці і кніжнага гандлю Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, і Аляксандр Варапаеў, начальнік аддзела кніжных выставак і прапаганды чытання Федэральнага агенцтва па друку і масавых камунікацыях Расійскай Федэрацыі. З дакладам "Новыя тэхналогіі прапаганды кнігі і чытання ў Расійскай Федэрацыі" выступіў Анатоль Гарбуноў, віцэ-прэзідэнт Асацыяцыі кнігараспаўсюджвальнікаў Незалежных Дзяржаў.

Намеснік дырэктара РВУ "Літаратура і Мастацтва" Ала Корбут расказала прысутным пра кніжныя навінкі рэдакцыйна-выдавецкай установы, выступіла і ў якасці каардынатара семінара. У блоку "Прафесійны маркетынг у сістэме кнігавыдання і кнігараспаўсюджвання Беларусі" дырэктар магазіна "Акадэмкніга" Вольга Глухоўская, дырэктар Цэнтра сістэмных тэхналогій "Satio" Жанна Грынюк падзяліліся вопытам працы ў галіне распаўсюджвання кнігі.

Асаблівую цікавасць прысутных выклікаў даклад вядучага маркетолага ААТ "Белкніга" Кацярыны Сіман, у якім выступоўца адзначыла найбольш эфектыўныя спосабы прасоўвання кніжнай прадукцыі, падзялілася сакрэтамі арганізацыі паспяховага гандлю. Адзначыла Кацярына і найбольш дзейсныя сродкі рэалізацыі тавара ў крамах: "Гэта вядомасць прадпрыемства. Цяпер праходзіць замена шыльд над усімі крамамі сеткі "Белкніга" для таго, каб пакупнік без цяжкасці мог і пазнаць лагатып прадпрыемства ў любым пункце горада. Беларускія выдавецтвы павінны развіваць супрацоўніцтва з кнігарнямі і суправаджаць навінкі рэкламнымі матэрыяламі для магазінаў яшчэ да выхаду кніг у свет. Дзейснымі з'яўляюцца рэкламныя і конкурсныя мерапрыемствы непасрэдна ў краме з іх асвятленнем у СМІ. Вялікую ролю адыгрывае і зручны расклад працы крамы. Але на сённяшні дзень рэклама ў чыстым выглядзе сябе зжывае. Значны эфект прыносяць толькі рэкламныя кампаніі, у якія робяцца вялікія капіталаўкладанні. Пры гэтым важна памятаць, што пра кніжныя навінкі пакупнік даведваецца часцей не з рэкламы і рашэнне набыць выданне прымае пад уздзеяннем меркавання сяброў, сваякоў і калег. Таму ў гэтым выпадку PR-мерапрыемствы можна лічыць паспяховымі. Так, на стэндзе ААТ "Белкніга" падчас кніжнай выстаўкі праводзілася дабрачынная акцыя "Падары кнігу дзецям". Не варта забывацца і на эфектыўнасць выкарыстання Інтэрнэта і сацыяльных сетак (магчымасцей ICQ, Facebook) у прасоўванні кніжнай прадукцыі".

***На здымку:** удзельнікі "круглага стала" "Роля ўстаноў адукацыі, выдавецтваў і бібліятэк у развіцці чытання" — **намеснік міністра культуры Тадэвуш Стружэцкі, старшыня міжнароднага кніжнага кірмашу "ARS POLONA S.A." у Варшаве Гжэгаж Гузоўскі, дырэктар Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Раман Матульскі.***

---

*Выстаўкі*

# Сведчанне сталасці народа

Алена СЦЯПАНАВА

**Беларускія кнігавыдаўцы прынялі ўдзел у XII Вільнюскім міжнародным кніжным кірмашы, які праходзіў з 17 па 20 лютага ў выставачным цэнтры Litexpo.**

Адкрыццё кірмашу пачалося хвілінай маўчання ў памяць аб Юсцінасу Марцінкявічусу, адным з найвядомейшых літоўскіх паэтаў, які памёр у сераду, у дзень адкрыцця кніжнай выстаўкі.

Лозунгам кірмашу былі абвешчаны словы "За права чытаць".

Прэзідэнт Літвы Даля Грыбаускайтэ ў звароце да ўдзельнікаў выстаўкі адзначыла, што кніга сведчыць пра сталасць народа, таму мы ўсе адказныя за яе будучыню. "Жыццёва важная дзяржаўная задача — забяспечыць доступ да кніг для ўсіх грамадзян краіны, гарантаваць падтрымку выпуску новых выданняў, іх распаўсюджвання і ўзбагачэння бібліятэчных фондаў", — сказала кіраўнік дзяржавы.

Асноўныя мерапрыемствы кніжнага кірмашу гэтага года былі прысвечаны 100-гадоваму юбілею пісьменніка, лаўрэата Нобелеўскай прэміі Чэслава Мілаша і стагоддзю з дня смерці вядомага літоўскага мастака Канстанцінаса Чурлёніса.

Цікавую навінку прапанавалі арганізатары выстаўкі наведвальнікам у гэтым годзе — кніжны кіназал. У ім транслiраваліся дакументальныя фільмы пра вядомых пісьменнікаў і мастацкія фільмы, у асноўным — экранізацыі вядомых раманаў.

У кніжным кірмашы прымалі ўдзел амаль 200 экспанентаў. Вялікую цікавасць у наведвальнікаў выклікаў стэнд Беларусі. Выдавецтвы "Беларуская Энцыклапедыя імя П. Броўкі", "Адукацыя і выхаванне", "Пачатковая школа", РВУ "Літаратура і Мастацтва", "Мастацкая літаратура" правялі прэзентацыю лепшых кніг сваіх выдавецтваў. Навучэнцы віленскай беларускай школы імя Францыска Скарыны прыйшлі падтрымаць кнігавыдаўцоў — у яскравых беларускіх строях музычны гурт дзяўчат спяваў цудоўныя беларускія песні, што стварала святочны настрой на беларускім стэндзе.

У дзень адкрыцця выстаўкі беларуская дэлегацыя на чале з Надзвычайным і Паўнамоцным паслом Беларусі ў Літоўскай Рэспубліцы Уладзімірам Дражыным і кіраўніком дэлегацыі, начальнікам упраўлення выдавецкай дзейнасці і кніжнага гандлю міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь Аленай Паўлавай наведала беларускую школу імя Францыска Скарыны і перадала каштоўныя падарункі для беларускіх дзяцей, якія навучаюцца тут.

Пісьменніцы Раіса Баравікова і Алена Масла правялі шэраг сустрэч з наведвальнікамі выстаўкі і вучнямі віленскай беларускай школы імя Францыска Скарыны.

---

*У падтрымку чытання*



# «На стале некалькі выданняў»

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА

**Тамара Вяцкая, першы намеснік Старшыні Тэлерадыёвяшчальнай арганізацыі Саюзнай дзяржавы, акадэмік Міжнароднай акадэміі тэлебачання і радыё:**

— У падлеткавым узросце маёй любімай кнігай была прыгодніцкая аповесць Вахтанга Ананяна "Пленники барсова ущелья», яна проста ўзрушыла мяне тады. На першы погляд яна пра зусім звычайныя рэчы: здрадніцтва і сяброўства, сіла духу і да т.п.

Сёння ў мяне на стале адначасова некалькі выданняў: беларускі часопіс "Большой", ён мне вельмі падабаецца; "Огонёк", які я штотыдзень купляю тут, у Маскве, і прачытваю ўвесь. А з кніг (іх таксама адначасова некалькі) — "Пограничные сказки про котят" Людмілы Петрушэўскай, дачытала кнігу Дзіны Рубінай "Иерусалимский синдром", якую атрымала ў падарунак на Новы год.

Чытаць люблю, чытаю шмат. Калі ёсць час. Ён ёсць. Але не заўсёды...

# Па Нёмане — перасякаючы межы

Марына ВЕСЯЛУХА

**Падчас XVIII Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу адбылося абмеркаванне незвычайнага выдання "Таласы Панямоння: гісторыя, культура, лёсы аднаго еўрапейскага абшару", што пабачыла свет у выдавецтве "Тэхналогія" пры падтрымцы Інстытута імя Гётэ ў Мінску. У кнізе аўтар — нямецкі публіцыст і гісторык культуры Увэ Рада — акцэнтуе ўвагу на рэгіёне на ўзбярэжжах ракі Нёман. Пра адметнасці гэтага выдання і свае планы па вывучэнні тэрыторый каля іншых рэк даследчык расказаў карэспандэнту "Кніжнага свету".**

**— Спадар Увэ, некалькі год таму выйшла ваша кніга пра раку Одэр, цяпер жа ў цэнтры ўвагі апынуўся Нёман. Чаму абралі для сябе менавіта такі па сутнасці новы, незвыклы для нас "рачны" падыход?**

— Рэкі расказваюць сваю ўласную гісторыю, яна адрозніваецца ад гісторыі афіцыйнай. Мяне асабліва цікавяць рэкі, што працякаюць праз тэрыторыі некалькіх краін, і да вывучэння рэгіёнаў на іх узбярэжжах нельга падыходзіць з пункта гледжання толькі адной дзяржавы, адной нацыі. У такім выпадку можна нават сказаць, што рэкі не толькі раздзяляюць, з'яўляюцца натуральнымі межамі паміж краінамі, але і звязваюць.

**— Чым адрозніваецца гісторыя, расказаная рэкамі, ад афіцыйнай?**

— У цэнтры маёй увагі звычайна апынаюцца рэкі, што знаходзяцца так бы мовіць, на перыферыі, яны не працякаюць праз сталічныя рэгіёны. Людзі, якія жывуць у Мінску, Вільнюсе, Берліне, успрымаюць Нёман здалёк, на адлегласці. Жыхары ж раёнаў, што знаходзяцца на ўзбярэжжах, расказваюць сваю гісторыю, яна адрозніваецца ад агульнанацыянальнай. Больш таго, на Нёмане шмат агульных памятных месцаў, ён з'яўляецца сімвалічнай ракой. Асабліва добры прыклад — рок-спявак Чэслаў Немэн са Старых Васілішкаў, што на Гродзеншчыне. Яго творчасць не належыць толькі беларусам ці толькі палякам, нават псеўданім "Немэн" сімвалізуе гэта.

У Германіі Нёман ведаюць з нямецкага гімна. Сёння яго спяваюць з трэцяга слупка, раней вынконвалі з першага, дзе гучаць імперскія матывы ў словах "ад Мааса — да Нёмана". Таму Нёман — тэма вельмі цяжкая для немцаў. Гаворачы пра гэтую раку, яны ў асноўным маюць на ўвазе усходнепрускі Нёман, яго даўжыня толькі 110 кіламетраў. Агульная ж даўжыня ракі 937 кіламетраў. Таму Нёман заўсёды быў мультынацыянальнай ракой — нямецкай, літоўскай і беларускай. Нават тая частка, што працякае па Беларусі, заўсёды была і нямецкай, і літоўскай, і беларускай.

**— Даследуючы гісторыю рэгіёнаў на ўзбярэжжах рэк, ці заўважылі вы, як рака ўплывае на людзей?**

— Не магу сказаць, ці ўплывае рака на характар, гэта антрапалагічнае, этналагічнае пытанне, але трэба сказаць, што ва ўсіх рэгіёнах ёсць нешта агульнае. Пасля таго, як скончылася эра камунізму, іх насельнікі шукаюць новую гісторыю. У Калінінградзе звяртаюцца да нямецкай гісторыі, у Літве — да гісторыі Панямоння, у Беларусі — Вялікага Княства Літоўскага.



Фота Інгі Шванд

**— Кніга пазначана як навукова-папулярнае выданне. Чаго ў ёй больш — навуковага ці публіцыстычнага?**

— Спрабую расказаць гісторыю. Я сам не гісторык, я журналіст, але цікаўлюся гісторыяй, займаюся даследаваннямі ў гэтым кірунку. Спадзяюся, у кнізе мне ўдалося аб'яднаць гісторыю ракі і гісторыю народаў. Ведаю, што ў Беларусі існуе строгая класіфікацыя выданняў на навуковую літаратуру, мастацкую, публіцыстыку. Думаецца, што гэтак жа, як Нёман перасякае краіны, кніга перасякае розныя жанры. Мне самому цікава, як беларуская аўдыторыя ўспрыме пераклад кнігі.

**— А як успрынялі кнігу ў Германіі?**

— Былі толькі станоўчыя водгукі. Для мяне вельмі важна цяпер, па-першае, устанаўленне кантакту, дыялога з аўдыторыяй, па-другое, я хацеў бы, каб у цэнтр увагі зноў вярнуўся гэты шырокі рэгіён — Панямонне. Ён доўгі час быў у забыцці, асабліва калі існаваў "жалезны занавес". Хачу, каб людзі з Беларусі, Літвы, Калінінградскай вобласці, Польшчы, Германіі ўступілі ў дыялог. І думаю, пасля таго, як яны прачытаюць кнігу, не змогуць сказаць, што Нёман — толькі беларуская, нямецкая, літоўская рака. Шмат людзей у Расіі штогод ездзяць да крыніцы, з якой выцякае Волга, добра было б, каб і крыніца, з якой выцякае Нёман, таксама стала месцам паломніцтва для жыхароў розных краін.

**— Можа, ужо маеце планы па вывучэнні новай ракі, новага рэгіёна?**

— Ужо выйшлі кнігі пра Одэр і Нёман, маю задумку закончыць трылогію кнігай пра Эльбу. Гэта справа вельмі асабістая, бо мой бацька і яго сям'я прыехалі з тэрыторыі багемскай Эльбы, а там ніколі не ўзнікала пытанне, ці то яны немцы, ці то чэхі. Таму і прозвішча маю чэшскае — Рада.

**Сапраўды, кніга інтрыгуе, адразу ж з'яўляецца шмат пытанняў. Але наколькі абгрунтаваны такі "рачны падыход" з пункта гледжання гістарычнай навукі? Як успрымае кнігу прафесійны гісторык? З гэтымі пытаннямі мы звярнуліся да доктара гістарычных навук, прафесара Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта Аляксандра Смаленчука:**

— Кніга вельмі цікавая, і тут сапраўды можна казаць пра нейкія новыя падыходы да гісторыі. Бо аўтар, пішучы культурную гісторыю ракі Нёман, узнаўляе традыцыі мультыкультурнасці, якія папярэднічалі этапу нацыяналізму. Таму выданне ўспрымаецца як наднацыянальная праца. Нёман яднае розныя сюжэты, багацце гістарычных падзей, шмат цікавых гістарычных постацей паўстае на старонках выдання.

Рака, аказваецца, стварае пэўны рэгіён, культурны ландшафт, і гэта абсалютна новы погляд на гісторыю. Калі я чытаў кнігу Увэ Рады, падумаў, што можна пісаць і гісторыю лясоў, азёр, і ў гэтым ёсць сэнс. Новы, трохі нечаканы зрэз дазваляе больш глыбока зразумець жыццё чалавека. Палітычная, эканамічная гісторыя, традыцыйныя кірункі даследаванняў не могуць паказаць чалавека, а тут — рака і жыццё людзей каля ракі.

## *Азбука Морзэ*

Чэслава ПАЛУЯН

● З 23 да 26 лютага ў НВЦ "БелЭкспа" праходзіць VII міжнародная спецыялізаваная выстаўка "Свет дзяцінства-2011", арганізатарамі і ініцыятарамі якой выступілі Міністэрства гандлю, Міністэрства адукацыі, Міністэрства аховы здароўя Рэспублікі Беларусь, а таксама Мінгарвыканкам. Акрамя рознага кшталту тавараў для дзяцей, на выстаўцы прадстаўлены і шырокі спектр вучэбна-метадычных і мастацкіх выданняў, якія можна пабачыць і набыць на агульным стэндзе Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

— Падчас Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу рэдакцыя газеты "Переходный возраст" арганізавала дзіцячую дабрачынную акцыю "Пачытаем!". Праект, што рэалізуецца пры падтрымцы Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь акрамя збору кніг для стварэння бібліятэк у дзіцячых дамах сямейнага тыпу прадугледжвае падрыхтоўку серыі тэматычных публікацый па навінкі беларускіх выдавецтваў на старонках газеты "Переходный возраст".

● У межах ініцыятывы "Культура і развіццё" і праекта "Павышэнне кваліфікацыі спецыялістаў выдавецкай справы ў краінах Усходняй Еўропы і Цэнтральнай Азіі" ў Інстытуце імя Гётэ ў Мінску прайшла серыя семінараў, прысвечаных пытанням арганізацыі паспяховага кніжнага гандлю і каардынацыі працы рэдакцыі. Семінар "Узорная мадэль кніжнага магазіна — утрыманне кліента шляхам прафесійнай камунікацыі з ім" правёў спецыяліст па продажах Фолькерт Рогенкамп. Карын Хербер-Шлап, рэдактар выдавецтва Krüger, выступіла ў якасці рэферэнта на семінары "Прафесійнае праграмнае планаванне — структура дзейнасці рэдакцыі".

— На Кубе прайшла XX Гаванская міжнародная кніжная выстаўка, гасцямі якой сталі прадстаўнікі кніжнай галіны і літаратары з 40 краін свету. Асаблівая ўвага была звернута на творчасць кубінскіх пісьменнікаў Фернанда Марцінэса Эрэдзія і Хаймэ Сарускі. У мінулым годзе Расія ўпершыню прыняла ўдзел у кніжным кірмашы ў Гаване ў якасці ганаровага госця. Улічваючы вялікі інтарэс кубінцаў да расійскай кніжнай прадукцыі, і ў гэтым годзе на Кубу былі прывезены кнігі больш як ста выдавецтваў Расійскай Федэрацыі.

● Асацыяцыя амерыканскіх выдаўцоў прадставіла выніковую справаздачу, што адлюстроўвае агульныя фінансавыя дасягненні выдаўцоў ЗША за мінулы год. Згодна прадастаўленай інфармацыі, продажы кніжнай прадукцыі ў розных фарматах па выніках 2010 года выраслі на 3,6 працэнта і дасягнулі 11,67 мільярда долараў. У той жа час продажы ўласна друкаваных кніг знізіліся на 4,4 працэнта. Што да сектара электронных кніг, то ён па выніках мінулага года прадэманстраваў рост на 164,4 працэнта да 441,3 мільёна долараў.

— Кампанія REDgroup, ва ўладанні якой знаходзіцца некалькі кнігагандлёвых сетак у Аўстраліі і Новай Зеландыі, добраахвотна перайшла пад кантроль часовага кіраўніка. Такім шляхам самы буйны кнігагандляр Аўстраліі спадзяецца пазбегнуць банкрутства. Мінулы фінансавы год стаў асабліва стратным для кампаніі, таму на працягу апошніх некалькіх месяцаў кіраўніцтва спрабавала знайсці крыніцы фінансавання. Цяпер гэтым давядзецца заняцца кампаніі Ferrier Hodgson Partners, "пад крыло" якой перайшоў кнігагандляр. Усе кнігарні сеткі пакуль працягваюць працаваць.

● На мінулым тыдні было прынята рашэнне аб банкрутстве кнігагандлёвай кампаніі Borders Group Inc., другой па велічыні ў ЗША. Цяпер Borders атрымала шэсць месяцаў на тое, каб правесці фінансавую рэструктурызацыю. Падзенне Borders дэманструе паступовы і намнога больш хуткі, чым многія чакаюць, сыход бізнес-мадэлі буйных кнігагандлёвых сетак, заўважную частку якіх складаюць аб'екты буйнога фармату.

## Слабадан Гаўрылавіч:

# «Абсалютна недапушчальна ўсталёўваць дэмакратыю бомбамі і ракетамі»

**XVIII Міжнародная кніжная выстаўка-кірмаш была багатая на цікавыя сустрэчы, "круглыя сталы", дыскусіі, прэзентацыі. У Мінскай абласной бібліятэцы імя А. С. Пушкіна сербскі пісьменнік Слабадан Гаўрылавіч знаёміў прысутных з кнігай "Баланс советского термидора", якую выпусціла РВУ "Літаратура і Мастацтва".**

Надзвычайны і Паўнамоцны пасол Рэспублікі Сербія ў Рэспубліцы Беларусь Срэчка Джукіч (аўтар прадмовы) адзначыў, што першай ахвярай эканамічных крызісаў заўсёды становіцца культура. Асабліва культура малых народаў. Ёй цяжка прабіцца ў выдавецтвы іншых краін, на чужыя рынкі. Таму з'яўленне кожнай кнігі — гэта агульны поспех і, калі хочаце, подзвіг.

— Сёлета нашаму пісьменніку, філосафу, выдаўцу Слабадану Гаўрылавічу споўніцца 60 гадоў, сорак з якіх ён прысвяціў даследчыцкай і грамадска-палітычнай працы. Рэспубліканскае рэдакцыйна-выдавецкае прадпрыемства, якое ён узначальвае, лічыцца ў нашай краіне лепшым па ўсіх паказчыках. Спадзяюся, што гэта сустрэча стане працягам цесных узаемаадносін паміж РВУ "Літаратура і Мастацтва" і сербскім выдавецтвам "Службени гласник", — падкрэсліў пасол.

Пасля прэзентацыі карэспандэнт "ЛіМа" Уладзімір Бацкалевіч папрасіў спадара Гаўрылавіча адказаць на некалькі пытанняў.

— Раскажыце, пра што кніга?

— Гэта дыптых. У яго аснове — антысталінская кніжка "Баланс савецкага тэрмідора", апублікаваная ў 1940 годзе ў Белградзе і адразу ж канфіскаваная. Таму і малавядомая. Яе аўтара, Жываіна Паўлавіча, актыўнага дзеяча югаслаўскай і члена французскай кампартыі, пакаралі смерцю як "здрадніка і шпіёна" свае ж таварышы-камуністы. Другую частку выдання складае палітычны партрэт самога Жываіна Паўлавіча, які я напісаў на аснове дэтальнага вывучэння яго жыцця і творчасці. Іншымі словамі, кніга прысвечана ахвярам сталінскага тэрору другой паловы 1930-х гадоў. Падзеі таго часу абагулена названы "савецкім тэрмідорам".

— Як узнікла жаданне вярнуць твор з небыцця?

— У савецкай Югаславіі і Сербіі пра гэтую кнігу ніхто афіцыйна не ўзгадваў. Яна была забаронена. Мне ўсё ж удалося пазнаёміцца з ёй. Прачытаў і быў уражаны вынікамі сталінскага генацыду. Амаль 12 гадоў збіраў звесткі пра яго ахвяры. І не толькі ў архівах былой Югаславіі, але і ў архівах, бібліятэках Расіі. Сустракаўся са сведкамі тых падзей, іх сваякамі. Расказаць пра гэта нашчадкам — мой грамадзянскі і пісьменніцкі абавязак.



Фота Кастуся Дробава

— Вы сказалі, што Жываін Паўлавіч быў членам кампартыі Францыі, змагаўся за ідэалы рэвалюцыі. Наогул, многія сербы некалі кляліся ў вечнай дружбе з Францыяй. Ці змяніліся вашы погляды пасля памятных і крывавых падзей дзесяцігадовай даўнасці ў Косаве?

— Паверце, для мяне гэта балючая тэма, рана, якая не загойваецца. Так, многія, у тым ліку два мае дзяды, лічылі Францыю ледзь не другой радзімай. У час Першай сусветнай вайны яна актыўна дапамагала сербам, выратавала, па няпоўных падліках, 70 тысяч нашых салдат. Пасля знішчальных натаўскіх бамбардзіровак, у якіх удзельнічалі і французы, пачуцці змяніліся. Па-мойму, з маральнага пункта гледжання абсалютна недапушчальна ўсталёўваць дэмакратыю ў любой краіне бомбамі і ракетамі. Палітыка двайных стандартаў заўсёды суправаджаецца болем, гневам, смерцю. Пра гэта нямала напісана і выдадзена.

***На здымку:** Слабадан Гаўрылавіч (злева) і перакладчык Іван Чарота.*

# Античность, знаки и портреты













**Книги об истории литературы, чтения, о символах и знаменитых личностях составляют особую группу изданий. Они манят читателя громкими названиями, сулят дать ответы на многие вопросы. Они обещают рассказать об истории литературы, о происхождении символов, загадках и тайнах личной жизни писателей-кумиров. Именно такие издания ООО "Харвест" мы представляем сегодня читателям "Кніжнага свету".**

Юзефа ВОЛК,
Денис МАРТИНОВИЧ,
Ольга ПАВЛЮЧЕНКО

## Введение в теорию фольклора

Как зарождались мифы, литература и театр? Как появились греки и вся греческая культура, оказавшая огромное влияние на развитие мировой культуры? Как вообще складывалось мышление человека, его язык и его представления о мироздании? Над этими и многими другими вопросами размышляет и даёт на них свои ответы филолог и культуролог Ольга Фрейденберг (1890-1955). Её книга **"Миф и литература древности"** впервые вышедшая в 1978 году, через 20 лет была переиздана. Сейчас читатели имеют возможность познакомиться с третьим изданием книги знаменитого филолога.

Сложно точно определить, в какой области работала Ольга Фрейденберг. По образованию она филолог. Однако интерес к её работам может возникнуть скорее в среде фольклористов и культурологов, нежели собственно античников. Ведь то, что она делала, нельзя вместить в рамки лишь одной науки, даже несмотря на комплексный характер филологии.

Книга написана в форме "я-рассказа", что не случайно. Строгое научное и обобщающее "мы" не стоит за строками данной работы, хотя у Ольги Фрейденберг были и единомышленники, и учителя, и ученики. "Тем не менее рассказ этот очень личный, и, может быть, именно благодаря несводимости ни к одной научной школе, сколько бы веяний, в том числе далёких от научной строгости, ни затрагивало автора настоящей книги, благодаря "личному", не объяснимому целиком состоянием научной мысли определённого времени характеру исследований работы Ольги Фрейденберг оказываются современными", — рассуждает в послесловии к первому изданию книги Н. В. Брагинская.

Более того, книга, в которой изложены идеи классика филологии, актуальна и сегодня, спустя 30 лет со дня её первого выхода из печати.

## Вначале был… символ!

Символический язык – язык универсальный. Все известные культуры содержат следы всеобъемлющего знания. Да и каждый из нас встречается с символами и знаками чуть ли не каждый день. Это крест, обручальное кольцо, красная роза, свадебное или траурное платье, гербы и эмблемы, политические символы и многое-многое другое. Более того, символы присутствуют даже в нашей психике, ведь самый древний пласт нашего мышления, по мнению современных исследователей, — символический. И он есть у всех людей.

Как утверждают учёные, "история символизма нашей цивилизации уходит вглубь веков, к эпохе пещерного человека — на стенах пещер до наших дней остались знаки, отображающие религиозные верования и представления древних о жизни". Когда-то тайну зашифрованных символов тщательно охранял узкий круг посвящённых людей (чаще всего это были жрецы). Теперь доступ к символам открыт всем, и число желающих изучать их и работать с ними постоянно растёт.

Своеобразным путеводителем по миру станут для вас несколько изданий. Два из них составлены **Викторией Рошаль**. Это "Полная энциклопедия символов" и "Энциклопедия символов". В чём же отличие между ними? Первая книга является полноценным энциклопедическим изданием. Она имеет чёткую структуру, охватывающую наиболее интересующие нас сферы. Это "Символика чисел", "Геометрические символы", "Важнейшие универсальные символы человечества", "Мифологические символы древних культур", "Символика современных религий", "Символика древних мистических орденов", "Символика времени", "Земная символика (язык природы)" и, наконец, "Высшее проявление символизма – карты Таро". Несомненный интерес представляет и вводный раздел "Происхождение и способы выражения символов", рассматривающий, в частности, понятия "знак", "эмблема", "символ". Энциклопедия содержит более 700 иллюстраций, а также легенды и предания, помогающие проникнуть в самую суть символики.

В свою очередь, **"Энциклопедия символов"** является подарочным изданием небольшого формата, легко помещающимся как в кармане мужского пиджака, так и в женской сумочке. Оно лишь вводит читателя в мир универсальных символов человечества, открывает самую суть этих символов, которая хотя и несёт на себе отпечаток разных культур и традиций, практически одна и та же для всех народов земли. Роль **"Энциклопедии символов"** двойственна. С одной стороны, она может выполнять ознакомительную и информационную функцию. С другой стороны — знакомство с ней может стать для читателей стимулом углубления своего интереса к специальной литературе.

Книга **"Символы. Знаки"** вышла в серии "Самые красивые и знаменитые". Издание создано женским авторским коллективом (Татьяна Каширина, Маргарита Альбедиль, Вера Бокова, Алла Чернова, Татьяна Николаева), включающим историков, искусствоведов и этнологов. Такой подход неудивителен, поскольку **"Символы. Знаки"** является взглядом на символы сквозь призму именно этих научных дисциплин.

Недаром говорят, что подавляющая часть произведений искусства имеет символический подтекст и без знания этого международного языка смысл шедевров мирового искусства остается скрытым. Поэтому книга рассказывает о символах как о ядре каждой культуры и как о самом мощном "инструменте" передачи неизреекаемых истин.

Например, в главе "Крест" речь идёт не только о привычной христианской символике. Разговор начинается с его роли в жизни древних ассирийцев, этрусков и финикийцев, китайцев и индийцев, жителей доколумбовой Америки и скандинавов. Авторы утверждают, что крест "являлся наиболее универсальной и простейшей эмблемой космоса: две пересеченные линии символизировали четыре стороны света". Затем символ рассматривается сквозь призму христианского мировоззрения, отношения к кресту язычников. В качестве примеров заимствования этой символики в другие сферах жизни является использование крестов в орденах и медалях ряда стран, а также как символа Международного движения Красного Креста.

Тот же подход характерен и для главы "Солнце и солнечные эмблемы". Авторы предлагают читателю широкую панораму, включающую отношение к этому культу в разных странах и цивилизациях древности. Подчёркивается особая роль солнца в системе верований россиян вплоть до XX века.

Все описываемые примеры иллюстрируются картинами, иконами, портретами. Это содействует восприятию материала, поэтому богато иллюстрированные увлекательные статьи предназначены для самого широкого круга читателей.

Как отмечал О. Айвахов, "мир символов — это мир жизни. Жизнь работает символами и проявляется через них; каждый предмет — символ, содержащий жизнь".

## Начинающим с последней страницы

Навык читать — особенный: приобретя его однажды, утратить уже никогда не удастся. Другое дело, какой ценой даётся это приобретение. Например, многим чернокожим рабам Америки оно стоило жизни. До середины XIX века в Южной Каролине существовали законы, строго запрещающие всем чёрным, всё равно, рабам или свободным, учиться читать.

Попытка ограничить круг чтения для тех, кто всё-таки читать научился, — следующая степень несвободы, засвидетельствованная историей. Чего стоят публичные сожжения творений неугодных авторов в гитлеровской Германии! А гонения на женскую литературу, истоки которой можно отследить начиная со знаменитых Записок у изголовья" Сэй Сёнагон… Об этих и других, не менее интересных фактах, рассказывается в книге **"История чтения"**, написанной Альберто Мангуэлем и переведённой на русский язык Марией Юнгер. Кстати, первая глава этого издания называется "Последняя страница".

Альберто Мангуэль родился в 1948 году в Буэнос-Айресе. Известный издатель, переводчик, редактор, владеющий многими языками, он создал произведение, посвящённое любителям книги. Рассказывая о всемирно известных персонах и простых смертных, автор постепенно завоёвывает сердце читателя увлекательной формой повествования, приглашает его поразмыслить, какая алхимия делает буквы пригодными для понимания словами и что происходит внутри нас, когда перед глазами оказывается текст, что такое сладость чтения, хорошо ли красть книги и как нас характеризуют произведения, которые мы читаем.

"История чтения", несомненно, достойна пристального внимания, потому что в ней рассматриваются все аспекты чтения как процесса, а отдельная глава посвящена власти читателя над текстом.

"Книга должна быть топором, способным разрубить замёрзшее море внутри нас. В это я верю", — писал в 1904 году Франц Кафка своему другу Оскару Поллаку. Книге "История чтения" это под силу.

## Пристрастный портрет на фоне эпохи

Оговоримся сразу, что эта книга адресована людям, которые знают, кто такая Анна Ахматова, но по совершенно непонятной автору данной статьи причине её не любят. Именно её, а не пронзительные строки её стихов. Что, согласитесь, странно – не могла же Анна Андреевна лично задеть автора книги **"Анти-Ахматова"** Тамару Катаеву, потому что основательно разминулась с ней во времени. Да и в школе стихи Ахматовой зубрить никого не заставляли. А уж тем паче её биографию. Тем не менее Тамара Катаева почему-то не смогла смириться с "хрестоматийным глянцем" образа поэта и посвятила его разрушению свыше семисот страниц. Читатель, согласившийся вникнуть в текст с начала и до конца, узнает об Ахматовой всё — и о том, как она "сама о себе создавала миф", и кто ходил у неё в любовниках, и кого там не было, хотя, как утверждает Тамара Катаева, Анне Андреевне очень хотелось видеть имярек в этой роли. В общем, не та была Ахматова, ой, далеко не та, за кого себя выдавала. Список источников, из которых черпалось всё, что может развенчать наше каноническое представление об Ахматовой, занимает целых шестнадцать страниц. Закончить заметку о книге хочется одним из комментариев Тамары Катаевой: "Но тому прошло уже пятьдесят лет и о мёртвом не имущие сраму живые могут писать, что угодно. Могут и умалчивать многозначительно — на сколько хватит совести". Вот. На сколько хватит совести.

Працяг. Пачатак у № 4,6,7

# Сведения о субъектах хозяйствования, имеющих лицензию на полиграфическую деятельность, по состоянию на 1 января 2011 года

| Наименование лицензиата | Местонахождение лицензиата (юридический адрес) | Учетный номер плательщика (УНП) | Сведения о лицензии (№ бланка лицензии, дата и № приказа о выдаче) | Срок действия лицензии | Составляющие полиграфической деятельности: выпуск печатной продукции |
|---|---|---|---|---|---|
| Рекламно-издательское ООО "Репринт" | 220141, г. Минск, ул. Ф. Скорины, 51, к. 311а | 100172406 | 02330/0494105 выдана от 29.03.2004 № 71, продлена от 11.03.2009 № 29 | До 29.03.2014 | за исключением газет |
| ОАО "ЦНИИТУ" | 220033, г. Минск, пр-т Партизанский, 2, к. 4, строение Г, к. 308 | 100059904 | 02330/0552749 выдана от 17.03.2010 № 34 | До 17.03.2015 | за исключением газет |
| ОАО "Сморгонский завод оптического станкостроения" | 231000, г. Сморгонь, ул. Я. Коласа, 78, Гродненская область | 500154362 | 02330/0494125 выдана от 03.04.02009 № 38 | До 03.04.2014 | за исключением периодических изданий, кроме газеты "Сморгонский станкостроитель" |
| ОДО "Знамение" | 220114, г. Минск, пр-т Независимости, 98, к. 102, 136 | 100387638 | 02330/0150475 выдана от 29.03.2004 № 71, продлена от 25.02.2009 № 19 | До 29.03.2014 | без ограничений |
| Совместное ЗАО "ФлексоФорс" | 220109, г. Минск, пос. Сосны, ул. Академика Красина, 201 — 114 | 80800012 | 02330/0150485 выдана от 29.03.2004 № 71, продлена от 25.02.2009 № 19 | До 29.03.2014 | за исключением периодических изданий и книжной продукции |
| Учреждение образования "Белорусский государственный медицинский университет" | 220116, г. Минск, пр-т Дзержинского, 83, корп. 1 | 100582412 | 02330/0150484 выдана от 29.03.2004 № 71, продлена от 25.02.2009 № 19 | До 29.03.2014 | за исключением периодических изданий |
| ООО "БТБ" | 246028, г. Гомель, ул. Головацкого, 27 | 400189072 | 02330/0494117 выдана от 29.03.2004 № 71, продлена от 23.03.2009 № 32 | До 29.03.2014 | за исключением газет |
| РУП "Информационно-вычислительный центр" Министерства финансов Республики Беларусь | 220004, г. Минск, ул. Кальварийская, 17, к. 201а, 201б, 232, 242 —244, 339в | 100049849 | 02330/0494120 выдана от 29.03.2004 № 71, продлена от 11.03.2009 № 29 | До 29.03.2014 | за исключением газет |
| ООО "Информационно-издательская студия "Арт-пресс" | 223050, Минский район, п. Колодищи, административное здание центральной геофизической экспедиции, к. 2 | 100069947 | 02330/0494130 выдана от 03.04.2009 № 38 | До 03.04.2014 | за исключением периодических изданий |
| ООО "БелИнтерМаркет" | 224030, г. Брест, ул. Советская, 64 | 200535779 | 02330/0552791 выдана от 29.03.2004 № 71, продлена от 25.02.2009 № 19 | До 29.03.2014 | за исключением газет |
| ОАО "Витебский картонажно-полиграфический комбинат" | 210603, г. Витебск, ул. Покровская, 5 | 300029465 | 02330/0150489 выдана от 25.02.2009 № 19 | До 25.02.2014 | за исключением периодических изданий и книжной продукции |
| ОАО "Аргон" | 213180, г/п Круглое, Могилевской обл., ул. Советская, 17 | 700107204 | 02330/0552739 выдана от 02.02.2010 № 10 | До 02.02.2015 | за исключением периодических изданий |
| РУП "Вычислительный центр Главного статистического управления Витебской области" | 210603, г. Витебск, ул. Ленина, 10а | 390069935 | 02330/0494118 выдана от 29.03.2004 № 71, продлена от 23.03.2009 № 32 | До 29.03.2014 | за исключением газет |
| РУП "Гродненский центр научно-технической и деловой информации" | 230029, г. Гродно, ул. Горького, 72а | 500037270 | 02330/0494101 выдана от 29.03.2004 № 71, продлена от 11.03.2009 № 29 | До 29.03.2014 | за исключением газет |
| ООО "Полипринт" | 220038, г. Минск, ул. Ботаническая, 5а, к. 2п | 100180474 | 02330/0552790 выдана от 29.03.2004 № 71, продлена от 11.03.2009 № 29 | До 29.03.2014 | за исключением газет |
| ОАО "Красная звезда" | 220073, г. Минск, 1-ый Загородный пер., 3 | 190184544 | 02330/0552716 выдана от 30.04.2004 № 93, продлена от 03.04.2009 № 38 | До 30.04.2014 | без ограничений |
| РУП "Типография "Победа" | 222310, г. Молодечно, ул. Тавлая, 11 | 600074908 | 02330/0494182 выдана от 30.04.2004 № 93, продлена от 03.04.2009 № 38 | До 30.04.2014 | без ограничений |
| Коммунальное издательско-полиграфическое унитарное предприятие "СОЖ" | 246015, г. Гомель, ул. Лепешинского, 1 | 400058948 | 02330/0494162 выдана от 30.04.2004 № 93, продлена от 03.04.2009 № 38 | До 30.04.2014 | без ограничений |
| ОАО "Брестская типография" | 224013, г. Брест, пр. Машерова, 75 | 200020405 | 02330/0494170 выдана от 30.04.2004 № 93, продлена от 03.04.2009 № 38 | До 30.04.2014 | без ограничений |
| Унитарное частное полиграфическое предприятие "Друк" г. Гродно, Симонова Павла Петровича | 230029, г. Гродно, ул. Горького, 72Б | 500454435 | 02330/0494262 выдана от 19.05.2009 № 60 | До 19.05.2014 | за исключением периодических изданий |
| Академия управления при Президенте Республики Беларусь | 220007, г. Минск, ул. Московская, 17 | 100035734 | 02330/0494184 выдана от 30.04.2004 № 93, продлена от 03.04.2009 № 38 | До 30.04.2014 | без ограничений |
| Полоцкое республиканское унитарное полиграфическое предприятие "Наследие Скорины" | 211400, г. Полоцк, ул. Гагарина, 8, к. 305 | 300059006 | 02330/0494166 выдана от 30.04.2004 № 93, продлена от 03.04.2009 № 38 | До 30.04.2014 | без ограничений |
| РУП "Издательство "Белорусский Дом печати" | 220013, г. Минск, пр. Независимости, 79 | 100356240 | 02330/0494179 выдана 30.04.2004 № 93, продлена от 03.04.2009 № 38 | До 30.04.2014 | без ограничений |
| ОАО "Светлогорская типография" | 247400, г. Светлогорск, ул. Интернациональная, 30 | 400004226 | 02330/0552757 выдана от 28.04.2010 № 58 | До 28.04.2015 | без ограничений |
| Производственное ЧУП "ПтаХа" | 220012, г. Минск, пер. Калинина, 16, к. 346 | 100421887 | 02330/0494242 выдана от 30.04.2004 № 93, продлена от 20.04.2009 № 46 | До 30.04.2014 | за исключением газет |
| Иностранное производственное ЧУП "Принттим-Пак" | 220075, г. Минск, ул. Селицкого, 35-а | 808000648 | 02330/0494231 выдана от 30.04.2004 № 93, продлена от 20.04.2009 № 46 | До 30.04.2014 | за исключением газет |
| ООО "Творческая мастерская "Арго-Графикс" | 220026, г. Минск, ул. Жилуновича, 15, литер А 7/к-п, к. 402 | 100375618 | 02330/0494193 выдана от 30.04.2004 № 93, продлена от 03.04.2009 № 38 | До 30.04.2014 | за исключением газет |
| ОАО "Полеспечать" | 246707, г. Гомель, ул. Советская, 1 | 400062502 | 02330/0494157 выдана от 30.04.2004 № 93, продлена от 03.04.2009 № 38 | До 30.04.2014 | без ограничений |
| Коммунальное полиграфическое унитарное предприятие"Полиграф" г. Хойники | 247600, г. Хойники, ул. Советская, 50А | 400056639 | 02330/0494141 выдана от 30.04.2004 № 93, продлена от 03.04.2009 № 38 | До 30.04.2014 | без ограничений |

# Рэканструкцыя адносін

## Уладзімір Караткевіч і Ніна Молева. Гульня з каханнем

Дзяніс МАРЦІНОВІЧ

**Даследаванне прысвечана ўзаемаадносінам У. Караткевіча і Н. Молевай, якая выкладала ў пісьменніка гісторыю мастацтваў на Вышэйшых літаратурных курсах у Маскве. Артыкул пабудаваны на параўнанні творчасці Караткевіча (вершы і паэмы, раман "Леаніды не вернуцца да Зямлі", у якім героі дзейнічаюць пад імёнамі Андрэя Грынкевіча і Ірыны Горавай) і перапіскі пісьменніка з Н. Молевай, Я. Брылём і Ю. Гальперыным (урыўкі ліставання з апошнім друкуюцца ўпершыню). Літаратурны фрагмент у рамане па магчымасці суадносіцца з цытатай эпісталярнай спадчыны. Дадзеная праца з'яўляецца рэканструкцыяй, аўтарскай версіяй узаемаадносін паміж У. Караткевічам і Н. Молевай.**

Іх шчасце было нядоўгім. "*Сустрэліся перад самым ад'ездам. <…>. Шляхі абаіх ужо з заўтрашняга дня, і на цэлых паўтара месяца, разыходзіліся. Яго чакалі снягі, сум і ўтрапёная праца, сапраўдны бой, у якім ён павінен будзе выйграць яе, ды яшчэ страшэнная трывога за тое, небяспечнае, што яе чакала. Ён верыў у лепшае, але задушыць гэтую трывогу не мог*" ("Леаніды не вернуцца да Зямлі"). "*Дело решится окончательно в феврале*", — пісаў Караткевіч Ю. Гальперыну 21 снежня 1959 года.

У рамане Грынкевіч пачаў працу без адпачынку. "*Андрэй уставаў у шэсць гадзін раніцы, калі ў гарадку гарэлі толькі рэдкія агні і ранішні снег вішчаў пад лыжамі. З адхону на дняпроўскі лёд, потым на стромы адхон процілеглага берага. Праз дзесяць хвілін ужо не хочацца спаць, знікае некуды свінцовы цяжар стомы. Лыжы бягуць па зарэчных палях, перасякаючы ваўчыныя сляды і хітрыя зайцавы петлі.*

*Вялікі круг на поўнай хуткасці. Потым імпэтны, як падзенне, палёт дном яра, — мільгаюць хмызы над галавой. Можна спыніцца на хвіліну і ўмыцца пякуча-мяккай вадой з палонкі. Але толькі на хвіліну. Не больш.*

*Мезанін. Снеданне з моцнай кавай... Звычайна першыя радкі даюцца цяжка, быццам цябе ўвесь дзень напярэдадні білі па галаве валікамі ад канапы... Прымусь сябе. Сілком... І вось ужо цябе ўладна ўзяло ў рукі нейкае адчайнадушнае захапленне працай, калі шкада працягнуць руку за папяросай, калі ўспрымаеш як катастрофу тое, што ў ручцы скончылася чарніла. Хістайся, снягір за акном — ты не той, якога мы бачылі, і мне няма да цябе справы... Ляці лепей да тых беларускіх паэтаў, якія параўноўваюць цябе з яблыкам. Работы хопіць, бо гэтым свежым параўнаннем дорыць няшчаснага чытача кожны другі... Падаюць са стала лісты: адзін... другі... трэці... І потым, у гадзіну ночы, вячэра і зноў лыжы: не больш чым на трыццаць хвілін. Гэта каб спаць. Яму вельмі трэба спаць. Заўтра зноў дзень працы*".

А вось што пісаў У. Караткевіч пра свой лад жыцця самой Н. Молевай 2 студзеня 1960 года: "*Сел работать и работаю как чёрт, часов по двенадцать в день. Работал бы и больше, но тогда хуже выходит, я знаю. Больше ничего не делаю. Только утром на час на лыжах. Бегу через Днепр, ухожу в поля или в ближний поредевший лес. Спортсмены за мой бег и гроша не дали бы, но ведь главное не в красоте, а в выносливости*".

Навошта ён так знясільваў сябе? З аднаго боку — каб не думаць увесь час пра каханую. Але, з другога, была яшчэ адна прычына. "*Уж лучше драться, чем помирать — в этом я убеждён*, — пісаў Караткевіч Гальперыну 21 снежня 1959 года. — *А то, что неплохой боец — узнают все. Очередные задачи таковы: к лету нужно заработать двести тысяч. Многовато? Попробуем. Еду в Оршу, шлифую сценарий и посылаю его на конкурс. Делаю две пьесы. Напрягу все силы — только бы не надорваться. Пить и гулять бросил, на счету каждая минута. Ты знаешь, я никогда не брался за этим, но раз нужно, так нужно.*



*Зачем мне это? Куплю в пригороде Москвы домик и машину, чтоб она могла ездить на работу (сейчас у них прекрасная квартира в районе площади Маяковского). Она не пошла бы на это, если б знала, но моя гордость никогда не позволит мне, чтобы она стала хуже жить*" (БДАМЛМ. Ф. 56. Воп. 2. Спр. 14. Л. 38-39).

За гэты час ён напісаў Ніне Міхайлаўне некалькі пранізлівых лістоў. "*Чатыры лісты...*", — кажа Грынкевіч у рамане свайму сябру Янісу. Што ў рэальнасці? Нам вядомыя лісты ад 2, 7 і 16 студзеня. Магчыма, існаваў яшчэ адзін. Але ці так гэта прынцыпова?

"*Зачем я себе, если вас нет рядом? Зачем мне руки, если я не могу обнять вас, глаза, если я не могу смотреть ими в ваши глаза, стихи, если я не могу писать о вас и для вас.*

*Вы моя первая, которой не было, вы моя самая всесильная и последняя.*

*Понимаете, мы вечны. Может быть, я искал вас пятьсот лет назад и вы скрылись от меня. Но я всё равно, всё равно вас найду. Мне уже не стыдно и не страшно ни людей, ни земли, ни слов — разве не всё равно?*

*Милая моя, мой хохлик с фонариком, моя глазастая синяя пролеска, птица-синица, добрый огонёк в метель, пушистый мой заяц — дайте уж мне сказать то, что не смог сказать в глаза. Ваши голубые руки — целую их. Не могу без них*".

Дык вось, працягнем фразу Андрэя ў рамане: "*Чатыры лісты і ні на адзін няма адказу*". 8 лютага 1960 года Караткевіч піша Гальперыну з Оршы:

"*Ф-фу-у! Как гора с плеч свалилась. Сделал, наконец-то, большую часть работы и только что вернулся из Минска, где бегал по редакциям.<…> Пьесу отдал Макаёнку на прочтение, ему же один киносценарий. <…> Второй Галка* (жонка сябра Караткевіча — Валянціна Краўца. — **Д. М.**) *отнесёт на тайный конкурс. <…> Кроме того отдал в "Полымя" поэмку и два рассказа, в "Маладосць" кое-какие стихи, на телевидение кое-какие стихи и т.д. <…> И всё это, кажется, зря. За месяц — ни слова от неё. Печально. Но что же сделаешь. Не прикажешь ведь*" (БДАМЛМ. Ф. 56. Воп. 2. Спр. 15. Л. 1-2).

У лютым Караткевіч вярнуўся ў Маскву. Ці дапамагло Н. Молевай лячэнне за мяжой? У рамане пра гэта паведамляецца наступнае: "*Нічога не змянілася. Аперацыю палічылі немагчымай*". Што адбывалася ў рэальным жыцці?

29 лютага 1960 года Уладзімір Сямёнавіч пісаў Янку Брылю з Масквы: "*На вакацыях я паміраў кожны дзень: яна была ў Вене, у клініцы. І там адмовіліся. А стан усё пагаршаецца. І вось прыгожы, поўны сіл чалавек, чалавек вялікае душы і мужнасці, адна з самых разумных жанчын, якіх я сустракаў, гіне. Як апошняе — вырашылі зрабіць аперацыю тут, — нейкія звышмоцныя магніты. І шансаў на поспех — адзін з сотні. <…>*

*Узяць бы яе сілай з гэтай хлусні, з гэтага вялікага, абыякавага да чалавечай пясчынкі горада.*

*Нельга. Урачы даглядаюць. І так некалькі месяцаў. Там хірургічны скальпель. І так, як зараз, я не магу бачыць яе калі захачу, хоць бы адчуваць подых за сцяною, — так, я не магу стаяць каля клінікі, пытацца пра яе, насіць ёй кветкі. Гэта будзе другі ўсё рабіць. Проста так, як спакойны абыякавы муж. Без асаблівага болю сардэчнага*".

Пасля вяртання з-за мяжы адносіны паміж закаханымі істотна змяніліся.

"*Ты ведаеш, я зрабіў усё, што мог*, — казаў у рамане Андрэй Янісу. — *І вось я пяць разоў сустракаўся з ёю, і яна кожны раз пазбягала размовы аб гэтым... Тройчы прызначала спатканне і падманвала, не прыходзіла. А я, здаецца, зусім страціў гонар. Прызначае на пяць. Я чакаю да паловы шостай, потым кажу сабе, што пераблытаў, пэўна, і спатканне ў шэсць. Чакаю да паловы сёмай і даю сябе ўмовіць, што, можа, у сем. <…> І так было потым усе тры тыдні*". А потым "*ён раптам зразумеў, што яна ніколі не будзе з ім. І адначасова ўцячы ад яе ён не можа, а без яе няма жыцця. Значыць, няма чаго супраціўляцца. Жыццё абрыдзела, жыццё не дало шчасця — нашто тады ўсё*".

Грынкевіч задумаўся пра самазабойства. Але ў апошні момант яму ў рукі трапіўся ліст ад сябра з Мінска Якуба Каптура: "*...Мне цяжка гаварыць аб гэтым... Палічы сабе ты мяне бурклівым дзядзькам, палічы нават пашляком, але, слухаючы твае словы, я міжвольна думаў: колькі харошых, мілых, цудоўных, юных, разумных істот марыць недзе сустрэцца з такім чалавекам, як ты, дарагі мой дзівак, паэт, сумленны чалавек!*" Менавіта ліст, а таксама перажыванні сябра Яніса выратавалі Грынкевіча ад паспешлівага ўчынку.

Сёння вядома, што за псеўданімам Якуб Каптур хаваўся Янка Брыль. Больш таго, 8 сакавіка ён напісаў Караткевічу ліст, які з невялікімі скарачэннямі быў устаўлены ў раман!

16 сакавіка 1960 года Уладзімір Сямёнавіч зноў пісаў Брылю ў Мінск: "*Разумееце, з астатнімі мне сумна і нудна. Я і спрабаваў клін клінам выбіваць — не атрымоўваецца. Пуста. Заўсёды тыя самыя, — з невялічкімі варыяцыямі, — прыёмы флірта і тэмы для размоў. Я прайшоў той час, калі дастаткова цалавацца ў парку і ляжаць поруч (хоць, вядома, гэта добрыя рэчы). Мне патрэбны друг, на якога я спадзяваўся б як на самога сябе і нават больш, друг разумны, друг, які можа ўсё зразумець і не будзе патрабаваць лейцаў. Які верыць мне да канца і якому я сам веру. <…>*

*Не скажу пра старэйшых жанчын, але з маладых гэта адзіная, з якой мне лёгка. Нам ніколі не бывае сумна, калі мы разам, у нас заўсёды ёсць што сказаць адзін аднаму. Нам добра нават маўчаць, думаючы аб адным*".

Між тым гульня з боку Ірыны Горавай працягвалася. "*Або будзьце з ім, або пакіньце тлуміць чалавеку галаву*", — казаў ёй у рамане Вайвадс. У рэальнасці 20 красавіка 1960 года Караткевіч пісаў Гальперыну: "*В Москве тихие, ясные и прохладные вечера. И очень мне в этой Москве грустно на сердце. Потому что не ладится, в общем, существование то. С Ниной чепуха и заваруха. И, кажется, я скоро возьму и женюсь на просвирне или на вдове церковного старосты*" (БДАМЛМ. Ф. 56. Воп. 2. Спр. 15. Л. 4 адв.).

Як адбываліся падзеі ў "Леанідах..." далей? "*У адзін з першых дзён мая, калі нават Чыстыя Пруды расквітнелі зялёным колерам жыцця, калі нават мёртвыя дошкі рэдкіх драўляных платоў укрыліся пасля дажджу аксамітным налётам і калі ён сказаў ёй: "так альбо не", — яна адказала з ледзянымі вачыма:*

*— Выявіце раней свой шлях, а потым скажыце мне. <…>*

*— Досыць гуляць у хованкі. Трэба, каб трэці ведаў усё. Застанецеся вы з ім альбо не — хай вырашаюць гэтыя дні. Бо я больш не магу*". У той вечар на размову да Грынкевіча прыйшоў муж Горавай Міхаіл. "*Уначы плыве папяросны дым, // Я сам-насам з кяліхам віна. // Ў мяне размова мужчынская з тым, // Каго кахае яна*", — напісаў Караткевіч у паэме "Плошча Маякоўскага". Сустрэча, зразумела, закончылася нічым.

"*Прайшоў і амаль увесь май, як праходзіць усё добрае на свеце. Пару разоў Андрэй ездзіў у Мінск. У яго адносінах з Ірынай нічога не змянілася. Цяпер яна не мучыла яго, але ўсяляк пазбягала. <…> Гэта станавілася нясцерпным. Андрэй ужо не мог ні есці, ні спаць. Горш за ўсё, што ён разумеў прычыну гэтага, але не мог не кахаць. Розум не меў ніякага дачынення да ўсяго, што з ім, Андрэем, адбывалася*", — так расказваецца пра падзеі ў "Леанідах...".

"*...У канцы мая*, — працягвае аўтар рамана, — *вялікая група хлопцаў і дзяўчат разам з Горавай і Галінай Іванаўнай* (завучам літаратурных курсаў. — **Д. М.**) *паехала на некалькі дзён у Ленінград. Гэта было нешта накшталт развітальнага падарожжа. У чэрвені большасць з іх павінна была назаўсёды раз'ехацца па сваіх гарадах, пакінуўшы Маскву і адзін аднаго. Таму нават у весялосці прысутнічаў нейкі сум. І толькі Грынкевіч ехаў на поўнач радасны, бы ў вясельнае падарожжа. Быць з Ірынай у адным вагоне, жыць у адной гасцініцы, цэлы тыдзень быць з ёю...*

*І ён <…> ведаў: усе гэтыя дні яна аддасць толькі яму, толькі для яго. Усе. Цалкам. У гэтым быў нейкі горкі гонар, які даваў яму сілы жыць. Ірына сапраўды ўсё аддавала яму: кожны позірк, кожны рух, кожнае слова. <…> ...Дзесяць дзён здаваліся вечнасцю. Дзесяць дзён прайшлі. За два дні да тэрміну яна атрымала выклік з Масквы*".

Неўзабаве пасля вандроўкі ў Ленінград адбылася вырашальная сустрэча.

# Родная мова — сімвал яднання нацыі

**Уладзімір БАЦКАЛЕВІЧ**

**Міжнародны дзень роднай мовы быў абвешчаны Генеральнай канферэнцыяй ЮНЕСКА ў 1999 годзе, з 2000-га ён шырока адзначаецца сусветнай грамадскасцю. Яго мэта — захаванне і развіццё знікаючых моў, абарона моўнай разнастайнасці, якая з'яўляецца велізарным здабыткам духоўнай спадчыны чалавецтва. Напярэдадні Міжнароднага дня роднай мовы ў грамадскім прэс-цэнтры Дома прэсы адбылося пасяджэнне “круглага стала”, дзе гаворка ішла пра сённяшні стан існавання і развіцця беларускай мовы.**

**Дырэктар Інстытута мовы і літаратуры імя Я. Коласа і Я. Купалы НАН Беларусі Аляксандр ЛУКАШАНЕЦ** адзначыў: нягледзячы на тое, што зусім нядаўна наша мова занесена ў групу рызыкі міжнароднага атласа моў, яна — адна з найбольш пашыраных пісьмовых літаратурных моў свету. З 3,5 тысячы моў не больш як 400 з'яўляюцца высокаразвітымі літаратурнымі пісьмовымі мовамі, а наша ўваходзіць у першую сотню. А гэта значыць, што яна займае сваё належнае месца і сярод славянскіх моў, і на лінгвістычнай карце свету.

Беларуская мова — гэта высокаразвітая мова, якая можа паспяхова абслугоўваць усе сферы жыцця сучаснага грамадства. Ёсць вельмі істотныя праблемы з існаваннем беларускай мовы як сродку зносін у нашым грамадстве, але і на пачатку XXI стагоддзя беларуская мова выяўляе высокую ступень жыццяздольнасці і жыццёвасці. Яна вельмі вузка, а часам сімвалічна прысутнічае ў афіцыйных сферах ужытку, разам з тым сёння рэальна запатрабавана як сродак зносін у іншых сферах.

Феноменам не цяперашняга існавання з'яўляецца тое, што яна выяўляе тэндэнцыю да пранікнення ў новыя, вельмі актуальныя для жыцця сферы дзейнасці. Перш за ўсё гэта інтэрнэт-камунікацыі. Асабліва маладое пакаленне бачыць, наколькі шырока беларуская мова прадстаўлена ў гэтай прасторы. Па-другое, сучасная беларуская літаратурная мова дастаткова актыўна пранікае ў сферу, дзе яе абсалютна не было 20 гадоў таму, — у сферу набажэнства. Яна гучыць і ў каталіцкім касцёле, і ў праваслаўнай царкве. А гэта значыць, што запатрабавана як элемент духоўнага жыцця нашага грамадства. Нягледзячы на ўсе праблемы, беларуская мова пашырае сваю камунікатыўную прастору. Тым не менш беларускамоўным людзям не хапае беларускамоўнага асяроддзя.

— Адно з апошніх даследаванняў паказала: 80 працэнтаў жыхароў краіны называюць сябе беларусамі, а моваю карыстаюцца ўсяго 10 — 20 працэнтаў з іх, — зазначыў **Тадэвуш СТРУЖЭЦКІ, намеснік міністра культуры**. — З аднаго боку, разумеем, што мова — адзін з важнейшых сімвалаў дзяржаўнасці, без роднай мовы не можа паўнацэнна існаваць беларускі народ. З другога боку — разумеем, якая рэальная яе запатрабаванасць. Трэба вывучаць прычыны і шукаць шляхі, як вырашыць праблему.

Сфера культуры была і застаецца натуральным і абавязковым асяроддзем для функцыяніравання беларускай мовы. Цяпер уся наша заканадаўчая і нарматыўная база сфарміравана на беларускай мове. Усе супрацоўнікі — ад міністра да бухгалтараў — кантактуюць на роднай мове. У бліжэйшай перспектыве плануем падрыхтаваць беларускамоўны кодэкс пра культуру — звод усіх законаў і найважнейшых нарматыўных дакументаў. Дзяржаўная праграма “Культура” прадугледжвае асобныя мерапрыемствы папулярызацыі роднай мовы.

Так, нас могуць папракнуць, што не ўсе ўстановы культуры шырока выкарыстоўваюць беларускую мову. Сапраўды, праблема ёсць, яна мае і рэгіянальны характар. Але мы заўсёды паўтаралі і паўтараем, што беларуская мова павінна жыць у рэпертуарах прафесійных і аматарскіх калектываў, гучаць на міжнародных фестывалях, конкурсах і гэтак далей. Бадай, многім знаёмы фестываль “Звіняць цымбалы і гармонік”. Дык вось, уся рэкламная і даведачная прадукцыя, правядзенне, рэжысёрскія і сцэнаграфічныя матэрыялы рыхтуюцца на беларускай мове. Мы гэтым самым прыцягваем увагу сваіх гасцей да таго, што карыстаемся вельмі прыгожай мовай.



Фота Уладзіміра Нікалайчыка

Мы — прадстаўнікі інтэлігенцыі, на нас ляжыць высокая адказнасць за захаванне, падтрымку і распаўсюджванне нашай мовы. Безумоўна, такая ж адказнасць ляжыць сёння і на сферы адукацыі. Я асабіста лічу, што беларуская мова там павінна выкарыстоўвацца больш шырока.

— Беларуская мова, як і руская, уведзена ў школьныя праграмы з першага класа, — патлумачыла **Ганна ВАЛОЧКА, загадчыца лабараторыі гуманітарнай адукацыі Нацыянальнага інстытута адукацыі, доктар педагагічных навук**. — У 2-х, 3-х, 4-х класах колькасць гадзін размяркоўвалася ў залежнасці ад мовы навучання. Калі мова навучання руская, то тады на ўрокі рускай мовы ідзе 3 гадзіны на тыдзень, а беларускай — 2 гадзіны. І наадварот, калі мова навучання беларуская, то ўрокі беларускай — 3 гадзіны і 2 гадзіны рускай мовы на тыдзень. Такая сітуацыя ў залежнасці ад мовы навучання была. І далей, з 2008 года, ужо беларуская і руская мовы вывучаюцца ў аднолькавай колькасці, што ў рускамоўных, што ў беларускамоўных установах адукацыі. І ў аднолькавай колькасці гадзін: 5-я — 6-я класы па 3 гадзіны, 7-я — 9-я — па 2 гадзіны. У старэйшых, 10-х — 11-х, як з беларускай, так і з рускай мовай навучання вучэбныя планы адводзяць 1,5 гадзіны ў тыдзень на ўрокі па мове. Многа гэта ці мала? Любы прадметнік, ці то фізік, ці то матэматык, скажа, што мала. Але калі ўлічыць тую сітуацыю, што ў старэйшых класах не так даўно ні рускай, ні беларускай мовы не было, калі ўлічыць, што да 2008 года была адна гадзіна на рускую і беларускую мовы, то паўтары гадзіны — гэта лепш…

**Галоўны дырэктар Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё Антон ВАСЮКЕВІЧ** расказаў, што ўжо 85 гадоў кругласутачна на радыё гучыць беларуская мова. Апошнім часам госці радыёэфіра, у тым ліку дзяржаўныя служачыя, эканамісты, эксперты спрабуюць выкарыстоўваць яе ў сваіх каментарыях. Вельмі прыемна, што калегі з Еўрапейскага вяшчальнага саюза ведаюць меладычнасць беларускай мовы: мы накіроўваем ім перадачы падчас абмену вопытам, удзелу ў міжнародных конкурсах і фестывалях.

— Варта дадаць, што ў слухачоў англамоўных перадач ёсць магчымасць вывучаць беларускую мову, — **падкрэсліў дырэктар радыёстанцыі “Беларусь” Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ**. — Гэтыя ўрокі скачваюць, і не толькі сем'і эмігрантаў, але і людзі, якія проста хочуць ведаць мову і гаварыць па-беларуску. Такія ж перадачы створаны на нямецкай і польскай мовах.

Карыстаючыся выпадкам, хачу зрабіць папрок кіраўніцтву Інстытута журналістыкі. Некаторыя яго выпускнікі слаба валодаюць беларускай мовай. Часта пытанні сваім суразмоўцам у эфіры задаюць па-руску і, такім чынам, вымушаюць іх адказваць не на сваёй мове.

— А я хацеў бы шырэйшай моўнай прасторы на тэлебачанні, — не ўтрымаўся **Уладзімір КАРЫЗНА**, паэт, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь. — Асабліва ў плане папулярызацыі беларускай народнай песні. Няма капэльнага выканання. Што, нельга ўключыць у праграмы каналаў выступленні некалі славутага калектыва Рыгора Шырмы? Перад Валянцінай Пархоменкай Амерыка становіцца на калені, а ў нас пра яе забываюцца. Не, родныя песні, іх слынных выканаўцаў трэба вярнуць з нябыту.

**Аляксандр ЛУКАШАНЕЦ:** — Хачу адзначыць, што беларускамоўны асяродак не вычэрпваецца толькі літаратурнай мовай. Існуе шэраг іншых разнавіднасцей: народныя гаворкі, элементы сацыяльных дыялектаў, “тарашкевіца”, “трасянка”. Але ёсць тыя сферы, дзе павінна выкарыстоўвацца толькі беларуская літаратурная мова, — сфера школьнага навучання, афіцыйныя сферы ўжытку, СМІ.

На маю думку, наша мова павінна перастаць быць фактарам канфрантацыі грамадства. Па моўнай прыкмеце і па адносінах да той ці іншай разнавіднасці мовы беларускае грамадства не павінна процістаўляцца. Беларуская мова павінна стаць адным з найбольш важных фактараў яднання нацыі, стаць яе сімвалам. З беларускай мовы, з тых ці іншых яе разнавіднасцей павінны быць зняты любыя палітычныя і ідэалагічныя ярлыкі.

Нават існуючае заканадаўства, калі яго, безумоўна, выконваць, дае вялікія магчымасці для рэальнага пашырэння беларускай мовы ва ўсіх сферах ужытку. Справа не ў законах, а ў канкрэтных мерапрыемствах па яе пашырэнні — яны ўжо, як вы пачулі, даюць свае вынікі.



# Пераадолець час

**Жана ЛАШКЕВІЧ**

21 лютага памёр рэжысёр Рыд Таліпаў. Тры гады таму ён святкаваў сваё шасцідзесяцігоддзе. Традыцыйна яму жадалі доўгіх гадоў жыцця. Прафесійна — спектакляў. “Я шчаслівы, што я тэатральны рэжысёр, — адказваў Рыд. — Гэтая прафесія дорыць бессмяротнасць...”

Наш “ЛіМ” быў ці не першай газетай, дзе ў мінулым стагоддзі пры канцы васьмідзясятых з'явіліся водгукі на яго спектаклі — і першыя мінскія, і далёкія замежныя (у Германіі, Аўстрыі, Польшчы), і шматлікія ў абласных тэатрах. Ва ўсіх.

Здаралася, ён апантана рыхтаваў да выпуску спектакль, а мусіў дбаць пра наступны, не маючы як адмовіць чарговаму просьбіту. Над усімі мастацтвамі ставіў музыку. Марыў увасобіць класічную оперу. Адметна займаўся сцэнаграфіяй (“лепшым сцэнографам” быў названы на адным з фестываляў). Марыў зняць кіно паводле класічнай рускай п'есы. Больш як сур'ёзна ставіўся да знакамітай камедыйнай рэплікі “я смяюся, бо слёз ужо няма”: у Беларусі ўлюбёным жанрам рэжысёра зрабілася трагікамедыя...

Рыд Таліпаў з'явіўся ў Мінску ў 1980-х пасля заканчэння ГІТІСа, патрапіў стварыць студыю “На плошчы Перамогі” з адметным складам удзельнікаў (потым выкладаў і ў Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацваў), а на пачатку дзевяностых яму пашэнціла змяніць адрас і атайбавацца ў вялікім падвале (пад ГУМам). Жартавалі, што “плошча Перамогі” пайшла ў заклад... тэатральных падвалінаў. Калі агульнымі словамі — падвалінаў інтэлектуальнай драмы і новай эстэтыкі, авангарду і псіхалагічнага рэалізму, спавядання адметнай рэжысёрскай школы, якую ў свеце называюць рускай. “Вядома, — казаў Таліпаў, — прафесія магла б і без мяне абысціся. А вось я без яе не магу. Прасторaю мы навучыліся валодаць, а вось як пераадолець час? Мастацтва, мне здаецца, нарадзілася менавіта як жаданне спыніць час. Больш пэўна пасоўвацца ў часе”. Студыйныя спектаклі Таліпава пасоўвалі мастацкі час Беларусі нароўні з нацыянальнымі і акадэмічнымі тэатрамі, так, што ў хуткім часе прозвішча рэжысёра з'явілася на акадэмічных афішах, а ў 2009 годзе ён ўзначаліў Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя Якуба Коласа.

“Мяне вабяць жывыя людзі з жывымі перажываннямі”, — удакладняў Таліпаў. І ставіў “Стрыптыз” С. Мрожака, “Картатэку” Т. Ружэвіча, “Яму” А. Купрына, “Кантрабас” П. Зюскінда, “Вечнага Фаму” Ф. Дастаеўскага, “Пяць вечароў” А. Валодзіна, “Іванава” і “Чайку” А. Чэхава, “Кацярыну Іванаўну” Л. Андрэева, “Таццяну” Н. Птушкінай, “Караля Ліра” У. Шэкспіра, “Месяц на вёсцы” І. Тургенева, “Камедыянта” А. Асташонка, “Стомленага д'ябла” і “Саламею” С. Кавалёва, “Васу Жалязнову” М. Горкага, “Мудрацоў” паводле А. Астроўскага...” Мастацтва, паводле філосафа, — адзенне для нацыі. Мы без мастацтва як голыя...” Праз дваццаць гадоў рэжысёра адзначылі спецыяльнай прэміяй Прэзідэнта Беларусі ў галіне тэатральнага мастацтва.

...Пяцігадовага хлопчыка Рыда маці павяла на “Жызэль” у Вялікі тэатр. Танцавала Галіна Уланава. “Памятаю гэтае чароўнае відовішча, — неаднойчы расказваў Таліпаў. — У другім акце Жызэль выходзіць з магілы ўночы і танцуе. Мяне скалануў гэты балет”. Журналісты часам пыталіся: а чым? Аднойчы Таліпаў адказаў, што “бываюць рэчы, мацнейшыя за нас , і гэтыя сітуацыі трэба ўмець пражыць да канца”.

Як вымагае прафесія.

Беларуская дзяржаўная акадэмія мастацтваў смуткуе з прычыны смерці дацэнта кафедры рэжысуры Фларыта Саліхавіча ТАЛІПАВА і выказвае спачуванні яго родным і блізкім.

Ізяслаў КАТЛЯРОЎ

**"Светлагорск — мой бацькоўскі дом", — кажа прафесар Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі, заслужаны дзеяч мастацтваў, ганаровы грамадзянін Светлагорска Уладзімір Зінкевіч, з якім гутарым у яго мінскай майстэрні.**

# Пошукі і знаходкі… сябе



*— Уладзімір Леанідавіч, аднойчы вы зазначылі: "Правінцыя павінна быць адважнай, нават па-добраму дзёрзкай". Мусіць, гэта ў нейкай ступені можна праілюстраваць і падзеямі вашага жыцця?*

— Мабыць, так. Але казаў я, вядома ж, не толькі пра сябе. Правінцыяльнасць, перш за ўсё, духоўнае паняцце. Яна можа прысутнічаць (і прысутнічае, на жаль) у шматлікіх сталічных жыхароў. А можа зусім адсутнічаць (і адсутнічае!) у многіх з тых, хто жыве, здавалася б, у самай што ні ёсць правінцыі. Але для таго, каб такіх людзей было як мага больш, без пэўнай дзёрзкасці ніяк не абысціся. Гэта асобная тэма размовы, і толькі яе хапіла б на ўсё наша інтэрв'ю.

*— А калі гаварыць канкрэтна пра вас? Ці дапамагла вам дзёрзкасць памкненняў?*

— Гэта цяпер пачынаеш нешта аналізаваць, задумвацца. А тады проста жыў. Яшчэ хлопчыкам я валодаў характарам лідара. Ён патрабаваў выяўлення. Вось чаму нярэдка ўзначальваў падлеткавыя кампаніі. Мы тады час ад часу канфліктавалі са сваімі аднагодкамі з Шацілак. Але гэта было больш падобнае на калектыўныя гульні "ў вайну". Ды і ў школе мяне, ніякім прафесарам стаць не марыў. Была дапытлівасць, хацелася ўсё ведаць, разгадаць... І наогул, у маім характары ўжо тады было нешта ад бегуна на доўгія дыстанцыі. Выхоўваў у сабе нейкую няспешнасць усведамлення.

*— І ўсё-такі, калі ўзнікла патрэба ў пэндзлі і фарбах?*

— Таксама не адразу. Наогул заўважыў, што на нас загадкава ўплывае прастора, у якой жывём. Там, дзе пагорыстая мясцовасць, выяўляецца ў людзях імпэт, нецярплівасць... А там, дзе палі, — ураўнаважанасць, спакой, манатоннасць, асэнсаванасць. Мы, светлагорцы, людзі раўнінныя...

А да палатна і пэндзля пацягнуўся, гледзячы на Уладзіміра Васюка, свайго аднавяскоўца. Ён паступіў у мастацкае вучылішча. Я зайздросціў яму. Разам хадзілі на эцюды. Вырашыў паспрабаваць акварэльнымі мядовымі фарбамі напісаць эцюд з краявідам, што бачыўся з акна. Ён нечакана па-добраму ўразіў маіх дзеда і бабку. А потым — чытанне гістарычных аповедаў падахвоціла да алоўкавых малюнкаў.

Памятаю, прыйшоў да нас у спартыўную залу светлагорскі мастак Уладзімір Юшпрах і нібы прысароміў: "Што вы тут кулакамі махаеце?! Студыя мастацкая адкрылася пры Доме культуры энергетыкаў. Прыходзьце маляваць..." Затым было паступленне ў Мінскае мастацкае вучылішча. Конкурс — 15 чалавек на месца. Набіраў вядомы ўжо тады мастак Леанід Шчамялёў. Трэба было намаляваць нацюрморт: чайнік і яблыкі. Атрымаўся на "выдатна". Прынялі. Але да свайго адчування магічнага рэалізму прыйшоў таксама далёка не адразу.

*— Ведаю, што рэпрадукцыі вашых карцін з'яўляліся ў папулярных часопісах "Юность", "Огонёк", "Смена". Адна з карцін, памятаецца, называлася "Старое дрэва"...*

— Так, усё гэта было. Але тады я яшчэ толькі прадчуваў у сабе той магічны рэалізм, да якога набліжаўся інтуітыўна. Першым такім набліжэннем стала карціна "Палескі пейзаж". А творы, узгаданыя вамі, неўзабаве апынуліся ў Траццякоўскай галерэі, былі пеpазамоўлены іншымі музеямі.

*— Пра стылёвыя і жанравыя асаблівасці вашай творчасці мы яшчэ пагаворым. А цяпер вернемся да біяграфіі. Скончылі вучылішча, адслужылі ў войску, паступілі ў Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут на аддзяленне манументальна-дэкаратыўнага мастацтва.*

— Так, гэта было прэстыжна: мазаіка, вітраж, роспіс… Новыя для мяне фарбы. А выкладчыкі якія: Вашчанка, Бараноўскі, Стальмашонак, Раманко… Але і лірычны жывапіс я не пакінуў. Пасля заканчэння інстытута прапанаваў стаць галоўным мастаком у Навапалацку, Светлагорску. Палічыў за лепшае застацца ў штаце камбіната мастацкага фонду Беларусі. Але адчуваў сваю камернасць, а даводзілася выконваць заказы маштабныя... Вось чаму, калі ў 1982 годзе патэлефанаваў Гаўрыла Вашчанка і прапанаваў стаць выкладчыкам БДАМ, без роздуму пагадзіўся.

*— Гэта была рэзкая змена і ў самім ладзе жыцця?*

— Так, безумоўна. Трэба было адпавядаць. А для гэтага не толькі спасцігаць таямніцы педагогікі, але і, як гаворыцца, узвышаць сябе над сабой. Адчуванне таго, што ад цябе залежыць творчы лёс іншых, зусім яшчэ маладых людзей, дапамагала і майму мастакоўскаму станаўленню. Трэба было, як казаў калісьці Чэхаў, штодзень "забіваць у сабе раба".



*— Уладзімір Леанідавіч, у кожнага мастака ёсць свая звышзадача. У чым яна для вас?*

— Знайсці сябе. Сусветнае мастацтва — лабірынт. Не згубіцца ў ім, застацца са сваімі, незапазычанымі эмоцыямі, са сваім каларытам далёка не ўсім удаецца...

*— Прафесар, загадчык кафедры, старшыня рады Беларускага саюза мастакоў, мастак... Хто вы перш за ўсё для сябе?*

— Мусіць, паўтаруся: я ўсё яшчэ ў пошуку самога сябе. Мае шэдэўры — наперадзе. Яны будуць з уплёскаў эмоцый, усведамлення сутнасці быцця. Спадзяюся, што гэтыя работы скажуць людзям: "Шукайце ў нас таямніцу сваёй сутнасці!.." Мастак стварае не толькі характар, але і вобраз. Вось чаму настолькі дарагі мне цыкл карцін пра старыя рэчы. Кветкі закінутага саду, самотныя сядзібы, прадметы побыту, якія страцілі сваю значнасць... Усё гэта вельмі важныя для мяне адчуванні…

*— Вы кажаце, што яшчэ ў пошуку самога сябе. Вы нядаўна адзначылі свой 60-гадовы юбілей. Вас могуць не зразумець…*

— Сапраўдны творца павінен сябе шукаць заўсёды.

*— Хаця б для таго, каб не згубіць сябе ніколі.*

— Менавіта так.

*— Вы захоўваеце даўнюю вернасць акрылавым фарбам. Пры гэтым фрагментарнасць вашых карцін загадкава застаецца цэласнай і сюжэтна, і кампазіцыйна. У карцінах з цыкла "Гульня ў хованкі", ды і ў іншых, уражвае не толькі мастацкая, але і псіхалагічная дакладнасць напісання рук.*

— Акрыл дапамагае мне сваёй мяккай цякучасцю. А фрагментарнасць павінна аб'ядноўвацца агульнай магіяй карціны. Што ж датычыць рук, то яны — больш дакладны і больш выразны вобраз, чым твар. Ды і намаляваць іх не лягчэй. А яшчэ я люблю пісаць віхравую хвалістасць адзення, тканіны, нават паветра... Але ва ўсім павінна быць шчырасць, магія...

*— Вашы карціны выстаўляліся ў самых прэстыжных музеях Беларусі, у шматлікіх краінах свету, але першая персанальная выстаўка адбылася ўсё-такі ў Светлагорску. Гэта быў май 1996 года.*

— Так, я тады вельмі хваляваўся. Вярнуцца ў родныя мясціны са сваімі карцінамі — на гэта трэба было рашыцца. Але ўсё атрымалася выдатна. Потым мне захацелася, каб у светлагорскай галерэі наладзілі свае выстаўкі мае калегі па БДАМ. І яны сталі сябрамі нашага горада.

*— Францыя, Італія, Германія, Грэцыя, Аўстрыя, Польшча… Пералік дзяржаў, у якіх пабывалі вы з персанальнымі і калектыўнымі выстаўкамі, можна значна павялічыць. Ці было адчуванне таго, што спраўдзілася мара дзёрзкага ў сваіх памкненнях хлопчыка са Светлагорска?*

— Радасць у мяне заўсёды суседнічае з адказнасцю. Адчуванне таго, што па маіх карцінах будуць меркаваць пра стан беларускага жывапісу, як гаворыцца, пераямшчае акцэнты. І наогул, знаходзячыся за мяжой, яшчэ больш абвострана адчуваю любоў да роднай Беларусі. Ды і Светлагорск бачыцца мне адтуль не толькі памяццю дзяцінства.

*— У вас мастакоўская сям'я. Жонка Валянціна Сідарава таксама выкладае ў Акадэміі мастацтваў. Мы знаёмыя з яе творчасцю па персанальнай выстаўцы ў нашай карціннай галерэі, па пранізліва-таленавітым ілюстрацыям да шматлікіх кніг. Сын Аляксандр скончыў навучальную ўстанову, у якой вы выкладаеце, і цяпер — дырэктар Палаца мастацтва. Што значыць для вас такое прафесійнае адзінства?*

— Яно яшчэ больш збліжае нас. Мы шмат у чым, а не толькі на бытавым узроўні, аднадумцы: па светаадчуванні, па ўспрыманні прыгажосці, сэнсу жыцця.

*— Асабліва шмат жыццевызначальных падзей адбылося ў вас за апошні час. Другі раз запар вы абраны старшынёй рады Саюза мастакоў, сталі ганаровым акадэмікам Расійскай акадэміі мастацтваў, намеснікам старшыні рэспубліканскага Савета па выяўленчым мастацтве пры Міністэрстве культуры Беларусі… Але і геаграфія выставак вашых твораў уражвае.*

— Яны паказваліся ў Міжнародным мастацкім салоне Цэнтральнага Дома мастакоў у Маскве, на выстаўцы беларускага жывапісу ў Лондане, Кітаі і Сірыі, у нашым Мірскім замку… Гэта датычыць не толькі мяне. Пашырыліся нашы творчыя стасункі з многімі краінамі. У тым ліку з мастакамі Венгрыі, Літвы, Германіі, Швецыі…

*— І ўсё ж юбілей. Якія думкі і пачуцці выклікае ён у мастака Уладзіміра Зінкевіча?*

— Гэта яшчэ адна магчымасць крытычна паставіцца да самога сябе, прад'явіць больш жорсткія патрабаванні. І яшчэ гэта магчымасць (ці абавязак?) зрабіць творчую справаздачу. Выстаўка ў Пасольстве Чэхіі ў Беларусі ўжо адбылася. Восенню будзе ў новай галерэі "БелАрт".

*— Дадам, што зараз у Светлагорску праходзіць выстаўка твораў вашых вучняў — лаўрэатаў, стыпендыятаў і дыпламантаў спецыяльнага фонду Прэзідэнта Беларусі па падтрымцы таленавітай моладзі, а ў верасні чакаем вашу персанальную выстаўку ў нашай карціннай галерэі "Традыцыя" імя Германа Праішнікава.*

— Спадзяюся, што так яно і будзе.

*— Вы часта бываеце ў Светлагорску. Ці радуе ён вас сваімі зменамі?*

— Горад змяняецца да лепшага вельмі прыкметна. Але яшчэ больш уразліва змяняецца яго духоўная атмасфера. Ён проста творыць рэаліі іншага жыцця. І заслуга карціннай галерэі ў гэтым бясспрэчная. Цяпер, калі мне прысвоілі званне ганаровага грамадзяніна Светлагорска, я адчуваю сябе ў сталіцы своеасаблівым паслом гэтага горада. Адказнасць вялікая. І калі быць цалкам шчырым, то трэба сказаць, што цяпер, калі мае бацька і маці спачываюць на светлагорскіх могілках, горад пэўным чынам замяніў мне бацькоў. Я прыязджаю ў яго, як у бацькоўскі дом.



***На здымках: творы Уладзіміра Зінкевіча з фонду Светлагорскай карціннай галерэі: "Сцяна"; "Вечар"; "Пячота".***

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА

# У прыгажосці свае законы

**Барыс Крэпак — адзін з самых вядомых і паважаных мастацкіх крытыкаў у Беларусі. Заслужаны дзеяч мастацтваў, двойчы лаўрэат прэміі “За духоўнае адраджэнне”. Ён — з плеяды тых самаадданых рыцараў пяра, сэнс жыцця якіх — служэнне вялікай справе папулярызатарства лепшых набыткаў айчыннага мастацтва. Мы размаўляем з Барысам Аляксеевічам пра крытыку і крытыкаў, пра мастакоў і творчасць наогул, пра тое, што сёння больш за ўсё хвалюе людзей мастацтва.**



**— Займацца крытыкай — справа складаная і няўдзячная. Можна бясконца прыводзіць прыклады таго, як не прызнаныя крытыкам творцы з цягам часу аказваліся геніямі. Дык, можа, прафесійная крытыка непатрэбна наогул? Можа, ацэньваць творы мастака мае права толькі публіка?**

— Прафесійны крытык вельмі патрэбны ў сённяшняй мастацкай прасторы. Ён павінен быць, умоўна кажучы, кампетэнтным пасрэднікам між гледачом і мастаком. Хто можа сказаць, што такое традыцыя ў мастацтве, у чым сутнасць рэалізму і якія аргументы ў яго антаганістаў, што такое форма і змест, форма і колер? Якія творы неабходныя сёння грамадству, у чым сутнасць узаемадачыненняў мастацтва і рынку і да чаго можа прывесці камерцыялізацыя мастацтва поруч са стратай якасці? Акрамя прафесійнага крытыка — ніхто! Але такіх крытыкаў, здольных даследаваць і данесці да гледача ўсе перапады і метамарфозы творчага космасу, у нас, на жаль, амаль што няма. І гэтым становішчам карыстаюцца дылетанты, якія прысвоілі сабе статус мастацтвазнаўцаў і занялі утвораную нішу. Прычым, імі ў літаральным сэнсе запоўненыя старонкі газет і часопісаў, эфірны час тэлебачання і радыё. Сваімі малапісьменнымі выступленнямі яны ўносяць сумятню ў грамадскую думку. Ужо зніклі крытэрыі ацэнкі таго, што такое добра і што кепска. Гледачы, якія прыходзяць на выстаўкі, папросту не разумеюць сітуацыю ў свеце творчасці, не ведаюць, як успрымаць тую ці іншую з’яву. Асабліва гэта датычыць моладзевых шоу-экспазіцый. Урэшце, хто скажа гледачу, чаму, напрыклад, элементарны салонны кіч так падабаецца шараговаму абывацелю? І чаму “Чорны квадрат” Малевіча, гэтая “ідэалагічная ікона” як сімвал найноўшага нефігуратыўнага мастацтва пачатку XX стагоддзя, і сёння выклікае ўсмешкі?

**— Мы часта карыстаемся ў размовах словам “прыгажосць”. Але ці не з’яўляецца гэтае паняцце індывідуальным?**

— Безумоўна, паняцце “прыгажосць” асабліва індывідуальнае, звязанае з густам, заснаванае на ўласных пачуццях і эмоцыях, меркаваннях навакольных, нават залежыць ад пэўнага настрою, урэшце — ад выхавання, унутранай культуры. Прыгажосць як эстэтычная катэгорыя мае свае законы, азначэнні, формулы...

**— У савецкі час існавалі цэлыя праграмы далучэння людзей да эстэтычнага свету нават са школьнай лавы. Цяпер складаецца ўражанне, што мастацтва спакваля ператвараецца ў нешта элітарнае, у нешта “не для ўсіх”. Ці добра гэта?**

— І ў савецкі час людзей са школьнай лавы не далучалі да выяўленчага мастацтва ў тым аб’ёме, як, скажам, да літаратуры, мовы, гісторыі, фізікі… Школьнікі, ды і студэнты, выхоўваліся на дрэнных рэпрадукцыях рускіх перасоўнікаў і не лепшых савецкіх “сацрэалістаў”, якія друкаваліся ў падручніках і размяшчаліся ў брыдкіх копіях на вакзалах, у атэлях, кабінетах чыноўнікаў. З таго часу шмат чаго змянілася, з’явіліся цудоўныя альбомы і кнігі, у тым ліку прысвечаныя авангарднай класіцы: Пікаса, Міро, Кандзінскі, Малевіч, Шагал…

**— Пэўна, яны неяк паўплывалі на нашу мастацкую моладзь. Бо сёння маладыя беларускія мастакі ў большасці сваёй адмаўляюцца ад перспектывы працаваць у рэалістычным кірунку…**

— Знаёмства з творчасцю авангардыстаў унесла ў наша дрымотнае “акадэмічнае” жыццё сумятню і “раздрай”, бо ніхто не быў падрыхтаваны да іх, так скажам, прымання. І, безумоўна, нашы маладыя творцы, якія ўспрынялі новае мастацтва Захаду як найбольш адпаведнае новаму часу, імкнуцца штосьці зрабіць у сённяшняй духоўнай прасторы, бо яны слушна лічаць, што “старое” мастацтва, на якім выхоўваліся іх бацькі, аджыло сваё. Хаця многія маладыя мастакі добра працуюць і ў так званым рэалістычным кірунку. Бо ў вышэйшым сэнсе — гэта не столькі метад, колькі мастакоўскі лад мыслення. Проста гэтае паняцце яшчэ ў савецкія часы дэфармавалася, дэвальвіравалася і ператварылася ў нейкі жупел, якім палохалі “фармалістаў” і ўсялякіх там “левакоў”. А скажыце, хіба старажытныя егіпцяне, грэкі, рымляне — не рэалісты? А Босх, Эль Грэка, імпрэсіяністы? Ды і “Герніка” Пікаса альбо “Разбураны Ратэрдам” Цадкіна, зробленыя зусім не ў “фігуратыўных” формах, хіба не нясуць больш праўды і ўяўлення пра рэчаіснасць, чым іншыя карціны, намаляваныя “як у жыцці”? Тут я вось што скажу. Не трэба нічога “супрацьпастаўляць” — у кожным мастацкім напрамку, у кожнай плыні, у “рэалістычнай” ці “постмадэрнавай”, калі творы зробленыя на прафесійным узроўні, — ёсць свае вартасці. Усё залежыць ад таленту і мастакоўскай сумленнасці…

**— Журналісты наогул схільныя да сенсацыйнасці. Словы “культурная падзея” выкарыстоўваюць часта. А вось што, на вашу думку, сталася сапраўднымі культурнымі падзеямі ў мінулым годзе?**

— Мяне зацікавіў сацыяльна-культурны праект “Зямля пад белымі крыламі”. Яшчэ было тое цікава, што нашы мастакі ўзялі вельмі актыўны ўдзел ў афармленні знакавых для дзяржавы аб’ектаў, у прыватнасці, замкавага комплексу Мір, павільёна Беларусі на Сусветнай выстаўцы ў Шанхаі…

**— Беларусь на сучасным этапе шмат увагі надае развіццю культуры і захаванню спадчыны. Аднаўляем гістарычныя каштоўнасці, рэканструюем тэатры і музеі, абвяшчаем творчыя конкурсы для мастакоў, музыкантаў, літаратараў. А што яшчэ мы не робім? Пра што пакуль забыліся?**

— Асабіста мяне як мастацкага крытыка вельмі турбуе, што выставачныя залы нашых галерэй і музееў пустуюць без наведвальнікаў. Для каго ж мы, урэшце, ствараем выстаўкі? А яшчэ трэба вяртаць імёны тых, хто нарадзіўся на зямлі беларускай, але з-за розных прычын у розныя часы пакінуў радзіму і прынёс гонар і славу іншым краінам далёкага і блізкага замежжа. Гэта — і мастакі, і літаратары, і музыканты, і “кіношнікі”, і людзі навукі.

Віктар КАВАЛЁЎ,
фота аўтара

# Лясная філасофія жыцця

**Як вядома, лес — гэта адно з самых значных багаццяў, шчодры падарунак прыроды ўсяму чалавецтву. Беларуская зямля поўніцца сваімі прыгожымі лясамі, дзе смалісты водар можна піць як цудадзейныя лекі. Да таго ж, Генеральная Асамблея ААН абвясціла 2011 год Міжнародным годам лясоў. Мяркуецца, што гэта дапаможа павысіць дасведчанасць жыхароў планеты пра значнасць лясных экасістэм, іх абароны і аднаўлення. З гэтай нагоды Нацыянальная бібліятэка Беларусі сумесна з Міжнароднай гільдыяй жывапісцаў у галерэі “Лабірынт” прадстаўляе ўласны культурны праект на лясную тэматыку — Фестываль пейзажа, — скіраваны на прыцягненне ўвагі грамадскасці да захавання прыроднага багацця краіны.**



Іван Семілетаў “Зімовыя кантрасты”

У экспазіцыі — жывапіс, графіка, фотаздымкі. Сярод аўтараў — Аляксандр Грышкевіч, Алесь Суша, Ягор Батальёнак, Георгій Паплаўскі, Віктар Суглоб, Валерый Вядрэнка, Вадзім Качан…

Куратар праекта, загадчык аддзела галерэйна-выставачнай дзейнасці НББ, старшыня Міжнароднай гільдыі жывапісцаў Фёдар Ястраб зазначыў, што, можа, і не ўсе творы датычаць лясной тэматыкі, бо тут размова ідзе мовай пластыкі, мовай мастацтва пра лес, а больш пра сябе: як мы перажываем, як адчуваем, што думаем, як уяўляем лес. А гэта важней, чым проста сама тэма лесу. Для любога фатографа фотаздымкі — гэта не толькі мілаванне лесам, а адчуванне сябе ў лесе, адчуванне сябе часткай прыроды.

Асабіста для Фёдара Ястраба з самага дзяцінства лес — цэлы сусвет. Ён не ведаў тады пра будову сусвету, дзе якія планеты, але ведаў, дзе які пянёк у ягоным лесе. Так бы мовіць, быў час, “калі дрэвы былі вялікія”. Але вялікім лес застаўся і да гэтага часу. Бо ён — цэлая філасофія жыцця, царства Берандзея, казка, дзе жылі невядомыя для яго істоты, дзе заўсёды вiравала жыццё. Лес — гэта не нешта адчужанае ад яго, а частка яго, як і ён сам, напэўна, быў часткай для лесу. У сівую даўніну погляд нашых продкаў на светабудову вызначала першародная прырода. Пасяленні і гарадзішчы паўставалі каля вялізных гушчароў, па берагах азёр і рэчак, пасярод амаль непраходных балот. І цяжка ўявіць, якой разнастайнай і прыгожай была іх флора і фаўна.



Ніна Гольшава “Лясная паляна”

Фёдар Адамавіч падкрэсліў, што пераважная большасць мастакоў, пісьменнікаў, творцаў якраз з мясцін вясковых, дзе з маленства яны назіралі прыроду якой яна ёсць. Няма лепшага настаўніка для любога творчага чалавека, чым прырода. Толькі яна можа прымусіць нас па-сапраўднаму палюбіць зямлю. Асфальт, напэўна, дапамагае стаць на ногі больш рафінаваным паэтам. Тым не менш, адчуванне лесу з дзяцінства зачароўвае, захапляе і застаецца на ўсё жыццё. Галоўнае не непасрэдна, знешне адлюстраваць лес, а адчуць яго як жывую істоту, зразумець яго філасофію. Бо ў гэтым і філасофія жыцця. Мастакі па-рознаму ўспрымаюць прыроду: пішуць і абстрактныя палотны, і абсалютна рэалістычныя краявіды.

Таксама бралі слова і расказвалі пра ролю лесу ў іх жыцці такія творцы, як Іван Пятровіч, Дзмітрый Сурыновіч, Анатоль Бяляўскі. Акрамя карцін і фотаздымкаў арганізатары падрыхтавалі тэматычную выстаўку кніг, энцыклапедый, альбомаў на розных мовах, прысвечаных прыродзе і, у прыватнасці, лесу.

Свае шчырыя адносіны да лесу, да жывой прыроды мастакі выказвалі ўжо не адно стагоддзе. І сёння гэта цікавасць не знікла, а стала яшчэ большай. Са з’яўленнем лічбавага фота, камп’ютарнай графікі гэтыя магчымасці значна пашырыліся, набылі новае гучанне.

## Дзівасвет

Алесь ВЫСОЦКІ, фота аўтара

**Некалькі тыдняў у Мядзельскім музеі народнай славы можна было пабачыць дзівосныя рэчы, зробленыя сапраўдным майстрам-кавалём. Тут праходзіла выстаўка пад назвай "Хвіліны жыцця", на якой свае творы прадставіў каваль з Пастаў Юрась Фурс. Мастацкай апрацоўкай металу ён займаецца больш як дваццаць гадоў. Работы каваля знаходзяцца ў прыватных калекцыях Германіі, ЗША, Швецыі, Галандыі, Латвіі ды іншых краін.**





# «Хвіліны жыцця» Юрася Фурса

Прэзентацыя выстаўкі ўключала ў сябе не толькі знаёмства з экспанатамі: можна было паглядзець дакументальную стужку рэжысёра Вольгі Дашук "Хвіліны жыцця Юрася Фурса". Сутнасць яе каваль вызначыў проста: "Бацька з сынам у майстэрні займаюцца любімай працай — у суладдзі з душой і вясковым каларытам".

І, бачна, назва стужкі Юрасю Фурсу спадабалася. Недарэмна яна ж "перакачавала" ў назву выстаўкі, якую аўтар прысвяціў бацькам.

— Вельмі ёмістая назва, — прызнаецца ён. — Кожная хвіліна для мяне мусіць быць розная, цікавая. Для гэтага ж і жывём.

Выстаўка атрымалася шматгранная. Тут і рэчы для інтэр'ера, сувеніры, арт-аб'екты, і незвычайныя творы: карціны пастаўскага мастака Іосіфа Атрахімовіча ў аздабленні з металу. Але, бадай, галоўнымі для Юрася з'яўляюцца тыя вырабы, які ён адносіць да катэгорыі "канцэптуальных".

— Яны адлюстроўваюць мае хваляванні, тое, што хацеў асэнсаваць і данесці да людзей, прымусіць іх паразважаць, — дзеліцца ён.



У выніку такіх асэнсаванняў звычайная барана ператвараецца ў сімвал паміраючай вёскі. А іншай работай — "Я нарадзіўся тут" — аўтар хоча знайсці адказ на хвалюючае пытанне:

— Навошта мы жывём? Мы ўсе нарадзіліся тут — ці проста жывём, не ведаючы сваіх каранёў, ці мы лепшыя: хочам вучыцца, ствараць, несці ў свет дабрыню і прыгажосць?

Падчас гутаркі з творцам неадчыўна зайшла размова пра гісторыю і будучыню кавальства.

— Цяпер яно стала экзатычным рамяством, надта мала людзей ім займаецца, — такую сумную высноў робіць майстар. — Бо вельмі ж шмат трэба працаваць і багата высілкаў трэба, каб наладзіць кузню і працэс.

Шкадуе каваль, што моладзь не імкнецца пераймаць яго навыкі. За ўсе гады вучняў пятнаццаць у яго было — і сама болей на паўтара года адзін з іх затрымаўся. Тым не менш Юрась Фурс спрабуе выклікаць у людзей цікавасць да кавальства. Дапамагаюць у гэтым і знаёмства з яго вырабамі, і наведванне аграсядзібы "Трабуцішкі", якая належыць сям'і Фурсаў. Каб аднавіць тут старадаўні беларускі інтэр'ер, давялося ў розных мясцовасцях рэчы пашукаць. Затое цяпер невялічкі этнаграфічны музей атрымаўся. І хоць аграсядзібай з элементамі вясковага побыту турыстаў ужо цяжка здзівіць, ёсць у "Трабуцішках" свая адметнасць. Гэта кузня, дзе кожны ахвотны можа паўдзельнічаць у майстар-класе ці хоць колькі хвілін пабыць кавалём. А яшчэ пачалі тут ствараць музей кавальства. Як вынік, сядзіба "Трабуцішкі" перамагла ў рэспубліканскім конкурсе "Лепшая аграэкасядзіба 2009 года" ў намінацыі "За захаванне беларускіх традыцый і культуры".

Хоць працуе сядзіба лічаныя гады, адпачывалі тут замежнікі і з бліжэйшай Прыбалтыкі, і з далёкіх Германіі, Францыі, Італіі... Так што і там ведаюць пра беларускіх кавалёў. А цяпер і мядзельчане пазнаёміліся з творчасцю Юрася Фурса, яго "Хвілінамі жыцця". Зрабілі і свае высновы, прыкладам, дырэктар мясцовага музея Святлана Чарняўская:

— Наша жыццё нітуецца з розных хвілін — вельмі разнастайных: радасных і сумных, безнадзейных і ўзнёслых. Кожная такая хвіліна, хочам мы таго ці не, адбіваецца ў нашай памяці. А калі чалавек яшчэ валодае дарам ствараць нешта матэрыяльнае ў спалучэнні з духоўным, то і атрымоўваюцца вось такія цудоўныя выстаўкі, знаёмства з якімі прымушае думаць, разважаць.

***На здымках: Юрась Фурс; работы майстра — "Бусел" і "Незвычайная карціна".***

**Дарадцам і кансультантам рубрыкі "Дзівасвет" выступае старшыня БСМНТ Яўген Сахута.**

**Водгукі і матэрыялы дасылайце на e-mail: lim_new@mail.ru з пазнакай "Дзівасвет".**

## Творцы

# Да вытокаў «Зубрэвіцкай сагі»

Павел ПАНІЗОЎСКІ

**Аршаншчына годна адзначыла юбілей свайго слыннага земляка, заслужанага дзеяча культуры, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР імя Янкі Купалы, пісьменніка Янкі Сіпакова.**

Вечарына ў гонар юбіляра адбылася ў Аршанскай гарадской бібліятэцы імя Якуба Коласа. Павіншаваць і паслухаць пісьменніка прыйшлі работнікі культуры горада, настаўнікі, мясцовыя літаратары, родныя, школьныя сябры.

З удзячнасцю адгукнуліся гарадскія ўлады на жаданне Янкі Сіпакова перадаць у дар землякам сваю багатую бібліятэку. Прынята рашэнне адкрыць у Цэнтральнай гарадской бібліятэцы імя А. С. Пушкіна навуковую залу Янкі Сіпакова. Сабраныя пісьменнікам кнігі (а сярод іх нямала рэдкіх выданняў і некалькі соцень — з аўтографамі вядомых творцаў-калег), безумоўна, будуць запатрабаваны чытачамі.

Шчырыя, цёплыя словы ўдзячнасці выказалі знакамітаму земляку начальнік аддзела культуры гарвыканкама Г. Святлова, дырэктар гарадской ЦБС С. Жвікава, дырэктар музея У. Караткевіча Г. Юркевіч. Добрую дасведчанасць у творчасці, сардэчную любоў і павагу да "дзядзькі Янкі" выказалі ў сваім эмацыянальным выступленні пляменніцы пісьменніка Т. Шачанок і Л. Рэвяка. Спадабаліся ўсім і жывыя, вясёлыя згадкі школьнага сябра юбіляра Ф. Юзафатава. Сваімі шчырымі сяброўскімі ўражаннямі аб прыцягальных чалавечых якасцях і творчасці Я. Сіпакова падзяліліся з прысутнымі зямляк, паэт Павел Саковіч і галоўны рэдактар часопіса "Гаспадыня", пісьменнік Зіновій Прыгодзіч.

## Афарызм

*Чалавек носіць сваё неба з сабою.*

**Уладзімір КАРАТКЕВІЧ**

## З глыбінкі

# Свята ў Дзяржынску

Па дабраславенні Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Філарэта на Дзяржыншчыне прайшоў фестываль праваслаўнай культуры "Кладезь", прысвечаны дню памяці святой блажэннай Валянціны Мінскай. Валянціна Мінская — на Беларусі першая ў XXI стагоддзі, якая была кананізавана Праваслаўнай царквой. Сталася гэта праз 40 гадоў пасля яе смерці.

Фестываль адкрыўся пад званы Свята-Пакроўскай царквы. Сотні жыхароў Дзяржынска, землякоў святой Валянціны, прайшлі пад харугвамі ад царквы да гарадскога Дома культуры, дзе протаіерэй Барыс Палтаржыцкі адслужыў малебен на пачатак добрай справы.

Уражвае вялікі аб'ём мерапрыемстваў фестывалю: праект "Добрыя кнігі", паказ мастацкіх і дакументальных кінафільмаў, выхаваўчыя гутаркі з вучнямі Дзяржыншчыны, штодзённы паказ для вучняў школ драмы "Цар Ірад" у выкананні батлеечнага тэатра Свята-Елісавецінскага манастыра і многае іншае.

Пра навіны праваслаўнай літаратуры расказала ў чытальнай зале Дзяржынскай раённай бібліятэкі сястра Галіна. У гэтай жа зале адбылася сустрэча чытачоў з таленавітай беларускай паэтэсай Таццянай Дашкевіч, якая сталася адной з укладальніц Жыцця Валянціны Мінскай. Яна выканала шмат песень, створаных на ўласныя вершы. Тут жа дырэктар Дзяржынскага Дома народнай творчасці Наталля Ермаловіч прэзентавала прысутным выстаўку фотаработ "Асаблівасці старажытнай пскоўскай архітэктуры" вядомых беларускіх мастакоў Віталя Чарнабрысава і Уладзіміра Суцягіна, творчасць якіх цесна звязана з Дзяржыншчынай. Не абышлі мерапрыемствы фестывалю і навучальныя ўстановы Дзяржыншчыны.

Лявон ЦЕЛЕШ

# На юбілей — у Мар'іну Горку

Пухавіцкая зямля стала па сутнасці другой радзімай для Якуба Коласа. Сюды ён прыязджаў не адным летам, натхняўся мясцовымі краявідамі, плённа працаваў. Сярод напісаных тут твораў — і "Міхасёвы прыгоды", героем якіх стаў малодшы сын народнага паэта. Вось чаму Міхася Канстанцінавіча Міцкевіча дагэтуль цягне на тыя сцяжынкі, па якіх бегаў у маленстве. Нярэдка прыязджае і ў Мар'іну Горку, дзе яму нададзена званне ганаровага грамадзяніна, выступае перад мясцовымі школьнікамі, праводзіць з імі ўрокі ў краязнаўчым музеі, распавядае пра бацьку і шчаслівы час, праведзены разам з ім на Пухавіччыне.

Нядаўна Міхась Канстанцінавіч адзначыў свой 85-гадовы юбілей. І хоць асноўныя ўрачыстасці адбыліся ў Мінску, у Літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа, пухавічане таксама не змаглі абмінуць увагай гэтую знамянальную дату. На сустрэчу з юбілярам прыйшлі школьнікі, настаўнікі, работнікі культуры. Гучалі вершы і песні ў яго адрас, віншаванні ад аддзелаў культуры і адукацыі Пухавіцкага райвыканкама, райкама БРСМ, раённага краязнаўчага музея, настаўнікаў беларускай мовы і літаратуры, работнікаў цэнтральнай раённай бібліятэкі.

З цікавасцю слухалі прысутныя самога юбіляра, сталічных пісьменнікаў Анатоля Зэкава і Яўгена Хвалея, якія прыехалі з ім на гэтую сустрэчу.

Лізавета ШЫЛАЙ

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі", РВУ "Літаратура і Мастацтва"
Галоўны рэдактар Алесь КАРЛЮКЕВІЧ



Адрас рэдакцыі:
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-84-61
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
Аддзелы:
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04, 284-66-71
дадатак "Кніжны свет" — 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва".
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец: Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва".
Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Наклад 3109
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 24.02.2011 у 11.00
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7
Заказ — 876
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686